№9 (972) 6 верасня 2017 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

# Вучэнні з удзелам імавернага праціўніка?




Што ў вачах Уладзіміра Пуціна? Фота зробленае на камандным пункце беларуска-расійскіх вучэнняў 2013 года, чатыры гады таму.

«На вучэннях «Захад-2017» будзе адпрацоўвацца адпор умоўнаму праціўніку з удзелам імавернага праціўніка», — такі анекдот ходзіць у Мінску. Афіцыйна «ўмоўным праціўнікам» на вучэннях лічацца выдуманыя краіны «Лубенія» і «Весбарыя», размешчаныя на захад і паўночны захад ад Беларусі, а таксама «Вейшнорыя», якая займае частку тэрыторыі нашай краіны.

Працяг тэмы на старонцы 2.

## Расследаванне: як беларусы пераплачваюць тысячы даляраў за бясплатныя аперацыі ў дзяржаўных клініках

«НН» стала вядома пра сітуацыю, якая здарылася з былым высокапастаўленым работнікам пракуратуры. Ягоны выпадак дазваляе зразумець схему, па якой дзялкі легальна змушаюць хворых набываць пратэзы па касмічных цэнах з маўклівай згоды (ці спрыяння) дактароў.

Той пенсіянер рабіў сабе аперацыю ў 6-й бальніцы Мінска. Яму ставілі эндапратэз, мянялі сустаў у сцягне праз цяжкую хваробу — коксартроз.

Эндапратэз складаецца з чатырох элементаў, якія замяняюць выдаленыя органы.

Усё прайшло добра, але пракурорскае вока здольнае зачапіцца за любую юрыдычна недасканалую драбязу. Ён абурыўся тым, што атрыманыя на пастаўлены пратэз паперы не былі аформлены належным чынам.

Ён падаў у суд, які цягнецца дагэтуль, хоча змусіць бальніцу прадаставіць дакументы, якія б адказалі на пытанне «што мне паставілі?».

Некаторыя звесткі, якія былі атрыманыя ў ходзе міліцэйскай праверкі і трапілі ў Рэдакцыю, дазволілі нам зірнуць на сітуацыю з іншага боку і правесці ўласнае расследаванне, выявіўшы іншыя цікавыя схемы.

### «Эндапратэз абраны службовымі асобамі»

Штогод у Беларусі робіцца некалькі тысяч аперацый па эндапратэзаванні.

Норма такая: калі клінічная сітуацыя вымагае выдалення пашкоджаных тканак і імплантацыі штучных костак, дзяржава гарантуе аперацыю па ўстаноўцы пратэза за бюджэтны кошт (у такім разе пратэзы абіраюцца праз дзяржзакупкі), але чарга бывае большай за год. Як нам патлумачылі дактары, яе даўжыня залежыць ад канкрэтнага горада, наяўнасці пратэзаў у бальніцы, ступені падрыхтаванасці арганізма пацыента да такога цяжкага ўмяшальніцтва.

Не ўсе могуць чакаць: боль робіць жыццё невыносным, можа пашырыцца на прылеглы сустаў.

Уявіце сабе псіхалагічны стан чалавека, чыя галава забітая пытаннем: а ці зможа ён хадзіць?

Працяг на старонцы 3.

### Ад Рэдактара

Каб знізіць напружанасць і павысіць давер, кіраўніцтва Беларусі пастаралася праявіць максімальную адкрытасць. На вучэнні «Захад-2017» запрошаныя ўсе ахвотныя міжнародныя назіральнікі.

Нягледзячы на гэта, «Захадам-2017» занепакоеныя ўсе суседзі: Польшча, Украіна, Літва, Латвія, Эстонія. Заклапочанасць выказала і беларуская палітычная апазіцыя, грамадскія арганізацыі. Прычым іх трывога выкліканая не столькі пагрозай канфлікту на граніцах. Усе яны баяцца, што расійскія войскі ўвойдуць у Беларусь і больш не выйдуць. І што тады каму рабіць?

Так здарылася перад вайной у краінах Балтыі. СССР спачатку размясціў вайсковыя базы, пасля змяніў кіраўніцтва, а затым ліквідаваў і дзяржаўнасць.

У 1939-м адмовіліся ўпусціць савецкія войскі толькі фіны. Яны са зброяй у руках абаранялі сваю незалежнасць, але ў выніку адбіліся. І што ж — абагналі па развіцці Эстонію, Латвію і Літву. У пасляваенны перыяд, калі фіны падтрымлівалі максімальна сяброўскія адносіны з СССР, яны ўсё ж упарта адмаўляліся ад правядзення сумесных вучэнняў на сваёй тэрыторыі.

Афіцыйны Мінск падкрэслівае, што Расія не проста «стратэгічны партнёр», а «саюзнік». Пры тым канфліктаў між дзвюма краінамі не злічыць. Былі газавыя і нафтавыя, малочныя войны. Расія ўвяла пагранічны і мытны кантроль. А самае галоўнае — многія ў Расіі не прызнаюць за беларусамі права на самастойнасць. Яны называюць суверэнітэт Беларусі часовай з'явай, памылкай гісторыі. Заявы генерала Рашэтнікава, кіраўніка Расійскага інстытута стратэгічных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта Расіі, нават выклікалі дэмарш беларускага Міністэрства замежных спраў.

Ці ёсць падставы баяцца правакацый і нечаканасцей падчас вучэнняў? Думаю, не. Калі б Масква нешта рыхтавала, мы адчувалі б тое па тоне расійскай прапаганды, па выказваннях ботаў-цвыркуноў у інтэрнэце. Тым не менш сам факт правядзення такіх вучэнняў паказвае, што суверэнітэту Беларусь пакуль мае не больш, чым краіны «сацыялістычнага блока» пры Брэжневе, — «ад сіх да сіх».



# Сілавікам павысяць заробкі

Як стала вядома «Нашай Ніве», да канца года вырастуць заробкі ў беларускіх вайскоўцаў і сілавікоў агулам: у супрацоўнікаў Міністэрства ўнутраных спраў, Следчага камітэта, Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, Дэпартамента фінансавых расследаванняў і г.д.

Рабіцца гэта будзе праз пераразлік памеру грашовага забеспячэння з улікам карэктуючых каэфіцыентаў.

У лічбах, як нам патлумачылі вайскоўцы, гэта будзе выглядаць як працэнт да акладу — некаторыя спадзяюцца на павышэнне акладаў на 40%, але не адразу, а ў два этапы па 20%, першы з якіх мае адбыцца ўжо ў верасні.

У той жа час у сілавікоў могуць забраць некаторыя грашовыя бонусы, якія яны атрымлівалі пры выхадзе ў адпачынак.

Павышэнне памеру грашовага забеспячэння таксама прывядзе да павелічэння вайсковых пенсій.

**Арцём Гарбацэвіч**



# Вядомы краязнаўца Алесь Юркойць асуджаны па справе ашмянскіх мытнікаў

5 верасня ў судзе Партызанскага раёна Мінска абвешчаныя чарговыя прысуды.

Краязнавец Алесь Юркойць **(на фота)** асуджаны на 7 гадоў зняволення. Ён належаў да той групы мытнікаў, якія не прызналі віны і даказвалі, што яны не бралі хабараў.

Былы галоўны інспектар з «Каменнага лога» Аляксандр Лапейка ў судзе прызнаў сваю віну часткова: пагадзіўся, што прапусціў 153 машыны з таварам і перадаваў грошы падначаленым. Суд прысудзіў яго да 5 год пазбаўлення волі.

Акрамя іх, прысуды атрымалі Аляксандр Швінта (7 гадоў пазбаўлення волі), Сяргей Чэпін (5 гадоў пазбаўлення волі), Вадзім Казімірчук (5,5 года пазбаўлення волі), Дзмітрый Курневіч (11,5 года пазбаўлення волі), Віктар Страпко (5 гадоў пазбаўлення волі), Яўген Бабровіч (5 гадоў пазбаўлення волі), Генадзь Часнойць (5 гадоў пазбаўлення волі), Тадэвуш Высоцкі (7 гадоў пазбаўлення волі), Уладзімір Нагорскі (5 гадоў пазбаўлення волі). Большасць з іх да затрымання працавала інспектарамі.

На працэс прыйшлі дзясяткі людзей. Прысутныя ледзь змяшчаліся ў залу пасяджэнняў, і сваякі абвінавачаных прапанавалі выгнаць прэсу: «Мы не жадаем бачыць тут СМІ».

Нагадаем, што справа распачалася вясной 2015 года. Былі затрыманыя некалькі дзясяткаў супрацоўнікаў пункта пропуску «Каменны Лог». Інфармацыя аб справе была агучаная прэзідэнтам краіны на сустрэчы з кіраўніцтвам Мытнага камітэта.

У дачыненні мытнікаў тады завялі 5 крымінальных спраў, а злачынная група, паводле версіі следства, налічвала 58 чалавек.

Былы начальнік Ашмянскай мытні Іван Нівяркевіч быў асуджаны яшчэ ў снежні 2015 года. Ён атрымаў 7 гадоў — Нівяркевіча прызналі вінаватым у хабарніцтве ў асабліва буйным памеры.

Суды над астатнімі мытнікамі пачаліся ў лістападзе 2016 года. Юркойць, у прыватнасці, абвінавачваўся ў атрыманні хабару у 12,7 тысячы даляраў. Сваю віну ён не прызнаваў.

Юркойць быў вядомы як грамадскі і культурны дзеяч, ён быў адным з рухавікоў беларускага нацыянальнага жыцця на Астравеччыне. Праводзіў мастацкі пленэр, курсы «Мова нанова», паставіў помнік каліноўцам. Сябры ўпэўненыя: хто-хто, а Юркойць не мог браць на лапу. Ён апынуўся за кратамі па прынцыпе калектыўнай адказнасці, мяркує шоўмэн і паэт Усевалад Сцебурака, але ён не вінаваты і мусіць быць апраўданы.

На папярэднім працэсе самае суровае пакаранне атрымаў былы мытнік, а пасля бізнэсмен Гарнік Сарумянц — 11 з палавай гадоў узмоцненага рэжыму з канфіскацыяй 1,8 мільёна даляраў, знойдзеных пад ваннай у кватэры.

З 1 кастрычніка Ашмянская мытня спыніць існаванне. У тым ліку каб «увесь асабовы склад вынес вельмі сур'ёзную навуку з шэрагу спраў», заявіў раней старшыня Мытнага камітэта Юрый Сянько.

**Сяргей Гезгала**

### Сцісла

**У Брэсцкай вобласці за суткі прапалі шэсць грыбнікоў**

За суткі зніклі шэсць грыбнікоў, паведамляе БелТА. Гэта здарылася ў Баранавіцкім і Ганцавіцкім раёнах. Пяць чалавек удалося адшукаць. А вось 85-гадовага чалавека з вёскі Макаў знайшлі ў канаве нежывым.

**У школах уводзяць платную «недадлёнку»**

Новую платную практыку ўводзяць школы, яны прапануюць аддаваць дзяцей малодшых класаў у платныя групы. Гэта датычыць тых дзяцей, чые бацькі пачынаюць працаваць раней за час пачатку заняткаў — а з новага навучальнага года гэта пераважна 9:00.

За паўтары гадзіны знаходжання ў такой групе «недадлёнкі» — 2,38 рубля за чалавека, за гадзіну — 1,88.

«З дзецьмі ў гэты час будзе займацца псіхолаг, харэограф... Работа спартыўных залаў будзе арганізавана», — апісала нам завуч адной са школ, чым у гэты час будуць займацца дзеці.

**Арцём Гарбацэвіч**



### Самае чытанае на nn.by за жнівень

1. Расследаванне: як беларусы пераплачваюць тысячы даляраў за бясплатныя аперацыі ў дзяржаўных клініках
2. Прэс-служба Лукашэнкі пра загадкавае ФОТА: Коля без таты і мамы паехаў электрычкай у Магілёў
3. Парачку забралі ў міліцыю за сэкс у парку. А яны заняліся сэксам і ў міліцыі
4. Пераможца конкурсу пісьменнікаў папрасіў Чаргінца прамаўляць на ўзнагароджванні па-беларуску. Чаргінец: «Сукін сын»
5. У брэсцкай дзіцячай бальніцы памерла некалькі дзяцей — сям'я распавяла падрабязнасці
6. Кіраўніца навін БТ трапіла ў скандал на паркоўцы ВІДЭА
7. Мітрапаліт Павел: «Сёння мы зняважым Мікалая ІІ, а заўтра будуць зняважаць Леніна»
8. П'яны дэсантнік ударыў журналіста НТВ у жывым эфіры ВІДЭА
9. Топ-10 мемаў і жартаў пра Вейшнорыю і вейшнорцаў
10. Аляксандр Лукашэнка з сынам Мікалаем у суботу капалі бульбу. Сцвярджаюць, што сабралі 105 тон ВІДЭА

# Расследаванне: як беларусы пераплачваюць тысячы даляраў за бясплатныя аперацыі ў дзяржаўных клініках

Працяг са старонкі 1.

Ці не стане цяжарам для сям'і, калі прамарудзіць і дапусціць прагрэс хваробы?

Для такіх выпадкаў існуе платная аперацыя — пацыент пасля кансультацыі з доктарам абірае сабе пратэз, плаціць грошы ў касу бальніцы, за гэтыя грошы бальніца набывае пратэз, нехта з дактароў яго ставіць.

Людзі, бывае, залазяць у вялізныя крэдыты, каб мець магчымасць аплаціць пратэз — цана на імпартныя пачынаецца звычайна ад $1500 і даходзіць да $3500.

Ад пратэза, запэўніваюць медыкі, залежыць ад клінічнай сітуацыі і ўзросту пацыента — часам можна паставіць таннейшы. Бывае, лепш ставіць даражэйшы, зроблены з больш дарагіх і трывалых матэрыялаў. Таксама залежыць ад фінансавых магчымасцяў — хтосьці (і гэта тыповая сітуацыя) адмыслова просіць самы дарагі.

Фірмаў жа ў Беларусі, якія пастаўляюць пратэзы, нямнога.

Вялікіх гульцоў на рынку пяць — кожны з іх звычайна пастаўляе вырабы адной фірмы: вытворцам нявыгадна мець у адной краіне некалькі канкуруючых прадстаўніцтваў.

Буйныя гульцы — гэта пастаўшчыкі *Depuy, Medacta, Covision, Link, Smith&Nephew* і беларускі вытворца *Altimed.*

Пенсіянер пасля кансультацый з доктарам адмовіўся ад пратэза беларускага вытворцы і набыў пратэз швейцарскай вытворчасці *Smith&Nephew* за 5254 рублі. Яшчэ каля 150 рублёў сышло на аплату палаты, расходныя матэрыялы і гэтак далей — гэта грошы, якія атрымала бальніца (каля 3,5% ад кошту пратэза).

Сама аперацыя бясплатная — гэта значыць, яна фінансуецца з нашых з вамі падаткаў, з якіх аплачваецца праца дактароў у Беларусі: яны пасля атрымаюць ганарар за цяжкую аперацыю — усяго 60 рублёў на ўсіх, хто спрычыніўся, ад хірурга да анестэзіёлага (каля 1,5% ад кошту пратэза).

Чаму быў абраны пратэз менавіта фірмы *Smith&Nephew*?

Працытуем тут вынікі праверкі УБЭЗа:

«Эндапратэз абраны службовымі асобамі бальніцы №6, сыходзячы са стану здароўя хворага, у сувязі з чым яму прапанавана набыць эндапратэз *Smith&Nephew*», — гаворыцца там.

Як абіраецца фірма, у якой купіць пратэз? Зноў цытуем праваахоўнікаў:

«Дактары ўказаных медыцынскіх установаў звязваюцца з дырэктарам кампаніі «МедОрта» і пакідаюць заяўкі на патрэбны камплект эндапратэза».

Гэта, як мы высветлілі, — заведзеная практыка. Праз тое, што пастаўшчыкоў у прынцыпе няшмат, выбар абмежаваны.

Напрыклад, у Брэсцкай вобласці дамінуе толькі адзін прадавец, які пастаўляе фірму *Link.*



Так можа выглядаць пастаўлены пратэз.

### Сямейны бізнэс на сотні тысяч

Што ж за фірма пастаўляе пратэзы *Smith&Nephew* для хворых, пераважна немаладых людзей, якія звяртаюцца ў бальніцу №6 Мінска?

Беларуская фірма «МедОрта» зарэгістраваная на грамадзянку Беларусі Наталлю Казярог. Кампанія не вырабляе пратэзы *Smith&Nephew*, яна толькі пасярэднік у пастаўках. «МедОрта» закупляе тыя пратэзы ў піцерскай фірмы «ОРТО», а «ОРТО» — у яшчэ адной расійскай фірмы «ДэОст». Вось такі даўжэзны ланцужок.

Мы звярнулі ўвагу на іншы цікавы факт — піцерская фірма «ОРТО» з гэтага спісу належыць грамадзяніну Расіі Валерыю Казярогу, які даводзіцца мужам Наталлі Казярог — заснавальніцы беларускай «МедОрта».

Законам такія схемы не забароненыя, бо гэта не сфера дзяржаўных закупаў — кліент жа купляе пратэз за свае, а не дзяржаўныя грошы.

Але для якіх мэтаў могуць існаваць гэтыя лішнія звёны ў ланцугу? Мы маем граніцу з Еўрасаюзам, дзе робіцца пратэзы, няўжо нельга завесці іх у краіну без лішняга бегу па Расіі?

Можа быць, тут справа ў элементарным жаданні накруціць цану на кожным пасярэдніку і перакласці тысячы рублёў з кішэні беларускіх пенсіянераў у сваю сямейную кішэню?

Мы пачалі шукаць звесткі аб аналагічных пратэзах, якія закупляюцца ў расійскія бальніцы, і знайшлі іх — на сайце расійскіх дзяржаўных закупак.

Якім жа было нашае здзіўленне, калі мы выявілі касмічныя разбежкі ў цэнах, па якіх такія самыя пратэзы купляюць расіяне.

Вось папера, якую мы здабылі, элемент дамовы піцерскай фірмы «ОРТО» на пастаўку беларускай фірме «МедОрта» эндапратэза, які паставілі нашаму пацыенту.

Паглядзім на цэны. Ножку біялагічнай фіксацыі *SL-PLUS* Наталля Казярог купляе ў свайго мужа за 2000 беларускіх рублёў (61 тысячу расійскіх), чашку — за 1400 рублёў (42 тысячы расійскіх) і гэтак далей. Далей «МедОрта» надбаўляе нейкі працэнт (да 5%) і перапрадае тое беларускім інвалідам.

Такім чынам, у выніку за ножку пратэза *SL-PLUS* пенсіянерпракурор заплаціў 2039 рублёў, за чашку — 1426 рублёў.

А вось, напрыклад, аналагічны пратэз, які закупляе Саратаўскі дзяржаўны медыцынскі ўніверсітэт. Закупка датуецца пачаткам 2017 года — час, калі рабіў аперацыю і наш чытач. Ножку *SL-PLUS* вытворчасці *Smith&Nephew* расіяне купляюць за 1045 рублёў у эквіваленце (32 тысячы расійскіх) за штуку! Гэта ўдвая менш за тую суму, за якую «МедОрта» прадае тое ж самае. Стандартную чашку *Bicon-PLUS* расійскі ўніверсітэт купляе за 575 рублёў (17 600 расійскіх), а беларускі пенсіянер купляе аналагічную за 1426 рублёў (43 800 расійскіх) у эквіваленце!

Па астатніх двух складніках пратэза — укладышы і галоўкі — сітуацыя такая ж самая.

Дарэчы, пераможца тэндара ў Расіі — не афіцыйны дыстрыб'ютар «ДэОст», а абсалютна іншая фірма — «МедыкалТрэйд».

Што датычыць таго «ДэОста», то на сайце расійскіх дзяржзакупак ёсць некалькі згадак пра тэндары, выйграныя гэтай фірмай на пастаўку складнікаў эндапратэза *Smith&Nephew* у бальніцу №1 Краснадарскага края Расіі.

Праўда, гэты кантракт разлічаны быў на канец 2015 года, але ўсё роўна ён паказальны: за тую самую ножку *SL-Plus* «ДэОст» просіць у краснадарскай бальніцы 1000 беларускіх рублёў (31 тысячу расійскіх).

А вось выйграны «ДэОстам» у 2016 годзе тэндар на пастаўку такіх пратэзаў у бальніцу Барнаула: цана на ножку *SL-Plus* — 882 беларускі рублі ў эквіваленце (27 100 расійскіх рублёў).

Фактычна беларускія пацыенты-інваліды больш як удвая пераплачваюць за швейцарскія пратэзы. А розніца кладзецца ў кішэню сям'і Казярогаў? Але толькі Казярогаў ці таксама «службовых асоб, якія робяць выбар», дапамагаючы бальніцам і/або пацыентам вызначыцца з фірмай?

Мы паспрабавалі звязацца з уласніцай «МедОрты» Наталляй Казярог, узяўшы яе адрас у матэрыялах праверкі УБЭЗа. Але ў той кватэры, якую яна назвала міліцыянерам, яна не жыве ўжо 7 гадоў.

Тады мы звязаліся з яе мужам — Валерыем Казярогам. Яго першай фразай пасля нашага пытання пра сямейны бізнэс было «гэта ж не забаронена законам».

Уцямных тлумачэнняў разбежкі ў цэнах ён нам не даў, сказаўшы, што кліентам грэх скардзіцца, бо, маўляў, у якіх Штатах ці Заходняй Еўропе аперацыя абышлася б яшчэ даражэй.

Нашу заўвагу, што сама аперацыя для грамадзян Беларусі бясплатная, і пытанне толькі ў цане на пратэз, ён праігнараваў.

Мы не ведаем, колькі за ўвесь час пераплацілі тысячы беларускіх інвалідаў. Мы здолелі знайсці інфармацыю толькі па галоўках *Smith&Nephew* — адной з частак пратэза («МедОрта» прадае яе беларусам за 1161 рубель, у Расіі гэтая дэталь прадаецца за 316 (!) беларускіх рублёў). Дык вось, адных толькі галовак ад пачатку 2016 года ў Беларусь было пастаўлена на 72 тысячы рублёў.

А фірма працуе тут з 2008 года, таму пра аб'ёмы можна толькі здагадвацца.

Касмічныя цэны — спадарожнік не толькі *Smith & Nephew*. Пратэзы іншых імпартных фірмаў таксама дзіўна даражэюць, толькі перасекшы граніцы Беларусі.

### «У іншай краіне такія пратэзы каштуюць па 1000 еўра, а я плаціў $3500»

Мы маем яшчэ некалькі гісторый, якія дапамагаюць зразумець механізм заахвочвання людзей да папаўнення кішэняў дзялкоў.

«Наша Ніва» знайшла яшчэ некалькі чалавек, якія стаяць ці стаялі на ўліку як тыя, каму патрэбна пратэзаванне.

Вось што расказаў чалавек, які паставіў сабе самы дарагі пратэз без чаргі.

«Мяне аперавалі ў 6-й бальніцы Мінска. Якую марку пратэза паставілі? Я не ведаю, па шчырасці, у дакументах гэтага не напісана (яму паставілі пратэз вытворчасці фірмы *Medacta* — гэта «Наша Ніва» высветліла, прааналізаваўшы ягоную дамову, дзе насамрэч няма назвы фірмы). Думаў, пасля трох месяцаў на агляд прыйду і там назву дадуць, але не далі, а я яшчэ ў такім стане быў, што і не спытаў... А як я дайшоў да імпартнага? Ну, мне сказалі, што ніякага выйсця няма — толькі пратэзаванне. Вельмі цяжка было... У кансультатыўным аддзеле ў бальніцы мне сказалі, што чарга будзе — гады тры! Сказалі падысці да загадчыка аддзялення артапеды, каб даведацца, ці можна платна зрабіць. Ну канечне, я пайшоў, а што рабіць. Ён мне на паперцы напісаў назвы фірмаў, я толькі ў інтэрнэце чытаў, абраў нейкі швейцарскі. Што ўразіла: мне спачатку сказалі, што пратэз будзе каштаваць $3000, а як лёг у бальніцу — ужо $3500. Ці дорага? Я ведаў, што пераплачваю, бо мой знаёмы кандыдат навук робіць такія аперацыі ў іншай краіне. Дык ён казаў, што там такія пратэзы па тысячы еўра каштуюць. Але я сам — галоўны бухгалтар, я разумею, што тут бессэнсоўна спрачацца: або пагаджаешся на існуючыя ўмовы, або не. Я ж не павязу з іншай краіны пратэз — яго мне не паставяць проста, як я зразумеў», — расказаў нам клієнт.

Як жа атрымалася, што ў Беларусі пры бясплатнай медыцыне людзям даводзіцца пераплачваць удвая? Ці было Міністэрства аховы здароўя ў курсе сітуацыі? Чаму ў асобных рэгіёнах і асобных бальніцах дамінуе адзін пастаўшчык? Чаму дзяржава не спрабавала цэнтралізавана закупляць пратэзы для пацыентаўплатнікаў? І ўрэшце, глыбіннае пытанне: чаму заробкі медыкаў і ганарары за аперацыі такія нізкія, што дактары робяцца схільныя зараблять, лабіруючы пратэзы (медыкаменты, матэрыялы) тых ці іншых пастаўшчыкоў? У выніку пацыенты плацяць удвая...

Мы накіравалі ў прэс-службу Міністэрства аховы здароўя запыт з просьбай патлумачыць нам дзіўную сітуацыю на рынку эндапратэзаў.

**Арцём Гарбацэвіч**

# У Вільні знойдзеныя парэшткі Кастуся Каліноўскага?

Сенсацыйныя вынікі далі раскопкі на гары Гедыміна.





З сенсацыйнай навіной выступіла літоўскае інфармацыйнае агенцтва *Delfi*. Яно паведамляе, што падчас раскопак на гары Гедыміна ў Вільні, імаверна, знойдзеныя парэшткі Кастуся Каліноўскага.

«Маецца дастаткова доказаў таго, што сярод выяўленых астанкаў ёсць парэшткі і Канстанціна Каліноўскага», — сказаў BNS прафесар кафедры анатоміі, гісталогіі і антрапалогіі Віленскага ўніверсітэта Рымантас Янкаўскас.

Праўда, пакуль што гісторык кажа, што сцвярджаць на 100%, ці гэта парэшткі Каліноўскага, — нельга. Для гэтага трэба вывучыць усе астанкі.

«Калі мы не знойдзем іншага кандыдата, з якім бы супадала больш доказаў, то будзем сцвярджаць, што гэта Каліноўскі», — падкрэслівае Янкаўскас.

Не так даўно ў Вільні таксама былі знойдзеныя парэшткі іншага паўстанца — Зыгмунта Сераkоўскага. У тым, што гэта Сераkоўскі, амаль няма сумневаў, бо быў знойдзены ягоны заручальны пярсцёнак.

Кастусь Каліноўскі — лідар паўстання 1863—1864 гадоў на тэрыторыі Беларусі і Літвы. Ягонымі намаганнямі выдавалася газета на беларускай мове «Мужыцкая праўда».

Каліноўскі быў павешаны 22 сакавіка 1864 года ў Вільні на Лукішках. Яму было 26 гадоў.

Кастусь Каліноўскі стаў адным з сімвалаў змагання беларусаў за ўласную незалежнасць і ідэнтычнасць. На сёння Каліноўскага малюе моладзь на графіці, майках, набівае татуіроўкі. У Мінску ідзе збор подпісаў за адкрыццё помніка Каліноўскаму.

Здагадкі пра тое, што цела Каліноўскага магло быць пахаванае на гары Гедыміна ў Вільні выказваліся неаднаразова. У тым ліку на старонках «НН». Цяпер, магчыма, гэта атрымае пацвярджэнне.

**Зміцер Панкавец**

# У Мінску адкрылі пяць новых беларускамоўных класаў, а ў Магілёве будуць вучыць па-беларуску аднаго першакласніка

Яшчэ зімой адміністрацыя Фрунзенскага раёна Мінска гучна абвясціла пра намер адкрыць першыя класы з беларускай мовай навучання ў сямі рускамоўных школах. Чакалі сёлета бацькоў першакласнікаў, ахвотных вучыць дзяцей па-беларуску, і ў школах Маскоўскага, Партызанскага, Кастрычніцкага і Заводскага раёнаў. Набіралі беларускамоўныя першыя класы ў Брэсце, Гомелі, Магілёве.

За некалькі дзён да пачатку новага навучальнага года мы звярнуліся ва ўсе гэтыя школы і высветлілі, наколькі паспяхова прайшоў набор.

**Мінск**

Беларускамоўныя першыя класы паспяхова набралі ў школах:

№ 60 (вуліца Карла Лібкнехта, 82 — Маскоўскі раён)

№ 72 (вуліца Халмагорская, 59 — Партызанскі раён)

№ 56 (вуліца Каменнагорская, 70 — Фрунзенскі раён)

№ 128 (вуліца Альшэўскага, 59 — Фрунзенскі раён)

Пачатковая школа № 112 (вуліца Убарэвіча, 142 — Заводскі раён)

У гэтых пяці школах адкрылі па адным класе, у кожным — да 20 вучняў.

У школы №168 (Кастрычніцкі раён), №96 (Фрунзенскі раён), №151 (Фрунзенскі раён), №199 (Фрунзенскі раён) звярталіся бацькі, якія хацелі, каб іх дзеці вучыліся па-беларуску, аднак на цэлы клас заяў не назбіралася, і яго не адкрылі.

**Брэст**

У гімназіі №3 (вуліца Пісьменніка Смірнова, 63) набралі два класы, у кожным з якіх пад 30 чалавек.

**Гомель**

У гімназіі № 36 імя Івана Мележа (вуліца Братоў Лізюковых, 16) таксама паспяхова набралі клас. Дарэчы, другі год запар.

**Магілёў**

У сярэдняй школе № 1 (вуліца Першамайская, 24) адкрылі клас для аднаго вучня.

У 34-й сярэдняй школе ахвотных зусім не было.

Варта адзначыць, што гаворка тут ідзе пра новыя класы. Нагадаем, што ў Мінску і Барысаве дзейнічае 7 беларускамоўных гімназій і школ, якія набіраюць усе класы па-беларуску.

Асобныя беларускамоўныя класы існавалі раней у Баранавічах, Гродне, Магілёве, Брэсце. Усюды яны былі створаныя з ініцыятывы бацькоў. Сёлета ўпершыню ініцыятыва сыходзіла ад уладаў.

Беларускамоўныя школы дагэтуль масава існуюць у мястэчках і вёсках.

**Настасся Роўда**

## Што за квадрацыкл у Лукашэнкі і колькі ён каштуе



Аляксандр Лукашэнка 18 жніўня на полі ААТ «Александрыйскае» з'явіўся на квадрацыкле.

«Наша Ніва» высветліла, што гэта квадрацыкл *BRP Can-Am Outlander 1000 X mr*.

Мае 82 конскія сілы, поўны прывад, лябёдку і незалежную падвеску. Максімальная хуткасць — 130 км/г. Выпускаецца ў Канадзе.

Калі мадэль новая, то ў ЗША каштуе 14 тыс. даляраў, але ў Беларусі і Расіі даражэй, ад 20 тысяч і вышэй.

## Нарэшце з'явіліся новыя контурныя карты на беларускай мове







Пасля працяглых перамоў з «Белкартаграфіяй» беларускамоўныя бацькі дамагліся, каб да гэтага навучальнага года надрукавалі новыя контурныя карты для школьнікаў. У крамах з'явіліся дапаможнікі «Фізічная геаграфія» для 6-х класаў і «Чалавек і свет» для пяцікласнікаў.

Так, адной з сем'яў, што вялі перамовы на гэты конт, была сям'я Вітушак, чый сын вучыцца ў гімназіі №23 г.Мінска.

«Шмат гадоў перамовы з «Белкартаграфіяй» прыводзілі ў адчай і давалі нулявы вынік. І вось — сюрпрыз! Набывайце, калі ласка!» — падзяліласа пазітыўнымі эмоцыямі ў сваім фэйсбуку маці Крысціна.

У аддзеле маркетынгу РУП «Белкартаграфія» нам паведамілі, што на такі крок яны пайшлі пасля шматлікіх заяваk ад бацькоў з беларускамоўных школ. І калі школьнікам будуць патрэбныя іншыя дапаможнікі па-беларуску, яны таксама гатовыя надрукаваць новыя варыянты карт, быў бы попыт.

Да гэтага часу ў наяўнасці былі толькі карты і атласы па гісторыі, а таксама насценная палітыка-адміністрацыйная карта Беларусі на мове.

Таксама на нацыянальнай мове друкуецца частка прадукцыі для турыстаў, у тым ліку вялікі гістарычны атлас Беларусі ў трох тамах.

**КК**

# Адэпт «рускага свету» атрымаў беларускую Нацыянальную літаратурную прэмію

У першыя выхадныя верасня ў Полацку прайшлі чарговыя Дні пісьменнасці. У рамках гэтага мерапрыемства адбылося ўручэнне Нацыянальнай літаратурнай прэміі за 2016 год. Найбольш звяртае на сябе ўвагу лаўрэат у намінацыі «Паэзія». Ім стаў рускамоўны паэт Анатоль Аўруцін за кнігу «Прасвятленне».

«Сярод тых, хто працягвае справу Якуба Коласа (хутка 135 год з дня нараджэння Песняра), «прасветлены» паэт Анатоль Аўруцін», — так ахарактарызаваў лаўрэата тэлеканал АНТ.

Хто такі Анатоль Аўруцін? Ён называе сябе «рускім паэтам», які жыве ў Беларусі. Нарадзіўся Аўруцін у 1948-м у Мінску. Член чаргінцоўскага Саюза пісьменнікаў. Кіраўнік прадстаўніцтва рускіх пісьменнікаў Беларусі пры Санкт-Пецярбургскім гарадскім аддзяленні Саюза пісьменнікаў Расіі.

Аўруцін — член рэдакцыйнай рады сайта «Заходняя Русь», вакол якога гуртуюцца людзі, што бачаць Беларусь толькі часткай «трыадзінага рускага народа». З'яўляецца рэдактарам часопіса «Новая Няміга літаратурная».

«Рэдакцыя літаратурна-мастацкага часопіса «Новая Няміга літаратурная», адзінага ў Беларусі выдання падобнага роду, цалкам прысвячае свае старонкі творам выключна рускіх пісьменнікаў нашай краіны, блізкага і далёкага замежжа», — казаў Аўруцін у інтэрв'ю інфармацыйнаму агенцтву «Рэгнум».

«Справа, якой часопіс займаецца вось ужо трынаццаты год, — аб'яднанне разрозненых з прычыны развалу СССР сіл творчай інтэлігенцыі, якія, без адрознення ў веравызнанні, колеру скуры і палітычных пераканняў, самаідэнтыфікуюць сябе ў якасці носьбітаў рускай культуры, па сваіх мэтах і задачах цалкам суадносіцца з мэтамі і задачамі «Інтэрнацыянальнай Расіі». У мэтах магчымай каардынацыі намаганняў, сумеснага вырашэння першачарговых задач захавання і пашырэння межаў «рускага свету» лічым мэтазгодным заявіць пра сваё далучэнне да вашага руху», — гэта заява Аўруціна ад 2011 года аб далучэнні часопіса да руху «Інтэрнацыянальная Расія».



Анатоль Аўруцін. Фота БелТА.

Аўруцін быў сярод тых, хто ў 2012 годзе заснаваў у Мінску «Еўразійскі народны саюз». Сярод іншых заснавальнікаў былі Юрый Баранчык, Андрэй Герашчанка, Ігар Зелянкоўскі, Сяргей Шыптэнка і іншыя адэпты «рускага свету».

«Колькі моў на постсавецкай прасторы існуе — усе яны раз'ядноўваюць, акрамя адной — рускай», — яшчэ адна нядаўняя цытата з Анатоля Аўруціна.

А вось адзін з нядаўніх вершаў Аўруціна, прысвечаны паўстанню 1863 года, у якім аўтар паспрабаваў адлюстраваць тыповага паўстанца.

**АРЕСТАНТ. 1863**

Хочу быть кучером в эпоху,
Где кучеру велят пороть
Кухарку, варящую плохо…
О, эта вспухнувшая плоть!

Хочу быть мельником в артели,
Где только плетка и права,
Чтоб две невольницы вертели
Весь день тугие жернова.

А мне дозволено по праву,
При тусклом свете фонарей,
Их подгонять бичом кровавым,
Чтоб дело спорилось верней.

Хочу аббатствовать в Вероне,
Чтоб слышать каждую зарю,
Как прихожанка сладко стонет,
Когда за грех ее порю.

Чтоб, к алтарю направив очи,
Каких безгрешным не дано,
Она шептала: «Аве Отче!
Грешить с аббатом не грешно!..»

Хочу… Привстану… Звякнут цепи.
В решетку — тусклая луна.
Каких безмерных благолепий
Скупая вольница полна!

Войдут… Солдатик большерукий
Подаст похлебки и огня.
А баба, просто так, от скуки,
Метлою вытянет меня…

**Зміцер Панкавец**



# Вікторыю Азаранка абвінавацілі ў «выкраданні» ўласнага сына, яе чакае суд

У непрыемную гісторыю трапіла самая вядомая ў гісторыі беларуская тэнісістка Вікторыя Азаранка. Стала вядома, што ў ліпені яна разышлася са сваім бойфрэндам і бацькам яе сына Білі Маккінгам.

У адносінах пара была ад мінулага года. Да гэтага беларуска доўгі час сустракалася з рэперам Рэдфу і ўкраінскім тэнісістам Сяргеем Бубкам-малодшым.

У снежні ў Вікторыі і Білі нарадзіўся сын, якога назвалі Леа Аляксандр. Доўгі час маладыя пражылі ў Беларусі. «Яму вельмі падабаецца, хаця спачатку быў культурны шок. Цяпер ён гуляе ў хакей у Беларусі, яму вельмі падабаецца Беларусь. У Амерыцы часта думаюць, што іх краіна адзіная і нічога больш не існуе. Гэта дапамагло яму вырасці. Да Беларусі ён ніколі ў жыцці не еў суп, цяпер ён просіць маю маму прыгатаваць на абед суп», — расказвала Вікторыя ў маі сёлета.

Цяпер пара распалася, і Білі звярнуўся ў суд Беверлі-Хілс з пазовам аб «скраданні» сына. Суд вырашыў, што Леа Аляксандр бліжэйшым часам мусіць быць вернуты ў ЗША.

Цяпер малое знаходзіцца з бацькам, Вікторыя была абмежаваная ў праве спаць са сваім сынам. Але па выніках суда яна гэтае права сабе вярнула.

Ізраільскія СМІ паведамляюць, што Вікторыя Азаранка наняла мясцовага адваката Зіва Вальнера, каб той абараняў інтарэсы тэнісісткі ў судзе.

Слуханні па пытанні бацькоўскіх правоў пройдуць у верасні.

Паведамляецца таксама, што Вальнер рыхтуе пазоў аб нанясенні тэнісістцы маральнай шкоды.

Вікторыі Азаранка 28 гадоў, яна была першай ракеткай свету, а таксама выйгравала Алімпіяду ў пары з Максімам Мірным.

— З сумам паведамляю, што не змагу ўзяць удзел на *US Open* у сувязі з сітуацыяй, якая склалася ў маёй сям'і. Цяпер я вымушана займацца вырашэннем праблем. Буду вельмі моцна сумаваць па Нью-Ёрку і па адным з маіх самых любімых турніраў, на якім я перажыла найлепшыя моманты сваёй кар'еры. З нецярпеннем чакаю свайго вяртання сюды ў наступным годзе, — прыводзіць словы Вікторыі Азаранка афіцыйны сайт *US Open*.

**ЗП**

# Беларус Сяргей Пальчэўскі з'ехаў ваяваць на Данбас

Мінчук Сяргей Пальчэўскі з'ехаў на Данбас і далучыўся да ўкраінскіх добраахвотніцкіх фарміраванняў. Падрабязнасці Пальчэўскі распавёў у інтэрв'ю журналістцы *belsat.eu*.

«Я з'ехаў ва Украіну неўзабаве пасля таго, як раскрыў факт падпісання паперы аб супрацы з КДБ. Зразумеў, што працягваць сваю дзейнасць на радзіме я больш не змагу. Не дадуць. Усё адно знойдуць, за што пасадзіць. Раней я распавядаў, як мне пагражалі прыцягнуць да адказнасці за ДТЗ, якое адбылося нібыта па маёй віне.

Пра намер паехаць на Данбас Сяргей не паведаміў ні сям'і, ні паплечнікам па Маладым фронце. Канкрэтную назву добраахвотніцкага падраздзялення і яго дыслакацыю Пальчэўскі таксама пакуль не хоча афішаваць.

«Пэўны час я проста жыў ва Украіне, а паўтара тыдня таму прыехаў на Данбас. Тут усё — адна суцэльная перадавая лінія, увесь час страляюць. Навучанне пачаў праходзіць адразу тут, на Данбасе. Мяне вучаць карыстацца супрацьтанкавым гранатамётам СПГ-9».

Навабранец гаворыць пра ад'езд на вайну спакойным тонам. Гэтак жа спакойна ён клаўся пад колы МАЗа ў лютым гэтага года, калі Малады фронт абараняў Курапаты. Пальчэўскі ўпэўнены: гаворкі пра вяртанне ў Беларусь быць не можа, пакуль дзейнічае цяперашняя ўлада.

«Я ўсведамляю, што ў Беларусь дарогі няма. Ну дык я і не збіраюся вяртацца, пакуль там Лукашэнка. Тым часам тут я набяруся досведу, навучуся, як бараніць краіну. Гэтыя веды могуць спатрэбіцца мне ў будучыні».



НАСТАСЯ РОЎДА

Пальчэўскі дапускае, што на яго ў Беларусі могуць завесці крымінальную справу. Што тычыцца страху, то і гэта бывае: «Бывае страшна, заўжды на перадавой. Але выбар ужо зроблены», — кажа Пальчэўскі.

30-гадовы Сяргей Пальчэўскі апошні час зарабляў вырабам мэблі.

Падчас абароны Курапатаў Сяргей Пальчэўскі на знак пратэсту прыкаваў сябе кайданкамі да бампера грузавіка.

На хвалі сакавіцкіх рэпрэсій, 22 сакавіка, Пальчэўскі быў затрыманы і змешчаны пад варту ў СІЗА КДБ па абвінавачванні ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. У сярэдзіне красавіка ён вышаў на волю і неўзабаве пакаяўся, што ў турме падпісаў паперу аб патаемнай супрацы з беларускай спецслужбай.

**Паводле belsat.eu**

# Павел: у палоне цела

Гісторыя жыцця 26-гадовага хлопца з ДЦП, які навучыўся маляваць і працаваць за камп’ютарам з дапамогай сваіх ног.

Пашы 26 гадоў, але выглядае ён як хлопец-падлетак. Пры цэрэбральным паралічы чалавек пакутуе ад дэфектаў касцявых тканак і анамаліяў у кары галаўнога мозгу.

У пакойчыку Пашы стаіць ложак і камп’ютар. На сценах — акварэльныя малюнкі. Яшчэ ёсць некалькі паштовак з віншаваннямі і тэлевізар. Усё як у звычайнага школьніка, але Паўлюку ўжо — 26 гадоў. Выглядае ён як падлетак.

У 3 гады яму паставілі дыягназ — цэрэбральны параліч. Паша жыве ў Мінску з мамай Галінай і малодшым братам, які вучыцца ў школе. Пасля таго, як стала зразумела, што Павел застанецца на ўсё жыццё інвалідам, яго бацька сышоў з сям’і. На руках у Галіны засталіся двое хлопцаў і хворая бабуля. Але Галіна не здавалася.

«Я на руках яго насіла. Хадзіла і пісала ва ўсе ўстановы. Мне патрэбны быў аўтамабіль, вазок, сродкі для існавання... Добрыя людзі ёсць заўсёды. Нам дапамаглі».

Вялікую падтрымку сям’і Паўла Рашчынскага аказвала нават Дар’я Домрачава. Дзякуючы ёй, сям’я здолела адолець ільготны крэдыт на кватэру.

Яны — пратэстанты. Паша баіцца холаду. Таму зімой кожную нядзелю Галіна хутае яго ў коўдры і на руках выносіць да машыны.

Хрысціянская супольнасць таксама ім дапамагае — сродкамі на адпачынак у цёплых краінах. Паша самастойна сябе не можа абслугоўваць, але ён навучыўся працаваць на камп’ютары і маляваць нагамі. Ён не можа паўнавартасна кантраляваць сваё цела, ён яго закладнік. Ногі — адзінае, што Паша здольны кантраляваць. Менавіта нагамі ён навучыўся набіраць тэкст на камп’ютары і маляваць. Для яго гэта — тэрапія і натхненне. Толькі так ён можа заставацца паўнавартасным. Паша малюе. Да яго прыходзіць настаўнік, Галіна рассцілае на падлозе цырату і раскладае фарбы. Павел пальцам нагі кранае фарбу і пачынае выводзіць контуры сваіх карцін... Гэта цяжка для яго. На адну акварэль у яго сыходзіць некалькі дзён. Фарба раз’ядае пальцы, часам да крыві...

«Нам нічога не дапаможа ўжо, — кажа Галіна. — Адзінае, на што мы можам спадзявацца, — на Бога і добрых людзей. Нам не трэба дарагіх лекаў. Мы проста хочам жыць і быць сярод людзей, і каб яны на нас не глядзелі коса».

Паша вядзе ляжачы лад жыцця, але імкнецца жыць напоўніцу і камунікаваць з гэтым светам з дапамогай ног.

Яго мама прысвяціла сваё жыццё служэнню сыну.

Павел часам «стамляецца жыць». Ён павольна выдрукоўвае гэтыя два словы пальцам нагі на клавіятуры: «с-т-а-м-і-ў-с-я ж-ы-ц-ь». Але ў яго ёсць і свая невялікая мара — Паша вельмі спадзяецца знайсці сяброўку. Для яго гэта адзіная надзея.

**Сяргей Гудзілін**



Паша вядзе ляжачы лад жыцця і не можа самастойна сябе абслугоўваць.



Мама Паўла Рашчынскага Галіна на руках носіць свайго сына пры любой бытавой патрэбе.



Паша падчас працы над малюнкам. Вялікім пальцам нагі ён малюе сланечнікі.



Адзіная субстанцыя, у якой Павал можа расслабіцца і паспрабаваць кантраляваць сваё цела, — вада. Паша любіць плаваць. Заняткі ў басейне маюць для яго вялікі тэрапеўтычны эфект. Але мінскія басейны пакуль не адаптаваныя для людзей з асаблівасцямі развіцця.

# «Амерыканцы стварылі супераўтамабіль. Малайцы!»: Лукашэнка пратэсціраваў «Тэслу»

**Аляксандр Лукашэнка пратэсціраваў апошнюю мадэль электрамабіля «Тэсла» і даручыў айчынным распрацоўшчыкам імкнуцца да гэтага ўзроўню.**



Развіццю беларускага аўтамабілебудавання была прысвечаная нарада ў кіраўніка дзяржавы, на якой прысутнічалі памочнік прэзідэнта Аляксандр Косінец, міністр прамысловасці Віталь Воўк, старшыня прэзідыума Акадэміі навук Уладзімір Гусакоў, а таксама непасрэдныя распрацоўшчыкі айчынных электракараў.

Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што ўвесь свет сёння развівае кірунак электрамабіляў, у тым ліку Вялікабрытанія, Германія і ЗША.

«Свет развіваецца ў гэтым кірунку. Амерыканцы стварылі супераўтамабіль. Малайцы! «Тэсла» стварыла выдатны аўтамабіль», — заўважыў ён.

Электрамабіль «Тэсла» яму далі для тэсціравання, і кіраўнік дзяржавы вельмі высока ацаніў яго тэхнічныя характарыстыкі і дынаміку.

«Хуткасць набірае, што ўсе нашы нямецкія тэсціраваныя аўтамабілі на рухавіках унутранага згарання засталіся імгненна ззаду і дагнаць не змаглі. Стартуе ён як касмічны карабель, і яшчэ больш магутны. За дзве з паловай секунды — 100 км. Але мяне цікавіла, як ён трымае дарогу, — ідэальна», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.




Паводле слоў кіраўніка краіны, дадзены аўтамабіль айчынным распрацоўшчыкам можна выкарыстоўваць у якасці ўзору, да якога неабходна імкнуцца. Ён таксама адзначыў, што падрабязна азнаёміўся і з нядаўна створаным беларускім электракарам на базе *Geely*.

«Я з ім уважліва азнаёміўся, паглядзеў усе вашыя дэталі. Не ведаю, наколькі высокі ўзровень рухавіка, які вы стварылі, хадавая частка і гэтак далей, але выглядае вонкава прыстойна», — сказаў кіраўнік дзяржавы. Разам з тым ён падкрэсліў, што да ўзроўню *Tesla* яшчэ, вядома, далёка і неабходна далейшая тэхнічная праца ў гэтым кірунку.

«Але вашы абяцанні мяне натхняюць і, з другога боку, насцярожваюць. Калі мы можам ствары́ць і батарэю — назапашвальнік электраэнергіі — найлепшую ў свеце, чаму мы не ствараем? Што для гэтага трэба? Людзі, грошы, кампетэнцыі? Неадкладна трэба гэта рэалізоўваць», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Ён таксама даў некаторыя практычныя рэкамендацыі, выходзячы са знаёмства з электрамабілем «Тэсла».

«Батарэя — адзін з асноўных элементаў. Не трэба яе ўпіхваць у багажнік. Як вы ўбачылі, яе паклалі на дно ў *Tesla*, і яна, як я зразумеў, нават утрымлівае на высокай хуткасці аўтамабіль, балансуе рух. Таму і нам гэтым шляхам трэба пайсці, — сказаў на заканчэнне кіраўнік дзяржавы. — Галоўнае — стварыць добры рухавік. Аснова ў вас ёсць. Таму мэта сённяшняй гутаркі — я вам паказаў аўтамабіль. Вывучыце, паглядзіце. Гэта найлепшае, што ёсць».

«Гэта будучыня, мы не можам адстаць. Мы не можам пры нашых кампетэнцыях, пры такой навуцы плесціся ў хвасце, — падкрэсліў беларускі лідар. — Ніхто паслязаўтра, у найбліжэйшай будучыні не будзе купляць масава так, як гэта было раней, аўтамабілі з рухавіком унутранага згарання. Параўнайце гэты аўтамабіль з тым, які мы стварылі, і імкніцеся да гэтага».

Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што ў цэлым цікавіцца навінкамі сусветнага аўтапрама, у тым ліку ў сферы электрычнага аўтамабілебудавання. «Гэта не першае маё знаёмства з падобнымі машынамі. Я ведаю, «Міцубішы» стварылі ў свой час. Горай, можа быць. Потым БМВ — добры, вельмі хуткі, меншы па памерах. І вось трэці аўтамабіль, які мне даводзіцца тэсціраваць. Я вам раскрываю ўсе карты: з даўніх часоў аўтамабілі — гэта маё хобі, я сачу за развіццём гэтай галіны», — прызнаўся ён.

Паводле яго слоў, лінейка машын *Geely* з рухавікамі ўнутранага згарання — гэта толькі першая прыступка. «Нам патрэбен электрамабіль. Можа быць, на тым заводзе, можа быць, асобна. Будзеце вы з амерыканцамі, з немцамі або з англічанамі яго ствараць — ваша справа. Вы павінны мне ў найбліжэйшы час унесці прапановы», — даручыў кіраўнік дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка таксама звярнуў увагу, што развіццё аўтамабілебудавання на электрычнай цязе супадае з будаўніцтвам у Беларусі АЭС, якая дазволіць замясціць значныя аб'ёмы прыроднага газу і стварыць прыстойны прафіцыт электраэнергіі. «На шчасце, мы трапілі ў струмень. Сённяшні трэнд у свеце — гэта чыстыя тэхналогіі, чыстыя аўтамабілі, чыстыя рухомыя саставы, гэта замена вуглевадародаў на чыстае паліва. Электрычнасць якраз з'яўляецца падобным палівам», — звярнуў увагу ён.

З электракарам «Тэсла», які тэсціраваў кіраўнік дзяржавы, на тэрыторыі Палаца Незалежнасці змаглі азнаёміцца ўсе ўдзельнікі сустрэчы і ацаніць характарыстыкі мадэлі.

Падчас сустрэчы Аляксандр Лукашэнка звярнуў увагу і на неабходнасць развіцця іншых відаў электрычнага транспарту, у тым ліку ровараў, матацыклаў і скутараў. «У нас гэта прадпрыемства ёсць. Вы можаце гэта ўжо рабіць, гэта трэба хутчэй запускаць. Для вёскі — адзін варыянт, для горада — іншы. Мы падумаем, як вас падтрымаць потым у вытворчасці, каб гэта было даступна для людзей. Трэба пераходзіць на электрычнасць. Мы ўжо спазняемся. Падключайце ўсіх і пачынайце працаваць, што не атрымліваецца — дакладвайце», — рэзюмаваў кіраўнік дзяржавы.

**БелТА**





## СМІ: У Крамлі хочуць зрабіць галоўным супернікам Пуціна на выбарах жанчыну



Супернікам Уладзіміра Пуціна на выбарах прэзідэнта Расіі ў 2018 годзе можа стаць жанчына, піша газета «Ведомости» са спасылкай на крыніцы ў адміністрацыі прэзідэнта і блізкіх да яе экспертаў.

Выданне назвала некалькі кандыдатур меркаваных «спарынг-партнёраў», якіх разглядаюць у Крамлі. Сярод іх — тры члены «Справядлівай Расіі»: старшыня Сацыял-дэмакратычнага саюза жанчын Расіі Наталля Вялікая, лідар Нацыянальнага бацькоўскага камітэта Ірына Валынец і член цэнтральнага савета партыі Ірына Пецяляева.

Блізкая да адміністрацыі крыніца назвала ідэальнай кандыдатурай Ксенію Сабчак. Яна, як патлумачыў суразмоўца газеты, дэманструе вобраз сучаснай маладой жанчыны, якая хацела б пайсці ў палітыку.

«Разумная, яркая, цікавая, але не ва ўсім адпавядае вобразу тыповай рускай жанчыны, пытанне — ці наважыцца яна», — піша газета.

Сабчак ужо заявіла, што не збіраецца ісці ў палітыку.

**СГ**

# Падораны беларусамі рэанімабіль на ўкраінскім фронце ўратаваў байца, якому ў сцягно трапіла і не разарвалася граната

«Ратаўніца, на выезд! У нас цяжкі трохсоты. Асколачнае раненне. Бягом!» Праз дзве хвіліны беларускі рэанімабіль ужо імчыцца па разбітых франтавых дарогах Данбаса. Карэспандэнт Вадзім Заміроўскі правёў некалькі дзён з медыкамі-добраахвотнікамі, каб паглядзець, як працуе Ратаўніца.



У сакавіку 2015 года беларускія і ўкраінскія валанцёры супольна сабралі грошы на куплю рэанімабіля для працы на Данбасе. Машыну прыгналі з Германіі і падрыхтавалі да працы на фронце. Па выніках галасавання ў сацсетках рэанімабіль атрымаў назву Ратаўніца. У красавіку 2015 года Ратаўніцу ўрачыста перадалі медыкам з добраахвотнага мабільнага шпіталя ПДМШ (Першы добраахвотніцкі мабільны шпіталь). За час працы на фронце Ратаўніца ўжо вывезла з лініі фронту некалькі сотняў параненых салдат і мірных жыхароў.

ПДМШ, дзе працуе беларуская Ратаўніца, базуецца побач з горадам Валнаваха, на поўдзень ад Данецка. Але перад тым, як трапіць у добраахвотніцкі шпіталь, мне неабходна заехаць у горад Краматорск. Тут усе журналісты, якія едуць у зону АТА, мусяць атрымаць акрэдытацыю. Блізкасць вайны ў горадзе ўжо практычна не заўважная. На вакзалах не дзяжураць узброеныя вайскоўцы, ды і ў горадзе людзей у форме амаль не відаць. Горад жыве звыклым павольным данбаскім жыццём. Людзі стаміліся ад вайны.

— Вось ты ведаеш, чым адрозніваецца народ ад насельніцтва? — дзеліцца сваёй жыццёвай мудрасцю гаваркі таксіст. — Не ведаеш, а я табе скажу: народ — гэта тыя, хто ўдзельнічае ў палітычным жыцці краіны, а я вось — насельніцтва. Адчапіцеся ад мяне з гэтай вайной, я хачу нармальна жыць.




### «Мы не жадаем адзін аднаму добрай ночы»

Увечары дабіраюся на базу ПДМШ. Гэта хата ў прыватным сектары пасёлка. За хатай — акоп, напэўна, на выпадак абстрэлу, вокны задрапіраваныя, але светлавой маскіроўкі тут няма: да лініі фронту адсюль яшчэ некалькі кіламетраў.

Знаёмімся з медыкамі-добраахвотнікамі і медротай ВСУ, якая раскватараваная тут жа.

— А што, нібыта тут спакойна зараз? — пытаюся ў вайскоўцаў.

— Ну, хадзем, паслухаем шум мора, — адгукаецца на пытанне начмед з пазыўным Док.

Выходзім на двор. Цішыню паўднёвай ночы перыядычна разразаюць чэргі 30 мм гарматы. Здалёк яны і праўда падобныя да шуму прыбою.

— Такая ў нас рамантыка — як на курорце.

— Выезды ў вас часта зараз бываюць? — цікаўлюся ў медыкаў.

— Ох, давай я не буду адказваць, а то зараз як скажу, дык дакладна што-небудзь здарыцца.

Праз 10 хвілін павер'е спраўджваецца. Пступае званок: машына з двума хворымі заглухла на дарозе і чакае нашай дапамогі. Дзяўчаты збіраюцца на выезд за дзве хвіліны, а начмеда даводзіцца пачакаць.

— Док, а раптам вайна, а ты такі павольны, — жартуюць напарніцы.

Атрымліваем у штабе пароль — ён патрэбны для руху ў начны час каля фронту — і імчымся з мігалкамі на выклік.

— Вось я ж казала, не пытайся больш пра такое, — мяне крытыкуюць у машыне.

— У нас тут свае забабоны, — тлумачыць Док. — Мы не жадаем адзін аднаму добрай ночы і не гаворым пра выезды, каб не сурочыць. А то ноч дакладна спакойнай не будзе.

Машына, якая чакала дапамогі, завялася так жа раптоўна, як і заглухла. Хворых даставілі без нашай дапамогі. Каманда вяртаецца на базу.

— Ну, галоўнае, што ўсе жывыя, але маглі б і нам паведаміць, — кажуць медыкі.

На базе развітваемся да раніцы, па звычцы кажу «дабранач».

— Ну вось, ты зноў за сваё, — адгукаюцца медыкі.

Праз некаторы час раздаецца званок.

— Віка, Марына, бягом на выезд, у нас цяжкі трохсоты. Вушы, вушы [фанендаскоп] вазьмі і кропельніцы, там асколачнае раненне.

Праз пару хвілін каманда ў зборы — і Ратаўніца імчыцца захаваць чыёсьці жыццё. У рэанімабілі нервовае напружанне: вельмі важна паспець своечасова. «Усё, можаце не спяшацца», — гучыць, як прысуд, з рацыі. Гэта значыць, салдат ужо памёр.

— Чорт, ненавіджу, калі так! — усклікае Віка.

Брыгада прыбывае на месца ўжо толькі для таго, каб засведчыць смерць. Баец падарваўся на гранаце пры пакуль нявысветленых абставінах. На базу вяртаемся ў поўным маўчанні.

— Добрай ночы, — развітваецца салдат, які суправаджаў нас.

Ніхто з медыкаў яму не адказвае.

Наступныя пару дзён выдаліся ціхімі. Днём медыкі займаюцца сваімі справамі, галоўны абавязак тут — дзяжурства на рацыі, каб імгненна выехаць на выклік.

— Усё ж я вас не разумею, — звяртаецца салдат да медыкаў-добраахвотнікаў. — Вам жа нават не плацяць за гэта. А калі няма выклікаў, вы ўсё роўна ўвесь дзень на базе седзіце?

— Ну, калі мы тут сядзім проста так, значыць, усе жывыя і здаровыя.

Бліжэй да вечара хто-небудзь бярэ на сябе ініцыятыву і гатуе вячэру. Уся медрота і медыкі ПДМШ збіраюцца ў двары. Знаёмімся з добраахвотнікамі бліжэй. Віка — фельчарка па адукацыі, прыехала з Кіева, ёй 24 гады. Яе напарніца Марына — старэйшая на 10 год, яна доктар анестэзіёлаг-рэаніматолаг з горада Сумы.

### «Пасля першай ратацыі я перастала фарбавацца»

Дзяўчыны патрапілі ў ПДМШ па аб'яве ў інтэрнэце. Віка хацела пайсці на кантракт у войска, але мінімальны тэрмін — тры гады, а значыць, яна губляла б курс, які ўжо правучылася ва ўніверсітэце. А ў сакавіку 2015 года запоўніла анкету, каб трапіць сюды. Ёй патэлефанавалі праз пару дзён, у красавіку яна ўжо была на фронце.

Марына прыехала па прапанове калег, разам было не так страшна. Яны папрацавалі месяц, у суседні дом трапіў снарад, ад выбухной хвалі на іх звалілася сцяна. Марына кажа, што яе «засмактала», і яна прыязджае на сваю дзявятую ратацыю, кожная з якіх доўжыцца месяц.

— Як ставяцца родныя да вашай працы?

Марына: Мае бацькі цалкам мяне падтрымліваюць. Хвалююцца, стэлефаноўваемся кожны вечар, але яны мяне ведаюць: калі я нешта вырашыла, мяне не перакапаць. Папрасілі толькі ўзімку не ездзіць — баяцца, што захварэю.

Віка: А для маёй сям'і вайны як быццам і не існуе, таму для іх маё рашэнне было шокам.

— Чым займаецеся, калі вяртаецеся дадому?

Віка: За той час, што я працую ў ПДМШ, у мяне назапашваецца вялікая колькасць «хвастоў» па вучобе, таму заняцца мне там ёсць чым. На працу я не ўладкавалася: ну каму патрэбен такі работнік, які то ў інстытуце, то на Данбасе?

Марына: У мірным жыцці я проста вяртаюся на працу. Галоўная до-







ктарка ў нас патрыётка, адпускае мяне сюды ў камандзіроўкі. Грошы за гэта я атрымліваю смешныя, у апошні раз вось атрымала 4 тысячы грыўняў (каля 300 беларускіх рублёў), але я ж не па грошы сюды езджу. А вось калегі, бывае, крыўдзяцца: ім складана раздзяжурваць мае змены.

— Хто вас забяспечвае: валанцёры ці дзяржава?

Марына: Мы цалкам добраахвотніцкі праект і існуем за кошт добраахвотных ахвяраванняў і дапамогі валанцёраў.

— Як ставіцеся да дапамогі ад беларусаў у выглядзе Ратаўніцы?

Марына: Гэта, вядома, вельмі прыемна, бо рэанімабіль — гэта галоўнае ў нашай працы. Я памятаю, як нам яе прывезлі ў 2015 годзе і ўрачыста ўручалі. «Рататуйчык», так мы яе пяшчотна называем, у нас баявая баба — то ёй тармазныя калодкі прастрэлілі, то на мясцовых дарогах падвеску разбілі, але валанцёры нам і з рамонтам дапамагаюць.

— Як змянілася ваша стаўленне да жыцця, смерці і вайны менавіта праз гэтую працу?

Марына: Ды ў мяне і дома праца такая ж *(смяецца)*, а калі сур'ёзна: пасля першай ратацыі я перастала фарбавацца, сачыць за тым, у што я апранутая, і купляць дарагія ўпрыгожванні, проста я ўсвядоміла, што ёсць рэчы куды больш важныя. Я не магу растлумачыць гэта словамі, гэта эмацыйнае. Тут ты ўсведамляеш усю важнасць жыцця і сяброўства, таму што яны могуць абарвацца ў любы момант.

— Ці бываюць сімулянты сярод пацыентаў альбо, наадварот, тыя, хто не жадае з'язджаць з перадавой?

Марына: Бываюць сімулянты, але мы на іх не крыўдуем. Іх можна зразумець: сядзіць чалавек на пазіцыях месяц-другі невылазна і прыдумляе, напрыклад, што яму зуб баліць. Ды яму проста ў горад хочацца, людзей убачыць, у краму схадзіць. Але звычайна бывае наадварот — у бальніцу не зацягнеш. Аднойчы хлопец з асколкам у назе адмахваўся ад дактароў: нікуды не паеду, застануся на пазіцыі. Сілай зацягнулі яго ў машыну.

— Узгадаеце самыя страшныя моманты?

Віка: Страшна працаваць у адзіночку. Страшна, што не хопіць досведу і ведаў выратаваць параненага, што не давязу. Але такога ў мяне яшчэ не было. Летась быў у мяне выпадак на другой пазіцыі: выключылі электрычнасць, на вуліцы навальніца, гром, лівень. Мы ляглі спаць і чуем: ба-баах! Мы апрануліся і пабеглі на гук, а тут ужо і рацыя пачала разрывацца. Мы забеглі ў тое памяшканне, дзе граната ўзарвалася, а там сцяну знесла, нейкія рэчы загарэліся, святла няма, дым стаіць, усе кашляюць, вочы слязяцца. Вось тады было страшна ад нечаканасці, але я як убачыла пацыента, страх выключыўся і вочы ўжо не слязяцца і нічога не замінае.

— Ці зможаце вярнуцца да мірных прафесій?

Марына: Мы туды заўсёды вяртаемся, але гэта вельмі цяжка даецца: я нават сплю дома ў спальніку па звычцы. Там усе людзі ў нейкіх сваіх клопатах: дыскатэкі, салюты, пастаянны рух — усё гэта складана ўспрымаць, вярнуўшыся з фронту.

Віка: Складана яшчэ і ад таго, што, прыязджаючы дадому, ты разумееш, што там, на фронце, нічога не скончылася: тыя ж раненні і хваробы, а ты чамусьці тут, дома. І цябе адразу ж цягне назад, асабліва калі я бачу ў сацсетках, што на нашым участку зноў абвастрэнне. Магчыма, калі ўсё скончыцца, вярнуцца ў мірнае жыццё будзе прасцей, а пакуль што ездзіць туды-сюды — гэта невыносна цяжка.

— Як ставяцца да медыкаў праціўнікі? Ці былі выпадкі з пагрозай на жыццё, абстрэлы?

Марына: Мы чулі, што з таго боку за нас даюць узнагароду, за любога медыка. А наогул мы не баімся. І ў першы абстрэл амаль не страшна было. Страх прыходзіць потым. Памятаю, уляцелі мы ў нейкі склеп. Вайскоўцы крычаць: «Ратуй медыка» — і ўсе на мяне паваліліся, дык я баялася, што калі не ад абстрэлу загіну, то проста задыхнуся пад імі. А ўжо калі забралі параненага і выехалі з зоны абстрэлу, бачу: рукі ходырам ходзяць.

Бывае, што сутыкаемся з агрэсіяй таварышаў, якія прывезлі параненага. Адзін раз мне прывезлі ўжо труп, але навокал было чалавек 10, і ўсе гарлапаняць на мяне: «Ратуй». І я паўгадзіны адкачвала труп, проста каб іх супакоіць. Але гэта стан афекту, і мы іх за гэта не вінавацім.

— Ці з'язджалі з глузду на вашых вачах пацыенты, дактары?

Віка: Скажам так, гэта называецца, па-правільнаму, стрэсавая рэакцыя, і ў кожнага яна выяўляецца па-свойму: хтосьці сыходзіць у сябе і нікога не падпускае, нехта пачынае істэрычна гарлапаніць ці смяяцца, хтосьці становіцца агрэсіўным, а хтосьці проста пачынае піць. Вы гэта называеце «з'ехаць з глузду», а гэта проста моцны стрэс і гэта нармальная рэакцыя арганізма на ненармальныя ўмовы. З гэтым проста трэба ўмець працаваць, асабліва псіхолагам. Людзі думаюць, што яны выбіліся з розуму, таму што ім ніхто не тлумачыць, што гэта ўсё нармальна: што і аба*рацца, аба*цацца падчас абстрэлу — гэта таксама нармальна і смяяцца з гэтага нельга.

— Вы бачыце кожны дзень боль і пакуты больш за астатніх. Ці варты кавалак тэрыторыі ўсяго гэтага чалавечага гора?

Віка: Звычайна я ўсім кажу, што я не патрыёт, бо лічу, што ніводзін кавалак зямлі не варты пралітай крыві чалавека. У мяне было два сябры яшчэ з Майдану, і абодва яны загінулі. Я была на пахаваннях і не ўпэўненая, што вось тыя слёзы, тое гора і крыкі маці вартыя ўсяго гэтага. Але я не кажу, што не трэба змагацца.

Марына: А я лічу, што любы кавалак зямлі варты таго, каб за яго змагацца. Гэта мая зямля, і я метра яе не аддам нікому.

## Другі дзень народзінаў

Наступным днём, па традыцыі, усе медыкі сядаюць вячэраць за стол у двары дома, але гэтым разам пад кананаду артылерыі, што ўзмацняецца, пакуль мы ямо.

— Там сур'ёзная вайна пачалася. Будзьце ўсе гатовыя, — папярэджвае Док.

Над сталом навісае напруга, ежа ўжо не лезе ў горла. Сапраўды, праз некалькі хвілін паступае выклік. Каманда Ратаўніцы імгненна зрываецца з месца і бяжыць да машыны. Каля 10 хвілін па выбоістых дарогах — і мы на месцы эвакуацыі. Раненне сцягна. Дзяўчаты працуюць хутка і зладжана, ранены ў прытомнасці і нават жартуе.

— Табе абязбольваючае ўжо калолі?

— Ды не, проста гарэлкі налілі. Ай, не чапай, я ж не падстаўка табе!

— Сонейка, усё добра, мы проста правяраем, ці з намі ты. Ужо амаль прыехалі, яшчэ крыху патрывай.

З мігцелкамі заязджаем у горад — і праз некалькі хвілін медыкі ПДМШ ужо перадаюць параненага ў шпіталь.

Вяртаемся на базу. Седзячы на ганку, медыкі абмяркоўваюць раненне і аказаную дапамогу. Яшчэ да эвакуацыі салдаты так хутка і правільна наклалі параненаму турнікет і павязку, што ў дарозе не прыйшлося перарабляць гэтую працу.

— Ну што, дзяўчаты, віншую вас, у вас сёння дзень народзінаў, другі, — выходзіць на ганак Док.

Яму толькі што паведамілі са шпіталя, што ў назе параненага была граната ад гранатамёта АГС, якая магла ўзарвацца ў любы момант.

На вуліцы стала ціха, замест строкату кулямётаў і грохату артылерыі слухаем стракат конікаў. Радыёэфір таксама маўчыць. Вайна скончылася. Прынамсі на сёння.

Сярод ночы ваенная рацыя ажывае нязвыклым для яе пасланнем без пазыўных:

— Сонейка, я кахаю цябе.

— Я цябе таксама, — адазвалася «сонейка».

Гуманітарны маршрут «Беларусь — АТО» — валанцёрская ініцыятыва, што ўжо трэці год дапамагае медыкам і цывільнаму насельніцтву ў зоне канфлікту. Валанцёры гуммаршрута сабралі ды адправілі ва Украіну больш за 11 тон гуманітарнай дапамогі і набылі тры адзінкі медыцынскай тэхнікі.

**Вадзім Заміроўскі**



# Зорка Купалаўскага тэатра Ганна Хітрык пераязджае ў Ізраіль





Відавочна, што робіцца гэта ў першую чаргу дзеля сына

Інфармацыя пра тое, што гурт Ганны *Sounduk* дае развітальны канцэрт у гэтым сезоне, з'явілася ў афіцыйных суполках.

Уся справа ў тым, што лідарка і ідэйная натхняльніца калектыву пераязджае на сталае месца жыхарства ў Ізраіль. Неабходнымі дакументамі сям'я Хітрык пачала займацца яшчэ ў 2015 годзе.

«Усё гэта складана і досыць нечакана. Кожная мама на маім месцы зрабіла б тое, што мы робім. У мяне пытаюць: «Чым ты будзеш там займацца?» Я не думаю пра гэта! Галоўнае — што там будуць рабіць для майго дзіцяці! Песні — мая душа... Душы пазбавіцца немагчыма! Гэта яшчэ не канец гісторыі! Наперадзе новыя ролі», — пракаментавала пераезд Ганна.

Відавочна, што робіцца гэта ў першую чаргу дзеля сына. Прыхільнікам творчасці жанчыны вядома, што яна гадуе сына Сцяпана з аўтызмам. Менавіта ў Ізраілі на спецыяльных курсах ім дапамаглі навучыцца жыць з гэтым дыягназам, а сама Ганна пасля актыўна працавала ў «Цэнтры дапамогі аўтычным дзецям».

2 кастрычніка — у дзень нараджэння гурта *Sounduk* — у Купалаўскім тэатры адбудзецца развітальны канцэрт.

**Кацярына Карпіцкая**

## Беларускі футбаліст паскардзіўся на тое, што не можа дазволіць сабе джынсы за 500 еўра

Паўабаронца гродзенскага «Нёмана» Філіп Рудзік, які раней выступаў за «Нафтан», БАТЭ, «Гомель», даў вялікае інтэрв'ю *Tribuna.com*. Узнятая была ў ім і тэма стаўлення да грошай.




— Колькі табе вінныя? Больш за «касар» [тысячу рублёў]?

— «Касар» для футбаліста — гэта не буйная сума, — мяркуе Рудзік. — А пра 50 ці 100 рублёў я наогул маўчу. Я без іх не збядneю. Калі ёсць грошы — аддасі, калі няма, значыць, ты наогул без грошай. Не ведаю, калі мне наогул не будзе чаго есці, то я іх, можа, і запатрабую, а так гэта не такая для мяне і вялікая сума. Але чакаю, спадзяюся, мне іх вернуць. Скажам так: мне вінны больш, чым вінны я.

— Як ты адпачываў? Ішоў у клуб і, груба кажучы, пакідаў там 5 мільёнаў?

— Ха, калі пакінуў 5 мільёнаў, значыць, добра адмазаўся. Хлопцы з БАТЭ [Рудзік выступаў за барысаўскі клуб з 2011 па 2013 год — **НН**] трацілі іншыя сумы. Мы грошы не лічылі. Але навошта пра гэта казаць? Гэта было, але прайшло.

— Купляў брэндавую вопратку?

— Вядома. У БАТЭ нельга было простую купляць. Памятаю, да нас з Гродна Сенька Гарбуноў прыехаў у джынсіках на сваім «Пасаце» Б5. Да яго адразу прычапілася мянушка Агент. Але потым гэты Агент ператварыўся ў мача, які вельмі модна апранаўся. Я да гэтага часу люблю дарагія рэчы, але проста заробак не дазваляе купляць джынсы за 500 еўра.

— Можна і за 200 класныя ўзяць.

— Гэта калі на зніжках.

## Каспійскае мора знікае ўсё хутчэй

Узровень вады ў самым вялікім на Зямлі замкнёным вадаёме на працягу апошніх 20 гадоў падае на сем сантыметраў за год.

Сумарнае паніжэнне з 1996 года склала каля паўтара метра. Артыкул з вынікамі аналізу доўгачасовых назіранняў апублікаваны ў часопісе *Geophysical Research Letters*.

Згодна з вынікамі даследавання, сярэдняя тэмпература паветра ў прылеглых да Каспійскага мора раёнах вырасла прыкладна на 1°С, калі параўноўваць два перыяды часу: з 1979 па 1995 і з 1996 па 2015.

Аўтары лічаць, што гэтае падвышэнне — праява глабальнага пацяплення, якое паўплывала на тое, што інтэнсіўнасць выпарэння павялічылася. Гэта, у сваю чаргу, прывяло да паніжэння ўзроўню вады.

# «Прыгожая дзяўчына дадалася ў сябры і адразу прапанавала віртуальны сэкс». Як паліттэхнолаг ледзь не стаў ахвярай ашуканцаў

«Учора запыт на сяброўства ў фэйсбуку мне даслала прыгожая дзяўчына Ганна — студэнтка з Францыі. Звычайна перад тым, як дадаць кагосьці, я вывучаю профіль чалавека, гляджу, ці ёсць у нас агульныя знаёмыя і гэтак далей. Замежнікаў дадаю рэдка, але ў гэты раз пагартаў профіль Ганны, ацаніў яе фотаздымкі — прыгожая дзяўчына! Хай, падумаў, будзе. Тым больш у нас, на дзіва, быў агульны сябар — журналіст Васіль Сямашка», — узгадвае паліттэхнолаг Сяргей Марцалеў, які некалі ўзначальваў выбарчы штаб Міколы Статкевіча.



Пасля гэтага дзеянні новай знаёмай развіваліся імкліва. Камунікацыя пачалася з таго, што Ганна падзялілася сваёй біяграфіяй: расказала, што яна фларыстка, паралельна вучыцца. І адразу ж пасля гэтага папрабавала высветліць звесткі пра Сяргея.

Не саромеючыся, дзяўчына пацікавілася, наколькі добра яе суразмоўца зарабляе. А пасля прапанавала віртуальны сэкс.

— Я — аматарка віртуальнага сэксу, калі перад табой ёсць вэбкамера, калі ласка, уключы яе. Зоймемся справай.

— Не магу, я зараз працую.

— Выйдзі ў прыбіральню.

— Не, я заняты.

— Ну ты што, зусім у прыбіральню не ходзіш? Можа, атрымаецца праз 5 ці 10 хвілінак?




Прыблізна так выглядаў дыялог Ганны і Сяргея. Перапіска вялася на англійскай мове. Пасля трох адмоваў мужчыны Ганна з ім развіталася. Яшчэ праз 10 хвілінак гэты профіль у сацыяльнай сетцы бясследна знік. На жаль, разам з ім «выпарылася» і поўная перапіска, скрыншоты якой Сяргей не паспеў зрабіць — засталіся толькі яго адказы.

«Я чытаў пра такія разводы. Махляры дадаюцца ў сябры праз фэйсбук ці ў скайпе, пасля просяць уключыць вэбку — спачатку самі з'яўляюцца на экране агаленымі, далей просяць зрабіць тое ж самае ахвяры. Увесь працэс фіксуецца на відэа, за якое вымагаюць тысячы долараў.

Калі грошаў не паступае — пагражаюць загрузіць кантэнт на ютуб і разаслаць каханым, сваякам, сябрам. Я быў у тэме, таму толькі смяюся з нашай перапіскі. Акрамя таго, я маю негатыўны досвед адсутнасці прыватнага жыцця. 24 гадзіны ў суткі пад відэаназіраннем, 5 месяцаў у СІЗА КДБ [Сяргей абвінавачваўся ў арганізацыі масавых беспарадкаў падчас выбараў 2010 года — **НН**]. Так што ад камер маю ўстойлівы імунітэт», — кажа Сяргей.

Мужчыну пашанцавала: ён быў падрыхтаваны і не паддаўся напору. Не дайшло да ўключэння вэб-камеры і ў журналіста Васіля Сямашкі: ён шчыра не разумее тых, хто можа атрымліваць асалоду ад віртуальнага сэксу.

Аднак свету вядомы сотні выпадкаў, аматары такога сэксу лёгка ішлі на падман — геніталіі бедакоў здымаліся буйным планам, і пасля ім у жаху прыходзілася плаціць махлярам сотні і тысячы даляраў.

Замест прыгожых дзяўчат па другі бок вэб-камеры сядзяць суровыя мужыкі, якія проста ўключаюць нарэзку з порнаролікаў. Лепш за ўсё такі від бізнэсу развіўся ў арабскіх краінах. Але ахвярай ашуканцаў можа стаць прадстаўнік любой дзяржавы — асцярожна.

**КК**

# У брэсцкай дзіцячай бальніцы памерла некалькі дзяцей — сям'я распавяла падрабязнасці

Як стала вядома «Нашай Ніве», летам у Брэсцкай абласной дзіцячай бальніцы было зафіксавана некалькі дзіцячых смерцяў.

Некаторыя бацькі не маюць прэтэнзій да дактароў і кажуць, што супраць лёсу не пойдзеш.

Іншыя — прынамсі адна сям'я — вінавацяць дактароў у абыякавасці ды непрафесіяналізме і настроены ісці да канца.

Як мінімум па адным факце смерці ў дадзены момант праводзіцца следчая праверка — заяву падала сям'я Доўганяў: у іх у гэтай бальніцы ў першыя дні жніўня пры незразумелых абставінах памерла 11-месячная дачка.



Вось як нам апісала сітуацыю яе маці, Ларыса Доўгань:

«Пры канцы ліпеня ў Евы паднялася тэмпература да 38 градусаў. Прэпараты, што выпісала тэрапеўт, нам не дапамаглі. Тэмпература трымалася. Праз пару дзён мы выклікалі хуткую. У бальніцы праверылі на энцэфаліт, менінгіт, пнеўманію: нічога не пацвердзілася. Праз тое, што дзіця нарадзілася неданошаным, мы вырашылі не пакідаць яе ў бальніцы — каб выключыць рызыку дадатковай інфекцыі. Доктар прыёмнага аддзялення выпісаў антыбіётык «Сумамед» у сіропе, але яго ў аптэках горада не было. Раніцай наступнага дня мы выклікалі свайго тэрапеўта, каб выпісаць рэцэпт на аналаг — ён жа настойваў на шпіталізацыі».

Далей, сцвярджае жанчына, пачаўся «трэш»:

«Прыехалі ў бальніцу. Я папярэджвала медыкаў, што ў дзіцяці глыбока схаваныя вены, што катэтар будзе цяжка паставіць. Яны ж паўтары гадзіны катавалі дзіця — гэты час Ева была без вады, але з прыпятымі гарачкапаніжальнымі, — і толькі калі пачаліся ненатуральныя выгібанні цела, закатванне вачэй, дзіцяці ўрэшце паставілі катэтар у ярэмную вену. Гэтай кропельніцай збілі тэмпературу з 39,8 да 38. Пасля да нас у палату паклалі дарослую жанчыну з тэмпературай і горлам. Гэта як? У дзіцяці пачаліся сутаргі, але дактары казалі, што гэта рэакцыя на прарэзванне зубоў. Раніцай наступнага дня пачала западаць грудзіна пры дыханні, на поцэ рэанімацыйнага аддзялення не было доктара. Пасля маіх крыкаў доктар знайшоўся, вырашана было падключыць апарат вентыляцыі лёгкіх, а мяне адправілі дадому. Па тэлефоне не адказвалі пра меры лячэння — што ў гэты час было з дачкой, я не ведаю. Праз два дні мяне выклікалі для далейшага догляду. Гэта быў шок. У Евы на галаве быў пролежань, яна ляжала ў калавых масах — у адпаведных месцах на целе палопалася скура».

«Я таксама пакідала цэлы спектр дзіцячага харчавання, але ёй нічога з гэтага не далі — кармілі бальнічнай грэчкай. Катэтар не мянялі — ён пачаў трамбавацца. Мы прасілі пра перавод у Мінск у цэнтр «Маці і дзіця», але нам адказвалі, маўляў, там няма месцаў і будзе такое ж самае лячэнне. Але якое лячэнне? Нам давалі «Ібупрафен», свечы «Цэфекон» і зрабілі літычную ін'екцыю. Хірург да нас не прыйшоў — я сама з дачкой падымалася да яго на пяты дзень, каб зняць шво ад гідраторакса. На шостыя суткі запрасілі дзяжурнага рэаніматолага Снарскага, які ўрэшце пацвердзіў факт сутаргаў. На просьбы іх купіраваць доктар аддзялення не рэагаваў. Загадчыца аддзялення працягвала лячэнне гарачкапаніжальнымі, мяняючы прэпараты і дазіроўкі. Канчатковага дыягназу да гэтага часу не было, толькі працоўная версія — энцэфаліт. Пасля чарговага кансіліуму быў прызначаны «Дапакін» для зняцця сутаргаў. Праз дзень у дзіцяці пачаўся флебіт, яго перавялі ў рэанімацыю. Калі ж мы ўрэшце настаялі на пераводзе ў Мінск, то рэаніматолаг паведаміў нам, што перавод наўрад ці адбудзецца, бо пачаўся ацёк лёгкіх. Дачка памерла. Яна месяц гарэла ад тэмпературы, без адпаведнага лячэння або пераводу да больш кампетэнтных спецыялістаў», — расказала нам жанчына.

Згаданыя ёй прозвішчы дактароў нервова ўспрымалі іншыя людзі, з якімі мы звязаліся. Але мала хто больш захацеў афішаваць сябе і расказваць акалічнасці знаходжання сваіх дзяцей у бальніцы.

«Гэта проста шок. Мы таксама там ледзь не згубілі дзіця: гэтак жа абыякава паставіліся да нас, не было дыягназу. Але Бог, відаць, дапамог перавесціся ў Мінск. Там вылечылі. Чую гісторыю Доўганяў і жахаюся, што і ў нас так усё магло скончыцца», — сказала нам яшчэ адна маці, Яўгенія.

Загадчыца інфекцыйнага аддзялення Брэсцкай абласной дзіцячай бальніцы Таццяна Палійчук адмовілася ад каментароў, сказаўшы, што не прадастаўляе статыстыку па смяротнасці і не інтэрпрэтуе яе.

«Пошукам адказаў на вашыя пытанні займаюцца следчыя, больш не магу нічога дадаць», — сказала Палійчук.

Як паведамілі «Нашай Ніве» ў Следчым камітэце, ведамства праводзіць праверку па дзвюх смерцях у Брэсце.

«Брэсцкім міжраённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь праводзіцца праверка па заяве ад 23 жніўня 2017 года жыхаркі г. Брэста, 1978 года нараджэння, аб правядзенні разгляду па факце смерці 17 жніўня 2017 года ў рэанімацыйным аддзяленні Брэсцкай дзіцячай абласной бальніцы яе малалетняй дачкі, 2016 года нараджэння. Выяўлена, што 27 ліпеня 2017 года ў дзяўчынкі павысілася тэмпература да 39 градусаў, у сувязі з чым яна была шпіталізаваная ў бальніцу, дзе пазней памерла.

Таксама 15 жніўня 2017 года ў тэрытарыяльнае падраздзяленне паступіла заява па факце смерці дзяўчынкі, 2016 года нараджэння, якая памерла 29 чэрвеня 2017 года ў Брэсцкай абласной бальніцы. Дзіця было шпіталізаванае ва ўстанову аховы здароўя 22 чэрвеня 2017 года.

Прававая ацэнка дзеянням персаналу аб характары аказання медыцынскай дапамогі будзе дадзеная па завяршэнні комплексу праверачных мерапрыемстваў і экспертных даследаванняў, накіраваных на высвятленне ўсіх прычын і ўмоў, якія пацягнулі за сабой гібель дзяцей», — распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Брэсцкай вобласці Марына Дранькова.

**Арцём Гарбацэвіч**

## У Свіслацкім раёне ўзарваўся калодзеж з пітной вадой

Выпадак адбыўся ў вёсцы Алісевічы. Гаспадар дома атрымаў апёкі і трапіў у бальніцу, піша «Гродзенская праўда».

Некаторы час таму мужчына адчуў ад калодзежнай вады пах бензіну. Ваду нават даводзілася кіпяціць, каб можна было піць. У нядзелю мужчына вырашыў пачысціць калодзеж і тым самым ліквідаваць праблему паху. Вычарпаўшы каля 20-30 вёдраў вады, падняў наверх пластыкавую ёмістасць, якая нагадвае бак ад бензакасілкі. А пасля, як распавялі ў абласным упраўленні МНС, мужчына вырашыў праканацца, ці няма ўнізе яшчэ чаго-небудзь, і кінуў запалку. Яна ўпала ўніз, і ў калодзежы адбыўся выбух. Як мяркуецца, загарэліся пары гаручай вадкасці.

Абставіны высвятляе следчы камітэт. Стан мужчыны дактары ацэньваюць як сярэдняй ступені цяжкасці.

## Міліцыя шукае чалавека, які прадаў мінчуку «Опель» па фальшывых дакументах

У канцы ліпеня гэтага года каля адной з крамаў па праспекце Ракасоўскага ў Мінску адбылася здзелка па продажы аўтамабіля «Опель Зафіра» 2003 года. Аўто было ацэненае прадаўцом у 4 тысячы даляраў. На аўтамабілі меліся транзітныя нумары, паведамляе афіцыйны прадстаўнік Ленінскага РУУС Мінска Таццяна Кавалёва.

Праз нейкі час новы ўласнік вырашыў перапрадаць «Опель». Размясціў у інтэрнэце аб'яву. Хутка знайшоўся і пакупнік, які вырашыў праверыць аўтамабіль па наяўных уліках у ДАІ. І тут высветлілася, што машына не стаіць і ніколі не стаяла на ўліку ў Беларусі. Міліцыя забрала аўто для праверкі, а яго ўласнік звярнуўся ў праваахоўныя органы па факце здзяйснення ў дачыненні да яго ашуканскіх дзеянняў.

Міліцыя высветліла, што тэхпашпарт на аўтамабіль падробны, пашпарт грамадзяніна Беларусі, які прад'явіў прадавец, — таксама (звесткі ў ім датычацца чалавека, які памёр два гады таму), а транзітныя нумары былі проста скрадзеныя з прыпаркаванага на



тэрыторыі Партызанскага раёна Мінска аўтамабіля.

Адзіным, што адпавядала рэчаіснасці ў дакументах, было фота прадаўца.Праваахоўнікі заклікаюць, калі вы пазналі грамадзяніна, выяўленага на ім, або маеце інфармацыю аб яго магчымым месцазнаходжанні, звяртацца ў Ленінскае РУУС Мінска асабіста (2-і Веласіпедны завулак, 9) або па тэлефонах: 8 (033) 354-14-78, 8 (025) 956-55-19.

## Суд аштрафаваў жыхарку Віцебска, што ўчыніла скандал у аптэцы, на 368 рублёў

Суд Першамайскага раёна Віцебска 1 верасня разгледзеў адміністрацыйную справу ў дачыненні да 35-гадовай жанчыны, якая стала гераіняй рэзанансная скандалу ў гарадской аптэцы.

Абвінавачаная Марына Паяркова і пацярпелы, загадчык аптэкі Максім Самсонаў, у судзе сядзелі на адной лаве, за паўметра адзін ад аднаго.

Жанчыну абвінавацілі ў здзяйсненні правапарушэнняў, прадугледжаных арт. 9.3 («Абраза») і арт. 17.1 («Дробнае хуліганства») КаАП Беларусі. Адказнасць па першым артыкуле — штраф у памеры ад 4 да 20 базавых велічынь, па другім — штраф ад 2 да 30 базавых велічынь або адміністрацыйны арышт.

У Паярковай сярэдняя адукацыя, працуе рэтушыроўшчыцай.

— Я прызнаю сваю віну, шчыра прашу прабачэння перад пацярпелым, — сказала яна ў судзе. — Я чалавек запальчывы, і ў гэтай сітуацыі паводзіла сябе непрыгожа (...) раскайваюся, бачыла сябе збоку на відэа з аптэкі, як гэта выглядала. Але і мяне потым абразілі тысячы людзей.

Максім Самсонаў у судзе заявіў:

— У сувязі з прынесенымі выбачэннямі гатовы прымірыцца.

У сувязі з прымірэннем бакоў справу па арт. 9.3 («Абраза») суд закрыў. Па другім артыкуле віцяблянку аштрафавалі на 16 базавых велічыняў — 368 рублёў. Разгляд справы заняў менш за паўгадзіны.

Пасля працэсу Максім Самсонаў распавёў, што абвінавачванне па арт. 17.1 ініцыявала міліцыя, па артыкуле 9.3 яго папрасілі напісаць заяву праваахоўнікі.

**Tut.by**

## У Альшанах п'янага школьніка на «Жыгулях» затрымалі з 1,83 праміле алкаголю

На Століншчыне супрацоўнікі Дзяржаўтаінспекцыі затрымалі п'янага адзінаццацікласніка за рулём аўтамабіля, піша БелТА.

Інцыдэнт адбыўся 2 верасня каля 2-й ночы. Супрацоўнікі ДПС у Альшанах спынілі на вул. Школьнай «Жыгулі». За рулём знаходзіўся 16-гадовы мясцовы хлопец, яго фізічны стан выклікаў падазрэнне. Пры праверцы было выяўлена, што хлопец не мае права кіравання транспартным сродкам. Больш за тое, медыцынскі агляд паказаў, што школьнік знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення (1,83 праміле).

У дачыненні да адзінаццацікласніка складзена некалькі адміністрацыйных матэрыялаў, аўтамабіль дастаўлены на ахоўную стаянку.

# Як пратэстант з Палесся зарабіў мільёны ў Маскве, але вярнуўся адраджаць Беларусь

**Калі Міхась распавядае пра свае жыццёвыя перыпетыі, пра хуткія ўзлёты і крутыя падзенні, думаеш: «Ды ладна, так не бывае». Яшчэ калі ён школьнікам прыдумляў і праварочваў складаныя бізнэс-схемы, было зразумела: не прападзе хлопец, праб'е сабе дарогу. Ужо ў 20 гадоў Міхась меў дзве ўласныя крамы і такі-сякі капітал. Праз год, пакуль шукаў шчасця ў Маскве, страціў усё разам. Тады жыццё само падказала яму «правіла трох Б», якім ён кіруецца па сёння: Бог, Беларусь, бізнэс.**



## Пра прадзедаў, якімі ганарыцца

Міхась не першы бізнэсовец у сям'і. Хіба найбольшага поспеху ў гэтай справе дасягнуў яго прадзед, які ў свой час амаль усе ўменні здолеў, як цяпер гавораць, манетызаваць. А ўменняў у яго было надзвычай багата для аднаго чалавека.

«У майго прадзеда быў інжынерны склад розуму. Ён, да прыкладу, сканструяваў прэс, на якім можна было рабіць алей. Людзі ехалі з Украіны і тыдзень чакалі ў чарзе, каб скарыстацца прадзедавым абсталяваннем, — распавядае бізнэсовец.

— Акрамя таго, прадзед выробляў бочкі, рабіў цэглу, валёнкі, лыжкі і відэльцы, зручныя расчоскі, што добра разыходзіліся сярод жыхароў іншых вёсак. Займаўся садам, бортніцтвам. Адным з першых зрабіў парнікі, дзе вырошчваў гуркі. Меў уласную краму. Адным з першых прыняў Хрыста ў пратэстанцкай царкве і ў той жа дзень разбіў усё віно, якім гандляваў. Бачыў, што яно нічога добрага не прыносіць. А калі Беларусь была пад Польшчай, прадзед даў магчымасць адкрыць у сваім будынку школу, куды мой бацька хадзіў да 4 класа».

Прыгадвае Міхась і іншага свайго продка, якім ганарыцца, хоць і не ўсе ў сям'і падзяляюць яго пачуцці.

«Родны брат прабабулі быў патрыётам, што адкрыта агітаваў за незалежную Беларусь. За гэта яго моцна збілі, і ён страціў розум. Сваякі мне распавядалі пра гэта з пагардай, маўляў, не трэба было лезці, куды не просяць. Але для мяне гэта ў пэўным сэнсе гонар», — кажа малады чалавек.

## Як сцягнуў чырвона-зялёны сцяг

Міхась гаворыць, што ад бацькоў не атрымаў ні беларускасці, ні Бога, бо іх пакаленне трапіла пад уплыў савецкай ідэалогіі. Аднак любоў да радзімы ў яго была з маленства, толькі што тады ён ставіў знак роўнасці паміж патрыятызмам і чырвона-зялёным сцягам.

«Калі глядзеў футбол, заўсёды заўзеў у чырвона-зялёным, — прызнаецца Міхась. — Мне вельмі хацелася, каб у мяне быў сцяг. Памятаю, ля школы стаяў слуп, на першага верасня на яго ўздымалі сцяг, і ён потым там і вісеў. Мы яго знялі. Гэта быў мой першы сцяг, чырвона-зялёны. На жаль, бо проста мала што тады ведаў. Не было чалавека, які мог бы скіраваць мяне ў правільны бок. Але было жаданне ганарыцца краінай, народам, быў унутраны патрыятычны імпэт, які немагчыма было стрымаць.

Потым гэты сцяг згубіўся, і сябры падарылі мне новы».



**Міхась разам з сястрой Аленай, яе мужам Алегам, пляменніцамі Насцяй і Ганнай і маці Кацярынай.**

## Як плюнуў на кар'еру мастака дзеля бізнэсу

Усё сваё дзяцінства Міхась правёў у Пінкавічах, хадзіў у мясцовую школу, дзе калісьці выкладаў Якуб Колас.

«Пінкавічы — гэта амаль што Пінск, тры кіламетры да горада. Я ў Пінск ездзіў на заняткі ў мастацкай школе. Гэта ўвогуле асобная гісторыя, — пачынае ён расповед. — Я так замучыў маці просьбамі аддаць мяне ў мастацкую школу, што яна адправіла мяне ў Пінск, бо ў вёсцы яе не было. Гэта былі найцудоўнейшыя часы! Я быў у тройцы найлепшых вучняў. Пасля восьмага класа павёз у Глебаўскую мастацкую вучэльню свае работы, каб мне падказалі, над чым папрацаваць перад паступленнем. Але мне сказалі, што з маімі працамі я ўжо паступлю.

Пасля гэтага мой імпэт знік, і я вырашыў займацца бізнэсам. Тым больш ужо тады я разумеў, што мастацтвам вялікіх грошай не зараблю».

## Як перапрадаваў агуркі і цыгарэты

Цікаўнасць да бізнэсу ў Міхася прачнулася яшчэ ў першым класе, калі ён збіраў мадэлі аўтамабіляў. Грошы, каб іх набываць, былі не заўсёды. Затое ў яго сястры была заколка з рознымі «дыяментамі», якія можна было абмяняць. Што юны прадпрымальнік і зрабіў.

Пазней ён гандляваў гароднінай у Пінску, Баранавічах, Мінску. Спачатку разам з бацькамі, а потым сам. Падключыў сяброў, арганізаваў свой пункт продажу. Прадавалі ўсё, што было: капусту, моркву, агуркі, бульбу, памідоры, пятрушку. Продаж ішоў цудоўна, таму ўжо ў сярэдняй школе Міхасю не трэба было прасіць грошы ў бацькоў, каб набыць сабе новыя нагавіцы.

«У 14 гадоў я падбіў сябра на іншую авантуру. У нас у Пінкавічах усе заўсёды вырошчвалі агуркі. У вёсцы нават была свая «Камароўка», дзе мы вялі аптовы гандаль.

Я пазычыў у сябра вялікі даведнік «Бізнэс Беларусь», сеў на ложак, узяў тэлефон і стаў абзваньваць усе кампаніі запар. Пытаўся, каму патрэбныя гуркі. Дамовіўся з Уздой. Вырашыў закупіцца гуркамі ў нас на мясцовай «Камароўцы» і прадаць Уздзе даражэй. Бацькі пазычылі мне 300 даляраў, на той час гэта было як цяперашнія паўтары тысячы. Вялікія грошы, не кожная сям'я такія грошы мела.

Гэта быў вялікі давер да мяне. Сябру майму яшчэ не было 18 гадоў, затое яго бацькі падарылі яму аўтамабіль. Мы нанялі чалавека з правамі і паехалі ва Узду», — распавядае бізнэсовец.

Па дарозе кіроўца ўмудрыўся спаліць рухавік, але Міхась запэўнівае, што яны ўсё ж даехалі, агуркі здалі і атрымалі грошы, праўда, толькі праз два месяцы, ужо пры канцы лета. Кажа, і дзякуй богу, што ім увогуле заплацілі, бо, калі пакупнікі ўбачылі хлопцаў, што прыехалі з гуркамі, сківіцы паадвальваліся.

«Калі ездзіў на канікулы да цёткі ў Мінск, набываў блокі цыгарэт, а потым у Пінкавічах прадаваў па адной. Хоць сам я ніколі не курыў, — дадае бізнэсовец. — Я ўвесь час думаў пра тое, як адчыніць краму ці кавярню, распрацоўваў бізнэс-планы, стратэгіі. У 11 класе раздабыў план мясцовага вясковага клуба, меркавалі з сябрам, што ў нас там будзе казіно».

Выпускны клас у Міхася выдаўся няпростым. Спачатку ён паехаў у піцерскі ліцэй, але калі бацька цяжка захварэў, вырашыў вярнуцца, каб сям'і было лягчэй. Грошай не было зусім, нават на новыя туфлі на выпускны вечар. Хлопец разумеў, што трэба паступаць на завочнае і ісці працаваць.

Міхась кажа, што з адукацыяй у яго не задалося. Ён пайшоў у пінскі філіял сельгасакадэміі на інжынера-механіка, але хутка зразумеў, што механізацыя зусім не яго канёк. Пазней скончыў праграму *Executive MBA* ў бізнэс-школе Інстытута прыватызацыі і менеджменту на базе Універсітэта Казмінскага ў Варшаве.

Пасля бацька ўладкаваў яго рознарабочым, але тут ён пратрымаўся нядоўга. На шчасце.

## Як зарабіў тэлевізар, вандроўку і аўто

«Неяк сядзеў з сябрам перад тэлевізарам, а там — бягучы радок: «У Пінску адчыняецца «Еўрасетка». Я ўжо ведаў, што гэта такое, і кажу сябру: «Я там буду працаваць». Крама, якую адчынялі, была вельмі маленькая, а чарга на запаўненне рэзюмэ — вельмі вялікая. Трапіць было складана», — распавядае малады чалавек.

Калі Міхасю патэлефанавалі і сказалі, што яго хочуць запрасіць на сумоўе ў Брэст, ён скакаў ад радасці. Тады Міхась яшчэ не зусім разумеў, што такое сумоўе, і вырашыў, што яго ўжо ўзялі. У той



**Міхась Сярэдзіч быў найлепшым прадаўцом Samsung.**

жа дзень ён аб'явіў бацькам, што яго трэба тэрмінова звольніць, каб ён змог уладкавацца на новае месца.

«Я сеў на цягнік і паехаў у Брэст. Там крама вялікая, у некалькі разоў большая, чым у Пінску. Дачакаўся чаргі, мне сталі задаваць пытанні. Пасля сумоўя сказалі, што ім трэба падумаць. Я стаў і стаю, гляджу на вітрыну. Чакаю, пакуль яны падумаюць. Я і не здагадваўся, што «падумаць» — гэта можа быць два-тры дні, — усміхаецца Міхась. — Тут да мяне падыходзіць дзяўчына, што была на сумоўі, і пытаецца: «Чаго ты чакаеш?» Кажу: «Чакаю, пакуль скажаце, калі выходзіць». Яна ўсміхнулася і пайшла размаўляць з кіраўніком. Мяне ўзялі, я выйшаў на працу 31 снежня».

Матывацыя там была збудавана так: першыя тры месяцы новапрыняты працуе па дамове падраду ў якасці стажора, а ўсе прыбыткі ад продажаў ідуць галоўнаму прадаўцу. Паколькі ён не асабліва зацікаўлены ў тым, каб стажоры пераходзілі ў шэраг спецыялістаў па продажах, экзамен па выніках стажорства з першага разу амаль ніхто не здае. Міхась здаў адразу.

«Я зубрыў усё! Нідзе і ніколі я так больш не зубрыў. На той момант для мяне гэта быў самы галоўны іспыт у жыцці, — кажа бізнэсовец. — Пасля пачаліся акцыі кшталту «прадай тэлефон *Fly* — і атрымаеш тое і тое». Так я выйграў тэлевізар, маці і цяпер яго глядзіць. Выйграў вандроўку ў Егіпет, адправіў маці на адпачынак.

Галоўная ж акцыя была — прадаць найвялікшую колькасць *Samsung* і атрымаць аўтамабіль. Я працаваў як шалёны, па 12—14 гадзін. Па ўмовах акцыі, не важна было, хто менавіта прадае. Колькасць прададзеных тэлефонаў на адным пункце дзялілася пароўну на тых, хто працаваў у гэты дзень. Патрэбная была каманда, і я стаў над ёй працаваць».

Каб займець гэтае аўто, чаго толькі Міхась не выдумляў. Працаваў і на сваім пункце, і на іншых. Тэлефанаваў у розныя крамы па ўсёй краіне і прасіў, каб яму дасылалі тэлефоны, які б ён мог пасля прадаць. За некалькі месяцаў да канца акцыі ўжо было зразумела, што перамога яго.

### Як згубіў усё разам

Міхась звольніўся з «Еўрасеткі» ў той жа дзень, калі забіраў аўтамабіль (праз месяц ён яго прадаў). Усе былі ў шоку, але ён разумеў, што яму больш няма чаго тут узяць.

У той час яго ўжо запрасілі ў «Новую Супру». За першыя чатыры месяцы супрацоўніцтва ён увайшоў у дзясятку найлепшых гандлёвых прадстаўнікоў кампаніі па краіне і зарабляў добрыя грошы — 1,5—2 тысячы даляраў. Хутка ён змог адкрыць у Пінску дзве ўласныя крамы бытавой хіміі.

Калі яго сябар, што раней з'ехаў у Маскву і ўзяўся за інтэрнэт-гандаль, запрасіў у свой бізнэс, Міхась вырашыў рызыкнуць. Адну краму прадаў сваёй сястры, другую — бацькам. Забраў усе грошы і паехаў. Гэта быў 2008 год, паўсюль глыбокі крызіс.

«На месцы высветлілася, што ўсё не так цудоўна, як мне малявалі. У сябра і яго калегі былі вялікія запазычанасці. Мяне ўзялі, каб крыху палепшыць сітуацыю. Офіс быў у паўпадвальным памяшканні, там нават святла не было. Мы там і працавалі, і жылі, — прыгадвае малады чалавек. — Здарылася так, што мой сябар захварэў. Пакуль я быў з ім у бальніцы, прыехалі праваахоўнікі і забралі ўсе грошы, што былі ў сейфе, і ўсе камп'ютары.

Зразумела, мы нічога не маглі даказаць. Інтэрнэт-гандаль толькі пачынаўся, яшчэ нават толкам не была распрацаваная бухгалтэрыя».

Міхась прыгадвае, што, калі ён звальняўся з «Новай Супры», яго папярэджвалі, каб не сыходзіў з нагрэтага месца, дзе яшчэ ёсць куды расці, бо з Масквы вернецца голы і босы.

«Праз два тыдні майго знаходжання ў Маскве так і адбылося. Усё згубіў у адзін момант. Ад адчаю я проста хадзіў па парку і плакаў. Але я не мог прыехаць дамоў босым, трэба было працаваць. Я вырашыў, што абавязкова вярнуся, але з нейкімі дасягненнямі. Мы пачалі ўсё ад пачатку, — працягвае Міхась. — Быў вельмі цяжкі час, не было ніводнага званка, выкручваліся, як маглі. Кожныя два-тры месяцы ў нас нешта здаралася: то бус гараў з тэхнікай, то нанятыя кіроўцы з'язджалі з нашымі грашыма. Праз 6—7 месяцаў мы змаглі вылезці з пазык і нават знялі кватэру. Неяк ідзём мы раніцай на офіс, гляджу — дзверы адчыненыя. Забягаю ў кабінет, гляджу — сейф адчынены. Усе грошы, якія там былі, у нас зноў забралі, зноў канфіскавалі тэхніку. Я задаваўся пытаннем: чаму так? Я бачыў, што гэта не залежыць ад нас. Гэта моцна падштурхнула мяне да Бога».

### Як пачаў размаўляць па-беларуску

Міхась кажа, у Маскве яго часцяком прасілі сказаць што-небудзь па-беларуску. Праўда, школа Якуба Коласа яму ў гэтым ніяк не дапамагала. «Прывітанне» — і на гэтым усё. Асэнсаваўшы свой промах, Міхась паставіў сабе за мэту ў 30 год пачаць размаўляць па-беларуску. Сваіх беларускамоўных сяброў ён папрасіў гаварыць з ім толькі на мове.

«Паколькі пратэстанты імкнуцца ўвесь час звяртацца да Бібліі, а я — пратэстант, то набыў яе беларускі пераклад і стаў кожны дзень чытаць. Так я атрымаў вялікі слоўнікавы запас, бо сайты чытаць проста, амаль усе словы ведаеш. Зацікавіўся гісторыяй, пачаў набываць сабе і дарыць сваякам гістарычныя кнігі. Дасылаў іх у Амерыку, Маскву. Памятаю, скупляў па дзесяць «Дзіцячых замоў» Лабадзенкі і раздорваў усім. Дарэчы, пра існаванне слова «жырандоля» я даведаўся якраз з гэтай кнігі», — дадае малады чалавек.

Пасля двух гадоў у Маскве Міхась усё ж вярнуўся ў Беларусь, паспеўшы зарабіць добрыя грошы на новы старт на радзіме.

«Калі вяртаўся, вырашаў: брацца за стартап у сферы IT ці працягваць рабіць тое, што ўжо працуе. Вырашыў працягваць займацца кліматычным бізнэсам, у мяне ўсё атрымлівалася. Я і сёння гэтым займаюся, аднак ідэя стартапа нікуды не знікла. Цяпер я займаюся ажыццяўленнем сваёй задумы і мару, што гэты стартап будзе выкарыстоўвацца па ўсім свеце», — дзеліцца планамі бізнэсовец.

### Як страціў і зноў адшукаў каханне

Міхась кажа, што яго дзяўчыне не пашанцавала быць побач якраз у час, калі ён вельмі хутка крута мяняў сваё жыццё. Рэлігійным ён стаў практычна ў адзін момант, яго каханая папросту не магла за ім угнацца.

«То хадзіў на дыскатэкі ўвесь час, весяліўся, то рэзка стаў сур'ёзным. Я нават на стадыён не хадзіў на футбол, бо думаў, што калі заўзееш за адну каманду, то зычыш дрэннага іншай. Шмат штампаў было ў галаве, — тлумачыць Міхась. — Нашы стасункі з Дашай пачаліся яшчэ ў Пінску. Мы сустракаліся, калі я вучыўся ў Мінску, калі я паехаў у Маскву. Яна ведала мяне іншага. На 2010 год у нас было запланавана вяселле, але я яго адмяніў. Тады я не бачыў ад сваёй нявесты шчырасці ў яе шляху да Хрыста. Ёй было складана. Яна прыгожая сучасная дзяўчына, прыняць жорсткія межы, якіх патрабуе рэлігія, ёй было няпроста. І мы разышліся».

Упершыню пасля разрыву Міхась з Дашай сустрэўся два гады таму. Тады ён упершыню загаварыў з ёй па-беларуску.

«Памятаю яе твар: яна глядзела на мяне і не магла нічога вымавіць, — усміхаецца Міхась. — Сёння Даша таксама мае ўнутранае жаданне размаўляць па-беларуску. Мы паставілі за мэту даць дзецям беларускую мову, перадаць багацце нашай гісторыі, культуры, закласці хрысціянскія каштоўнасці. Зносіны з Богам дапамагаюць праходзіць розныя выпрабаванні».

Летась у ліпені пара зладзіла вяселле. У нацыянальных строях, з беларускім каларытам — усё як мае быць.

«Ёсць такі беларускамоўны хрысціянскі летнік, мы з Дашай пайшлі туды піянерважатымі. Мне прыйшла думка, што падчас летніку на гэтым цудоўным хутары трэба і вяселле рабіць. Дзецям мы нічога не казалі, таму вяселле ў апошні дзень летніку для іх было поўнай нечаканасцю. У якасці вясельнай забавы мы арганізавалі абліванне фарбай, было весела. А праз год у нас нарадзіўся сын Ян», — дзеліцца малады бацька.

Міхась кажа, цяпер у жыцці ён знайшоў баланс. «Правіла трох Б» для яго жалезнае.

«Сродкі ніколі не былі для мяне самамэтай. Яны мне патрэбныя для таго, каб зрабіць унёсак у росквіт нашай краіны і развіццё патэнцыялу нашага народа. Я мару пра той цудоўны час, калі мы ўбачым адраджэнне, рэнесанс нашай культуры і гісторыі. Мару пра тое, што беларусы будуць ганарыцца тым, што яны беларусы», — падводзіць рысу бізнэсовец.

**Настасся Роўда,**
**фота з архіва героя**



Вяселле Міхася і Дар'і.




Шчаслівы бацька з сябрамі вітае жонку каля раддома.

# Чаму беларускі наважваюцца на хатнія роды? Гісторыі чатырох маці

30 жніўня ў Віцебску пачаўся судовы працэс над маці, немаўля якой памерла падчас хатніх родаў у Віцебску.



Вольга з першай дачкой і мужам, сямейны архіў.

Судзіць абвінавачаную Вольгу Сцяпанаву, нягледзячы на яе пратэст, вырашылі ў закрытым рэжыме. Пакуль лёс 31-гадовай жыхаркі Санкт-Пецярбурга, якая наўрад ці чакала, што яе жаданне нарадзіць другое дзіця ў маці дома скончыцца такім чынам, невядомы. Як «НН» паведамілі ў судзе Чыгуначнага раёна горада Віцебска, у працэсе ўзяты перапынак.

Згодна з беларускім заканадаўствам (ч. 1 ст. 144 УК Беларусі: прычыненне смерці па неасцярожнасці), ёй могуць пагражаць папраўчыя работы на тэрмін да 2 гадоў, або абмежаванне волі да 3 гадоў, або пазбаўленне волі на такі ж тэрмін.

У інтэрнэце неабыякавыя грамадзяне стварылі петыцыю з заклікам выпусціць з-пад варты і апраўдаць. На сённяшні дзень яе падпісалі амаль 7500 чалавек.

Ніхто не можа забараніць беларусцы нараджаць дома, аднак легальнымі лічацца роды толькі ў дзяржаўных радзільнях. Іншыя варыянты Міністэрства аховы здароўя лічыць злачынствам: пра гэта, напрыклад, не раз выказваўся міністр аховы здароўя Валерый Малашка.

Каб атрымаць пасведчанне аб нараджэнні новага члена сям'і, маці, што ўсё ж нарадзіла дома (выпадкова ці наўмысна), прыходзіцца пацвярджаць гэты факт праз суд.

Нягледзячы на такія цяжкасці і негатыўнае стаўленне афіцыйнай медыцыны ды большасці грамадзян да хатніх родаў, шмат беларусак абіраюць для сваіх будучых дзяцей менавіта такі варыянт з'яўлення на свет.

Мы прапанавалі маці, якія мелі такі досвед, патлумачыць свой выбар, не чакаючы, што чытачак «НН», ахвотных выказацца, будзе так шмат: тэлефон карэспандэнта разрываўся ад званкоў.

Частка жанчын пагадзілася падзяліцца сваёй пазіцыяй адкрыта, некаторыя — ананімна: усе яны зараз напалоханыя гучным судовым працэсам над Вольгай.

### Гісторыя Вікторыі Смірновай (32 гады)



Свайго першынца я нараджала ў мінскай радзільні №1 у 2008 годзе. Мне было 23 гады, я свята верыла ў тое, што дактары, як і настаўнікі, напрыклад, — гэта вельмі разумныя, найлепшыя людзі. Вядома, я не магла не давяраць спецыялістам. Мы дамовіліся на партнёрскія роды, прайшлі з мужам курсы падрыхтоўкі, але ў выніку ў радзільную залу яго не пусцілі: на суседнім стале зашывалі іншую жанчыну. Затое падчас родаў вакол мяне гурталася каля 20 чужых людзей — студэнтаў, сярод іх былі мужчыны.

Мы прыехалі ў бальніцу зарана. Каб стымуляваць радавую дзейнасць, мяне закалолі аксітацынам — паставілі тры кропельніцы, ад якіх я адчувала пякельны боль у форме адной схваткі на працягу чатырох гадзін. Я культурны чалавек, але ў той момант грызла падушку і лаялася пад нос.

Пасля таго, як нарадзіла, з-за прэпарату ў мяне пачаўся моцны крывацёк маткі, я згубіла літр крыві. У малога ж на галаве выявіўся вялікі гуз — у тую змену шышкі нейкім чынам атрымалі ўсе нованароджаныя.

Мая галоўная прэтэнзія да медперсаналу — тое, што яны могуць дазволіць сабе любыя дзеянні, не заўсёды патрэбныя, кіруючыся тым, што ў бальніцы можна хутка выправіць усе памылкі. Я ўжо маўчу пра хамства і выказванні кшталту: «Рабіць дзіця было прыемна, дык і цяпер пацярпі», «Дрэнна будзеш тужыцца — народзіш гародніну» і гэтак далей.

Працяглы час я сама была лютым праціўнікам хатніх родаў, нават сварылася з маці, якія на іх адважваліся, на спецыяльных форумах: «Вы што? У мяне так цяжка прайшлі роды, але пад рукой хаця б была рэанімацыя і сучаснае абсталяванне, а вы — ненармальныя». Пасля я пагутарыла з некаторымі такімі жанчынамі ўжывую, убачыла, што яны не нейкія там сектанткі, якія з'ядаюць плацэнту пасля родаў, а адукаваныя доктаркі, юрысткі...

Акрамя гэтага, я пачала чытаць літаратуру з альтэрнатыўным падыходам да гэтага працэсу: французскага акушэра Мішэля Адэна, які папулярызуе думку пра тое, што акушэрка ўвогуле не павінна ўмешвацца ў справу, пакуль яе дапамога не спатрэбіцца, Грэнтлі Дзік-Рыд, Ірыну Мартынаву... Для сябе я вырашыла, што другое дзіця буду нараджаць дома. Я займалася ёгай, рыхтавала сваё цела. На ўсякі выпадак дамовілася з медперсаналам радзільні, што ў любы момант магу туды прыехаць. Я знайшла выдатную хатнюю акушэрку з адукацыяй і вялікім досведам, якая даглядала мяне падчас цяжарнасці, родаў і пасля.

Памятаю, што воды ў мяне адышлі нечакана (да гэтага былі схваткі, але зусім слабыя). Я адразу патэлефанавала акушэрцы — яна прыехала праз 10 хвілінак, але за такі кароткі адрэзак часу я паспела нарадзіць. Прыгадала ў той момант усё, чаму мяне вучылі, правільна дыхала і амаль не тужылася: дачка «выйшла» лёгка і спакойна, хаця я ўвесь час чакала той боль, што быў мне вядомы з радзільні. Нараджала я ў ванне, у ляжачай паставе. Пупавіну перарэзала акушэрка, яна ж прыняла плацэнту — гэта тое, чаго я больш за ўсё баялася. Акушэрка паводзіла сябе са мной як з роднай дачкой — гэта не ідзе ні ў якае параўнанне з тым, што адбывалася ў бальніцы.

Пра папаўненне ў сям'і мы паведамілі педыятру на пятыя суткі: яна была ў жаху. На наступны ж дзень да нас завіталі органы сацабароны, апекі, галоўны доктар паліклінікі. Потым быў суд па вызначэнні факта нараджэння, бо толькі так хатнія дзеткі атрымліваюць пасведчанне. Наш суд цягнуўся нечакана доўга — чатыры месяцы, у яго межах мне прыйшлося пацвярджаць факт цяжарнасці ў гінеколага, рабіць генетычную экспертызу па вызначэнні мацярынства. Пытанне вырашылася толькі праз старшыню суда.

Нягледзячы на ўсе гэтыя праблемы, я ні пра што не шкадую. Калі будзе трэцяе дзіця — зраблю гэтак жа. Для маёй дзяўчынкі трэба было, каб яна з'явілася на свет менавіта так: без стрэсаў, у спакоі, з маёй увагай.

Акрамя таго, я адчуваю сваю моц як маці, гэты досвед узбагаціў нашы адносіны з дачкой: на нас ніхто не крычаў, не камандаваў, не залазіў у маё цела, калі тое не трэба, ніхто ў мяне адразу ж не забраў дзяўчынку... Мы зрабілі ўсё самі.

### Гісторыя Марыі В. (36 гадоў)



Трэцяе дзіця я, можна сказаць, вымушана была нараджаць дома. Чаму? Таму што і ў першы, і ў другі раз я сутыкнулася з праблемамі ў радзільнях.

Да родаў першынца рыхтавалася скрупулёзна, хоць і была цалкам здаровай будучай маці: лекара шукала па рэкамендацыях знаёмых. Замовіла платную палату ў радзільні №2 і нават на лапу там яшчэ шмат каму дала — карацей, перастрахоўвалася. Але нешта пайшло не так, і мае роды скончыліся кесаравым, а на матцы застаўся рубец.

З такімі наступствамі для здароўя мне, цяжарнай другі раз, так я цяпер лічу, нельга было калоць аксітацын, пачынаць з праколу пузыра, тым больш была дамова на натуральныя роды, аднак усё гэта рабілі, каб потым зноў мяне ратаваць.

Менавіта таму, калі я зацяжарыла трэці раз, у мяне было некалькі варыянтаў развіцця падзей: ехаць за мяжу ці нараджаць дома. Ісці ў радзільню я не хацела, гэта было рызыкоўна. Маці, якія нараджаюць там, будуць са мной спрачацца, аднак я бачыла, што ў маёй сітуацыі я маю рацыю.

Маё рашэнне цалкам падтрымалі сваякі і муж, тым больш што яго стрыечны пляменнік падчас родаў атрымаў інваліднасць менавіта праз памылку дактароў. Больш за тое, вясковы педыятр пазітыўна адрэагавала на гэтую ідэю. У нашай вёсцы я не першая маці, якая нараджае такім спосабам.

Мы нанялі акушэрку, паслугі якой абышліся ў 500 даляраў. На крайні выпадак, мы былі гатовыя ехаць у рэанімацыю: у двары чакала машына з кіроўцам — карацей, я не строіла з сябе героя. Да родаў абследавалася ў платным медцэнтры: ведала, што ў мяне добрыя аналізы, і плод развіваецца здаровы.

Самі роды прайшлі цудоўна. Пра іх нават няма чаго расказаць: нараджала — нарадзіла. А вось пра жахі і негатыўныя эмоцыі з радзільні я магу распавядаць вечна.

Што мяне расчуліла — дык гэта ўвага і падрыхтаванасць маёй акушэркі: калі цябе апранаюць у якасны ўралагічны памперс, а не ў нейкія анучы, калі цябе падтрымліваюць на кожным кроку, калі табе прыносяць напой з трубачкай, хаця дома ў нас іх не было... Я расказваю пра такую дробязь, каб вы разумелі, як можна клапаціцца пра парадзіху, і гэта павінна быць нормай. Карацей, я адчула сябе каралевай працэсу, а не інкубатарам

для дзіцяці ці часткай канвеера.

Многія людзі думаюць, што ў хатніх акушэрак няма ніякіх інструментаў, але ў нашай быў і партатыўны прыбор для КТГ, і першапачатковы набор для рэанімацыі.

Пасля нас, вядома, чакаў судовы працэс. Пасведчанне малому аддалі толькі праз два месяцы. Але ў ідэале павінна быць так, каб кожная жанчына магла абраць сабе таго гінеколага ці акушэрку, якія будуць з ёй на сувязі 24 гадзіны ў суткі, каб яна афіцыйна выплачвала спецыялістам грошы, а яны ў любы момант маглі прыняць роды ў радзільні ці дома.

**Гісторыя Дар'і Лукіной (38 гадоў)**



У нашай сям'і гадуецца двое сыноў — Даміян і Себасцьян. У іх вялікая розніца ва ўзросце — 16 гадоў. Першага я нараджала ў радзільні: у 21 год і думкі не было, што існуюць нейкія альтэрнатывы, я проста дзейнічала па стандартнай схеме. Другое ж дзіцё было доўгачаканым, зацяжарыць удалося не з першай спробы, таму я вырашыла падысці да будучых родаў адказна і свядома.

Я шукала добрую радзільню ў Мінску, патрабаванняў было не так шмат: спецыялісты, з якімі можна было б пазнаёміцца загадзя, плюс я не хацела, каб роды стымулявалі, прасіла, каб не адразу перарэзалі пупавіну і не забіралі дзіця вельмі хутка. Нідзе мне не сказалі, што змогуць выканаць усе гэтыя просьбы.

Быў варыянт паехаць у Вільню: мы кансультаваліся там, і дактары былі гатовыя выканаць любы наш сцэнар. Аднак мы падлічылі, што ўсё можа абысціся занадта дорага ў грашовым эквіваленце. Таму прыйшлі да высновы, што хатнія роды — аптымальны варыянт. Знайшлі на радзіме акушэрку, якая вяла апошнія тыдні цяжарнасці, а потым рабіла агляды немаўляці.

У жаночай кансультацыі пра сваё рашэнне я нікому не сказала, хоць і знаходзячыся ў добрых адносінах з участковым гінеколагам: яна вяла маю цяжарнасць, а я адказна выконвала ўсе прадпісанні. Аднак, як работнік дзяржаўнай сістэмы, яна б мяне не падтрымала, адгаворвала б і гэтак далей, менавіта таму я прамаўчала.

Акушэрку я паклікала, толькі калі пачаліся схваткі. Роды лёгкімі не былі. Я лічу, што ўвогуле іх лёгкіх не бывае, бо гэта заўсёды выпрабаванне. Быў адзін момант, калі мне падалося, што без акушэркі я б не дала рады: немаўля было вельмі вялікім, і я баялася, што не змагу яго «вытужыць». Дапамагло тое, што мая памочніца мяне ўсяляк падтрымлівала, падбадзёрвала: канкрэтна дэманстравала неабходныя позы, як правільна тужыцца і гэтак далей.

Каб суд прайшоў лёгка, нам прыйшлося схлусіць, што мы не паспелі даехаць да радзільні. Аднак мне вельмі хочацца, каб такога не было. Каб не хаваліся ні мы, ні акушэркі.

Лепш бы дзяржава падтрымала наша жаданне, бо шмат маці хочуць нараджаць дома: зрабіла б больш даступнай хуткую дапамогу, каб на выпадак нейкіх нечаканасцяў можна было б адразу выклікаць брыгаду рэанімацыі.

З другога боку, калі б я знайшла добры варыянт у радзільнях, можа, і не нараджала б дома. Але, на жаль, усё тое, што там сёння адбываецца, працуе па правілах, якія пісалі не жанчыны, ды не адпавядае прынцыпам натуральных родаў, да якіх імкнецца кожная будучая маці з цвярозым розумам.

**Гісторыя Вольгі Б. (40 гадоў)**



У нас шматдзетная сям'я: 5 дзяцей. Першага і другога я нараджала ў абласной радзільні, а траіх наступных — дома, таму што на сваім досведзе ўбачыла, што нашы радзільні ўяўляюць сабой набор бессэнсоўных дзеянняў і працэдур, за якімі знікаюць уласна галоўныя асобы — маці і дзіцё.

Мы — проста аб'екты састарэлых пратаколаў і звычак медперсаналу, часам проста бессэнсоўных і нават небяспечных: стымуляцыі, пракол пузыра без дазволу, аксітацын без тлумачэнняў...

У радзільным доме не бачаць у парадзісе паўнапраўнага чалавека, які ў стане прымаць рашэнні і мае права атрымліваць вычарпальную інфармацыю пра тое, што адбываецца.

Другія роды ў мяне былі імклівымі: мы ледзь паспелі выклікаць хуткую дапамогу і ўляцець у прыёмнае аддзяленне. Пачаліся схваткі, я амаль падала на карачкі. Муж дапамог мне распрануцца, накінуць кашулю, і мяне дацягнулі да радзільнага пакоя. І што вы думаеце? Пакуль я знаходзілася ў такім стане, акушэрка расклала свае паперы на суседнім стале і пачала мяне апытваць: месца працы, пасада...

Вельмі напружвае, што ў нас да гэтага часу праблемна правесці партнёрскія роды, нават па аплачаным кантракце, бо можа не знайсціся свабодных палат. На курсах партнёрскіх родаў абласной радзільні вельмі салодка пра ўсё гэта спяваюць, а на самай справе — як пашанцуе. Загадчык аддзялення сам шчыра прасіў мяне не браць на роды мужа.

Калі нарадзілася дачка, ніхто не чакаў, пакуль адпульсуе пупавіна, пакуль адыдзе плацэнта, дзяўчынку адразу забралі і нават не паклалі на жывот.

Даўно ўжо даказана, што стрэс — антаганіст родаў. Чым больш жанчына напружана, тым даўжэй і цяжэй будуць яны праходзіць. Таму я заўсёды стаўлю ў прыярытэт інтарэсы і пачуцці парадзіхі. Камусьці спакайней у хатніх умовах, камусьці ў радзільным доме. У жанчыны павінен быць выбар.

Мае старэйшыя дзеці нарадзіліся з радавымі траўмамі і важылі менш за малодшых. Праблемы былі і ў мяне: моцны крывацёк, цяжкае аднаўленне і пострадавая дэпрэсія. Малодшыя ж «выскачылі» лёгка, хоць і важылі 4—5 кг. Ніякіх праблем ні ў мяне, ні ў іх са здароўем, фізічным і маральным, не было.

Дома я нараджала, стоячы на карачках. Увогуле, у кожнай жанчыны ёсць свая зручная родавая поза, у радзільні ж цябе, часцей за ўсё, кладуць. Адзін з самых істотных плюсаў хатніх родаў у тым, што дзіця адразу знаёміцца з хатняй мікрафлорай. Нават лекары прызнаюць, што няма нічога горшага за бальнічныя інфекцыі. Мы лічым, што большасць ускладненняў, якімі пужаюць мам, што нараджаюць дома, здараюцца менавіта ад бальнічнай атмасферы.

Асноўныя складанасці пасля хатніх родаў — толькі працэсуальныя. Гэта значыць — як мага хутчэй пасля родаў (замест таго, каб ляжаць, аднаўляцца і «вылізваць» дзіця) бегаць па горадзе, збіраць даведкі, каб падаць дакументы ў суд, а потым пацвердзіць факт цяжарнасці і саміх родаў.

Выбіраць, як і дзе нараджаць, — гэта права жанчыны. Яна і толькі яна выбірае найлепшыя ўмовы для сябе і свайго дзіцяці. А каб мы не баяліся прыходзіць у радзільні, рэарганізоўвайце іх.

**Гутарыла Кацярына Карпіцкая, фоты з архіваў гераінь**

# Бізнэсовец пабудаваў пад Мінскам дом, які шакуе суседзяў

«Гэты дом я фатаграфавала на тэлефон, паказала на працы. А потым выдаліла ўсё, каб нават у памяці мабільнага не было гэтых чарцей, — распавядае *tut.by* жыхарка Ратамкі Марыя Мікалаеўна. — Спачатку дом выглядаў сімпатычна, унучка параўноўвала яго з казачным замкам. Але калі з плота «палезлі» чорныя рукі і чарапы, а на даху з'явіліся чэрці — гэта стала перабором. Цяпер унучку міма не ваджу. Увечары тут і дарослым страшнавата хадзіць — вунь тыя чэрці на даху, якія меншыя, яны свецяцца ў цемры ліхтарыкамі».

Марына Мікалаеўна сыняецца каля дома, разглядае з цікаўнасцю, хоць бачыла яго не раз. Калі заўважае, што ў чэрапа ў плоце з вачэй тырчаць драты, перасмыквае плячыма.

— Напэўна, і чарапы хутка будуць свяціцца ў цемры, як тыя чэрці на даху, — мяркуе жанчына.

На вуліцу выходзіць сусед. Яго дом — праз плот. І з двара, і з вокнаў выгляд суседа не цешыць: паўсюль, кажа, чэрці. Адзін з іх, здаецца, нават цэліцца ў акно з лука. На глебе ўсёй гэтай «чартаўшчыны» людзям ёсць пра што пагаварыць.

— Гаспадар дома з выгляду цалкам звычайны, бізнэсовец. Тое, што ён чалавек з фантазіяй, можна было западозрыць і па машыне, цюнінгаванай чарапамі. Дом ён пачаў будаваць яшчэ гадоў дзесяць таму, потым кінуў. Гады два таму з'явіўся і аднавіў працы. І вось што атрымалася...

Падыходзіць яшчэ адна мясцовая жыхарка. Яна дастае тэлефон і, хаваючы ўсмешку, фатаграфуе чорта, фігура якога «караскаецца» па плоце, дзёрзка высунуўшы язык.

— Дом гэты ўжо ўспрымаецца як мясцовая славутасць. Нічога кашмарнага ў гэтым не бачу, але жыць у такім дакладна не стала б, — кажа мясцовая жыхарка.

Жанчына распавяла, што не ўсе суседзі з вуліцы гэткія талерантныя. Людзі палохаюцца рук, якія тырчаць з плота, альтанкі, купал якой выкладзены чарапамі.

— Наш сусед Аляксандр напісаў скаргу ў сельвыканкам, — распавяла жанчына. — Старшыня і намеснік прыехалі, патапталіся і з'ехалі. А што яны могуць зрабіць? Гэта ж прыватная ўласнасць. Так, фантазія такая ў чалавека, і грошай яму на гэта стае. Тут нават цяжка ўявіць, колькі выдаткаў толькі на камень жадэіт сышло, якім выкладзены і фасад дома, і плот звонку і ўнутры. Відаць, што чалавек задумваў нешта асаблівае, дзіўнае — і ў яго гэта атрымалася.

«Вядома, у ідэале хацелася пагутарыць з уладальнікам дома, але ніхто з суседзяў не змог падказаць яго кантактаў», — адзначаюць журналісты.









# Людзі, цэрквы, брама ў нікуды і «святы» пень: падарожжа роварам у ваколіцах Докшыц

Піша **Кастусь Шыталь**.

Вераснёўскім пагодным днём я не меў што рабіць. Трэба кудысьці выехаць, каб толькі ў хаце не сядзець.

Сёння да мяне меўся заехаць знаёмы, аддаць пазычаныя грошы. Тэлефаную яму, каб не прыязджаў — сустрэнемся ў Докшыцах. Бяру заплечнік, дастаю з падвала ровар — і са спадарожным ветрам за паўгадзіны даязджаю да горада.

У Докшыцах нічога не змянілася. Толькі ў жніўні быў Дзень горада, і да свята дадалося надпісаў на расійскай мове.

На адхоне каля возера размясцілі выявы лебедзяў ды назвы рэк, якія бяруць пачатак у Докшыцкім раёне — «Березина», «Вилия». Там жа — карта Беларусі, на якой гарады падпісаныя па-руску. І «Скамья примирения», каля Дома быта. На нашай мове — нічога.

Роўнасці дзяржаўных моваў, якая гарантаваная Канстытуцыяй, тут няма і блізка. І нават заява Лукашэнкі: «Калі мы развучымся гаварыць на беларускай мове, мы перастанем быць нацыяй» — не змяніла паводзінаў мясцовага кіраўніцтва.

Са знаёмым сустракаюся каля царквы, а потым ідзём на каву ў забягалаўку «Смак», якая знаходзіцца насупраць аўтастанцыі. Пакуль з ім сустрэцца, спатыкаю на вуліцы Тацяну, былую аднакласніцу.

Пагаварыўшы са знаёмым, еду да Тацяны. Тацяна запрашае на кухню. Заварвае гарбату. На стале — мёд у сотах і халва, прывезеная з апошняй вандроўкі ў Латвію. Тацяна штогод выбіраецца за мяжу, дасылала мне паштоўкі з Прагі, Рыгі, Львова, Тбілісі. Абмяркоўваем навіны са свайго і з грамадскага жыцця. Размаўляем пра падарожжы, пра асобу Язафата Кунцэвіча, пра дзённік Андруся Горвата.

— Вось Горват, — кажу, — пераехаў у вёску, але не стаў вяскоўцам. Шукае чагосьці новага, пацягнула яго ў тую вандроўку ў Еўропу. Вясковы чалавек не кінуў бы гаспадаркі і не паехаў у падарожжа.

Прыемна сесці за сталом і пагаварыць з разумным чалавекам. У правінцыі такая магчымасць рэдка надараецца.

Насельніцтва вёсак, мястэчак, малых гарадоў жыве, пагружанае ў побытавы клопат, а на свет глядзіць праз тэлевізар. Плёткі пра аднавяскоўцаў, забабоны, урыўкі рэлігійнасці цалкам здавальняюць іх цікаўнасць да свету. І не зусім благія людзі, і не зусім дурныя, а пагаварыць з вясковым чалавекам няма пра што... Людзей, з якімі можна разгаварыцца, у абшары дваццаці кіламетраў — на пальцах пералічыць.

— І я, калі ў Докшыцы прыязджаю, дома сяджу, нікуды не выходжу, — кажа Тацяна.

Кіруюся з Докшыц на поўнач па глыбоцкай шашы. Калісьці гэта быў паштовы тракт, частка камунікацыйнай сеткі Расійскай Імперыі. Па баках — бярозавыя прысады. Першыя зжаўцелыя лісты бяроз ападаюць на асфальт. На Глыбокае і з Глыбокага праносяцца машыны. Я еду ў Порплішча.

Каля пераезда ў Порплішчы — павільён чыгуначнага прыпынка. Шыльду «Порплище» сёлета памянялі на «Порплішча». Кіраўніцтва Беларускай чыгункі, у адрозненне ад кіраўніцтва Докшыцкага раёна, пашырае ўжыванне беларускай мовы...

Грукаюся ў дзверы старой жоўтай хаты на цэнтральнай вуліцы. Адчыняе гаспадар, былы бібліятэкар Вацлаў. Запрашае ў сваю цёмную, з маленькімі вокнамі, хату. На сцяне — партрэты Гагарына, Цоя, Пушкіна, Ясеніна. Вацлаў ставіць імбрычак, я заварваю каву.

— Слухай, Косця... Згубіў я тое, што ты мне дасылаў — партрэт Ганны Зяновіч і дакументы, што яна напісала на Порплiскую царкву — пра зямлю, якую надала царкве, пра сялянаў, пра набажэнствы, якія святары павінны служыць... Ці ёсць яны ў цябе, ці можаш зноў іх пераслаць?

— Перашлю. Толькі напішыце, нагадайце, каб не забыўся... А час заснавання царквы ў Порплішчы — цікавае пытанне. У тым дакуменце, з 1627 года, пра будаўніцтва не пішацца. Напісана, што царква ўжо была і што стаяла пустая, не было святара. А дзед гэтай Ганны Зяновіч, Кшыштаф Зяновіч, берасцейскі ваявода, які валодаў Глыбокім і Порплішчам — быў кальвіністам. І ягоны бацька, Юры Зяновіч, таксама быў кальвіністам. Дык, магчыма, той Юры Зяновіч, калі пераходзіў у кальвінізм, у гадах 1560-х ці 1570-х, і зачыніў царкву, выгнаў бацюшку з Порплішч...

— Дык царква як праваслаўная яшчэ будавалася, не ўніяцкая? — удакладняе Вацлаў.

— Ну так, праваслаўная. Але, вядома, не гэтая, што цяпер. Драўляныя будынкі столькі не стаяць. Старая спарахнела, разабралі і новую паставілі на гэтым месцы. Толькі невядома, у якім годзе дакладна гэта было.

Вацлаў не працаваў у архівах і не пісаў краязнаўчых працаў. Але ведае Порплішча і ваколіцы, мясцовых людзей і іх продкаў лепш, чым хто іншы. Размаўляў са старымі людзьмі, запамінаў.

У Порплішчы, каля той драўлянай царквы, у якой захоўваюцца з часоў уніі старыя абразы ў стылі беларускага барока, скульптуры анёлаў і фігура Ісуса Хрыста Антокальскага, паварочваю ўлева. Дарога вядзе на Сітцы. Стаіць пагодны, ціхі вераснёўскі дзень. Нейкая млявасць і павольнасць адчуваецца ўва ўсёй прыродзе і, здаецца, перадаецца на мой настрой. Па пустой гравейцы еду няспешна — спяшыць няма куды.

Над сялом Вялікія Сітцы ўзвышаецца бліпчасты купал Свята-Георгіеўскай царквы, помніка архітэктуры часоў Расійскай Імперыі, збудаванай у 1913 годзе, у 300-ю гадавіну Раманавых.

А ўдалечыні сінеюць рэдкалессі і лясы над ракой Сэрвачч. У двары Сітцы, колішняй сядзібе Бжастоўскіх і Дамейкаў, між дрэў паказваецца велічная барочная брама, унікальны помнік віленскага барока.

Пад брамай і на колішняй галоўнай алеі парку валяюцца абгорткі ад цукерак і марозіва ды разбітыя бутэлькі. У ліпені я прыбіраў тут смецце — вяскоўцы накідалі зноў.

Што замінае работнікам клуба і бібліятэкі, якія месяцца ў парку, раз на тыдзень прайсці з пакетам ды падабраць смецце? Лянота, абыякавасць. Затое летась Докшыцкі райвыканкам паспяхова асвоіў у Сітцах замежны грант «Аднаўленне гістарычных сядзібаў» на суму 18.000 даляраў, з якіх на сядзібу не пайшло ані цэнта.

Зрэшты, ёсць большая бяда, чым непрыбранае смецце. Зацякае скляпенне другога яруса брамы. Цэгла трушчыцца. Калі не зрабіць кансервацыю, частка брамы можа абрынуцца ўжо ў найбліжэйшыя гады. Раблю фотаздымкі.

Трэба абмеркаваць справу са спецыялістамі ў галіне аховы помнікаў ды, можа, напісаць зварот у Міністэрства культуры па гэтай справе. Мясцовыя ўлады пра браму не паруняцца, трэба самому нешта дабівацца.

Жыхароў Сітцаў цяпер займае іншая навіна, не звязаная з гісторыяй. У жніўні «вясковы тэлеграф» разнёс сенсацыю: на пні адламалі кару — і ўбачылі там абраз Маці Божай.

Я бачыў фотаздымкі таго пня ў сацыяльных сетках. На дрэве — пляма, якая крыху нагадвае абрысамі выяву Багародзіцы. Толькі абрысамі, бо выявы твару няма. Вяскоўцы палічылі пляму за Божы знак — і пень стаў месцам паломніцтва. Да яго прыходзяць людзі з Сітцаў і навакольных вёсак, прыносяць кветкі.

Выязджаю на Параф'янава, і за вёскай мяне абганяе «Шкода» з мінскімі нумарамі і спыняецца. Кіроўца выходзіць. Я разумею, што ён хоча нешта ў мяне запытацца.

— Дзе той абраз, які аб'явіўся, калі пілавалі дрэва? — пытаецца кіроўца.

Не ў пнях і не ў касцях Стварыцеля і Збавіцеля шукаць належыць... Божай моцы можна дакрануцца ў таемствах Споведзі і Прычасця. Праведнасці можна дайсці праз веру і жыццё па запаведзях. Пяцьсот год таму Скарына надрукаваў Біблію, каб беларусы маглі Божую праўду спазнаць. А людзі ідуць да пнёў і касцей, спадзяючыся, што пакланенне ім дасць ім здароўе і шчаслівае жыццё. Мабыць, так ім прасцей... Не трэба змяняць жыццё, шукаць Валадарства Божае ўнутры сябе.

Маё падарожжа сканчваецца ў Параф'янаве. Я зрабіў кола, недзе сорак кіламетраў. У паштовай скрыньцы знаходжу квіток ад паштовага пераводу — нейкі добры чалавек з Мінска даслаў дваццаць пяць рублёў. На кухні ў рондлі стаяць парэзаныя баравікі, падасінавікі і сыраежкі — гэта мая цётка Яніна хадзіла ў грыбы.

**Параф'янава — Докшыцы — Порплішча — Сітцы — Параф'янава**


Вялікія Сітцы і стагадовая Свята-Георгіеўская царква.





На пні адламалі кару і пабачылі там выяву Маці Божай.


Старая-старая царква ў Порплішчы.

# Сем найлепшых серыялаў гэтага лета

Лета — не найлепшы час для серыяльных навінак, але нешта цікавае з'яўляецца і ў гэтыя спякотныя месяцы года. «Наша Ніва» прапануе традыцыйны агляд самых цікавых серыялаў апошняга часу.



«Твін Пікс»

### «Твін Пікс» (Twin Peaks)

Драма, дэтэктыў, жахі. ЗША, 3-і сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,7

Злавесны саўндтрэк да гэтага серыяла камусьці помніцца з дзяцінства, камусьці — з юнацтва. Неабыякавым ён не пакідаў нікога. Гэты фільм даўно лічыцца адным з найлепшых у гісторыі тэлебачання. Глухі гарадок Твін Пікс у штаце Вашынгтон схаваны ад свету піхтамі Дугласа, тут гатуюць самы смачны ва ўсёй Амерыцы вішнёвы пірог, а таксама разліваюць цалкам прыстойную каву.

Аднак нечакана ў адзін момант увесь горад пачынае задавацца амаль сакральным пытаннем: «Хто забіў Лору Палмер?» Старшакласніцу мясцовай школы знаходзяць памерлай і згвалтаванай. І дзіўным чынам аказваецца, што магчымых падазраваных нашмат болей, чым можна сабе падумаць.

Выдатны рэжысёр і сцэнарыст Дэвід Лінч здольны трымаць інтрыгу ад пачатку і да канца, ён ведае тыя патаемныя кручкі, якія не дазваляюць спажыўцу сысці ад прагляду. Цяпер Лінч паставіў перад сабой не менш складаную задачу — адрадзіць «Твін Пікс» пасля 26-гадовага перапынку.

Пра новы сезон культавага серыяла можна пачуць шмат адмоўнага. Маўляў, не ўсё ясна, дзеянні марудныя. Аднак стабільна высокі рэйтынг «Твін Пікса» сведчыць пра тое, што Лінчу зноў атрымалася стварыць нешта блізкае да шэдэўра.

### «Озарк» (Ozark)

Крымінальная драма, трылер. ЗША, 1-ы сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,6

Фінансавы кансультант Марці Бёрд, у якога «дастаткова сумнае жыццё», загразнуў у пазыках. Ён не знаходзіць лепшага выйсця, як уцякаць з Чыкага ў маленькі гарадок Озарк, штат Місуры, каб ураткаваць сваё жыццё, а таксама жыццё сваёй сям'і.

У серыяле можна знайсці дастаткова класічны кактэйль для крымінальнай драмы: мексіканскія наркагандляры, грошы, прастытуткі, пісталеты. Амерыканскія кінакрытыкі кажуць, што «Озарк» пакуль не дасягнуў узроўню класічных фільмаў гэткага жанру, але безумоўны патэнцыял маецца.

Плюс «Озарка» — у дасканалых дэкарацыях, прадуманых дыялогах галоўных герояў, у яго псіхалагізме. Марці спрабуе разрульваць праблемы не толькі з наркакартэлем, але з уласнай сям'ёй, а гэтая лінія нават не менш цікавая.

### «Восьмае пачуцце» (Sense8)

Фантастыка, драма. ЗША, 2-і сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,4

Што агульнага ў мексіканскага акцёра-гея Літа Радрыгеса, сеульскай бізнэс-лэдзі Сун Пак, нямецкага злодзея Вольфганга Багданава і чыкагскага паліцэйскага Уіла Горскі? Усе яны незнаёмыя паміж сабой, але нечакана набываюць ментальную і эмацыйную сувязі адно з адным.

Так, ісландская ды-джэйка Райлі Блю такім чынам можа аказацца знянацку ў Найробі ці Паўднёвай Карэі. Пачуць і зразумець чалавека зусім іншай культуры. Іх васьмёра, і яны аб'яднаныя гэтай псіхічнай сувяззю.

Кожная з серый прысвечаная камусьці аднаму з герояў, падрабязнай ягонай гісторыі, але адначасова развіваюцца і гісторыі іншых персанажаў.

Рэжысёры фільма ставілі сабе за мэту стварыць нешта абсалютна новае ў свеце серыялаў. Фільм здымаўся адначасова ў васьмі краінах. З другога сезона «Восьмае пачуцце» надае больш увагі тэмам палітычных поглядаў, сэксуальнасці, рэлігіі.

Варта таксама адзначыць, што гэты фільм атрымліваў прэмію ад Амерыканскага альянса геяў і лесбіянак за карэктнае асвятленне гэтай тэмы.

### «Амерыканскія багі» (American Gods)

Фэнтэзі, драма. ЗША, 1-ы сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,2

Людзі нараджаюцца, жывуць, а потым паміраюць. Што, калі гэткі самы шлях маюць не толькі яны, але і багі? Амерыканскі пісьменнік Ніл Гейман лічыць, што багі такія самыя смяротныя, як і людзі. Яны не жывуць вечна, не ўвесь час піруюць у сваёй Вальхале. Багам таксама трэба зарабляць на жыццё.

Багі мінулага даўно забытыя, яны перабіваюцца аб'едкамі, якія пакідаюць ім багі інтэрнэту, тэлебачання, хуткасных шашэ і гіпермаркетаў. Калісьці гэтых багоў прывозілі ў ЗША з усяго свету: Скандынавіі, Беларусі, Егіпта, Ірландыі, Японіі і г.д. Праўда, чым болей часу праходзіла, тым меней пра іх згадвалі.

Містэр Серада (не лічыце гэта спойлерам, ён жа Одзін) збірае старых багоў на апошні крывавы бой з багамі сучаснасці. Дапамагчы яму ў гэтым мусіць Цень Мун, былы зняволены. Вось тут і пачынаюцца вандроўкі Одзіна і Ценя па ўсёй Амерыцы.

«Амерыканскія багі» — гэта постмадэрнізм, інтэлектуалістыка, схаваная пад пластом папсы. Не самы просты серыял сучаснасці, аднак здольны прынесці шмат разумовага задавальнення ад прагляду.

### «Аранжавы — хіт сезона» (Orange Is the New Black)

Камедыя, драма. ЗША, 5-ы сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,2

Турма — гэта адна са сфераў жыцця, куды хочацца зазірнуць многім, але не на ўласным досведзе. Вакол турэмных зняволенняў існуе мноства міфаў і заблуджэнняў. Якія ж там насамрэч парадкі, хто здольны выжыць на гэтай тэрыторыі, а хто не? І актуальна гэта не толькі для нас, але і для ЗША. Некалі фільм «Уцёкі з Шаўшэнка» паводле твора Стывена Кінга стаў ледзь не класічным.

«Аранжавы» ж прапануе зазірнуць за шырму жаночай калоніі. Маладая дзяўчына Пэйпер Чапмэн апынулася на 15 месяцаў у турме за саўдзел сваёй каханай Алекс Воўз у правозцы наркотыкаў. Чапмэн — з дастаткова багатай нью-ёркскай сям'і. Зняволенне для яе — рэальны шок. Яна не ведае, што рабіць і чаго не рабіць за кратамі.

Турма — гэта цэлы свет са сваімі адметнымі персанажамі. Напрыклад, руская кухарка Галіна Рэзнікава, яна ж Рэд. Усёмагутная ў пачатку серыяла, яна спрабуе прывучыць наравістую Чапмэн, што яе і яе кухню крытыкаваць нельга. У адной з серый на сцяне ля ложка Рэд вісіць вымпел беларускага КДБ. Ёсць лацінаамерыканкі з самага дна амерыканскага жыцця, рэлігійныя фанаткі і нават сапраўдная манашка, трансгендар-цырульніца і шмат хто яшчэ. Нічыя гісторыя не падобная да іншай. Як выжыць і застацца чалавекам у гэтай закрытай прасторы?

### «Прапаведнік» (Preacher)

Чорны гумар, драма. ЗША, 2-і сезон
Рэйтынг на IMDB: 8,1

Джэсі Кастэр — гэта не самы тыповы амерыканскі пастар. У яго даўні крызіс веры, не пакідаюць сумнівы, ці ёсць Бог. Ён бы даўно кінуў сваю працу, калі б не абяцанне бацьку перад смерцю апошняга. Нядзельныя прамовы Кастэра цяжка назваць натхняльнымі. Прапаведніку больш падабаецца жлукціць віскі і бурбон, а таксама курыць цыгары. Джэсі нечакана пачынае сяброўства з сапраўдным вампірам.

І гэткі дэкаданс працягваецца да той пары, пакуль у яго не ўсяляецца так званы Генезіс, плод кахання анёла і дэмана. Людзі з таго свету спрабуюць забраць Генезіса назад, але ўсе іх спробы застаюцца марнымі. У адзін з дзён прапаведнік абяцае прывесці ў царкву сапраўднага Бога...

Серыял зняты па матывах папулярнага ў ЗША комікса. Стваральнікі фільма імкнуцца перадаць у кіно менавіта атмасферу коміксаў. Здаецца, у іх гэта няблага выходзіць.

### «Эль-Чапа» (El Chapo)

Крымінальны трылер, біяграфія
Рэйтынг на IMDB: 7,9

Слава серыяла «Нарка» пра жыццё знакамітага калумбійскага наркабарона Пабла Эскабара не дае спакою і іншым стваральнікам серыялаў. «Эль-Чапа» — гэта баёпік Хаакіна Гузмана, Каратышкі, не менш вядомага гандляра наркотыкамі з Мексікі. Паводле розных ацэнак, Эль-Чапа нават пераўзышоў у багацці Эскабара.

У «Эль-Чапа» для гледачоў забяспечаны экшн ад першай серыі. Як і ў «Нарка», у фільме выдатныя саўндтрэкі на іспанскай мове. Галоўныя ролі выконваюць таксама іспанамоўныя артысты. Асобна варта адзначыць тое, што Гузман усё яшчэ застаецца жывым. Ён час ад часу нават уцякае з мексіканскіх турмаў. Цікава, ці атрымалася яму самому ўжо паглядзець серыял пра сябе?

**Зміцер Панкавец**



«Восьмае пачуцце»

# Якуція: народ, якому ўдалося зноў стаць большасцю на ўласнай зямлі

Якуція — гіганцкая тэрыторыя. 3 мільёны квадратных кіламетраў — у 15 разоў большая за Беларусь. І ўявіце сабе: у 1989 годзе якутаў у Якуціі заставалася ўсяго 33%. На сёння ж іх доля вырасла да 53%! Яны зноў сталі большасцю на ўласнай зямлі, што дае ім новыя гістарычныя шанцы.

Расія не толькі з'яўляецца самай вялікай краінай у свеце, але і некаторыя яе суб'екты з'яўляюцца такімі велізарнымі, што нават апярэджваюць большасць краін па плошчы. Напрыклад, Рэспубліка Саха (Якуція) займае ажно 18% тэрыторыі Расіі. Калі б Якуція была незалежнай дзяржавай, яна б стала восьмай дзяржавай у свеце па плошчы, зусім трохі саступаючы Індыі.

Праўда, у Індыі жыве каля 1,3 мільярда чалавек, у Якуціі на амаль ідэнтычнай плошчы няма і мільёна. Гэта ўнікальнае ўтварэнне ў складзе Расіі мае надзвычай маленькую шчыльнасць насельніцтва, перадусім праз люты клімат: зімой тэмпература апускаецца да –60, а летам уздымаецца да +40. І вось у такіх умовах якуты стварылі самабытную культуру.

Гэтая рэспубліка ўнікальная не толькі невыносным кліматам і багатымі запасамі карысных выкапняў, але і тым, што ў часы перабудовы і ў 1990-я Якуція перажыла сапраўднае нацыянальнае адраджэнне. І як адгалосак тых часоў, тут дагэтуль высокі адсотак якуцкіх школ, нацыянальнае тэлебачанне і радыё вяшчаюць пераважна на мове саха і робяць якуцкамоўныя тэлесерыялы, існуе даволі развітая эстрада і папулярны кінематограф на якуцкай мове. І гэта пры тым, што агульная колькасць якутаў не перавышае 500 тысяч чалавек.

Якуты маюць нацыянальны гонар: яны прыйшлі з берагоў Байкала на землі, што сталі Якуціяй, недзе ў XII—XIV ст., асімілявалі маламлікія мясцовыя плямёны і стварылі моцную, устойлівую культуру. Яны навят вывелі прыстасаваныя да жыцця ва ўмовах поўначы пароды «якуцкай каровы» і «якуцкага каня».

Аднак у XX ст. якутам удалося нават больш, чым іншым народам Расіі.

У чым сакрэт поспеху невялікага, але раскінутага на велізарнай плошчы народа, а таксама з якімі праблемамі сутыкаецца якуцкі нацыянальны рух, «Наша Ніва» абмеркавала са стваральнікам якуцкай «Вікіпедыі» і папулярызатарам якуцкай мовы Мікалаем Паўлавым.

**НН: У чым сакрэт асноснага поспеху Якуціі, асабліва калі параўноўваць вас з іншымі народамі Расіі, дзе з нацыянальнай самасвядомасцю горшая сітуацыя?**



Мікалай Паўлаў.



Ысыах — свята вясны, нацыянальнае свята ў якутаў




**МП:** Нейкага асобнага сакрэту няма. З пачаткам перабудовы ва ўсіх нацыянальных ускраінах Расіі адбываліся працэсы росту нацыянальнай самасвядомасці. Тая спружына, якая была пад палітычным ціскам у гады СССР, нечакана вызпрасталася. Адбылося культурнае адраджэнне амаль усіх этнасаў, якія засяляюць Расію.

Розніцу я бачу ў захаванні нацыянальнай якуцкай школы ў савецкія часы. У адрозненне ад большасці іншых рэспублік Расіі, у Якуціі заўсёды была высокай доля нацыянальных школ. Усе прадметы з 1 да 10 класа вывучаліся на якуцкай мове. Таму рост нацыянальнай самасвядомасці ў часы перабудовы быў істотным. Шмат жыхароў рэспублікі, у тым ліку не саха, пачалі вывучаць мову самастойна. Бацькі імкнуліся забяспечыць дзяцей адукацыяй на якуцкай мове.

Праўда, цяпер цалкам нацыянальных школ у Расіі, у тым ліку ў Якуціі, практычна не засталося, бо Адзіны дзяржаўны экзамен [аналаг беларускага ЦТ] цяпер можна здаваць толькі на рускай мове. Але, тым не менш, у большасці школ Якуціі існуе так званы «нацыянальны кампанент». Выкладанне цалкам на якуцкай мове існуе толькі ў пачатковай школе.

Таму зараз, на мой погляд, якуцкая мова ўсё ж здае свае пазіцыі. Але, як вы трапна адзначылі, у параўнанні з іншымі рэспублікамі сітуацыя не такая ўжо і дрэнная. Захаванне адукацыі ў пачатковай школе на якуцкай мове было ключавым фактарам.

Якуты — малалікі этнас, але амаль усе валодаюць размоўнай і пісьмовай мовай. Існуе вялікая колькасць часопісаў, газет і кніг па-якуцку. Мы падлічылі, што летась наша галоўнае выдавецтва выдала каля 400 кніг на якуцкай мове. Гэта не тыя тыражы, якія былі ў гады СССР, але попытам гэтыя кнігі карыстаюцца.

Існуе некалькі агульнарэспубліканскіх газет, і яны таксама адносна папулярныя, калі ўлічваць маленькае насельніцтва Якуціі. Напрыклад, якуцкая газета «Кыым» ужо доўгі час мае самы вялікі наклад сярод нацыянальных газет народаў Расіі і нават апярэджвае татарскія выданні. Хаця татараў разоў у 10 больш, чым нас.

Што тычыцца нацыянальнага тэлебачання "НВК Саха", яно вяшчае кругласутачна і робіць праграмы пераважна на якуцкай мове. Гэтая ж кампанія мае і радыёстанцыю. І там эфір таксама, за невялікім выключэннем, на якуцкай мове.

У 90-я гады адбыўся сапраўдны бум кінематографа. У нас здымалася, дый зараз здымаецца, вялікая колькасць самых розных фільмаў і серыялаў па-якуцку. Жанры самыя розныя: і фільмы жахаў, і камедыі, і меладрамы, і філасофскія прыпавесці. Праўда, пакуль не зусім зразумела, што будзе ў будучыні. У Расіі зараз вырашылі істотна падвысіць мыта з кінавытворцаў, што можа стаць непад'ёмным для дробных гульцоў. Нашыя кінематаграфісты знаходзяцца ў разгубленым стане, таму што такія ўмовы зробяць пракат якуцкіх фільмаў немагчымым.

Але я ўсё ж хацеў бы адзначыць, што выкарыстанне мовы ў побыце, асабліва ў спалучэнні з захаваннем традыцыйнай гаспадаркі (а якуты з'яўляюцца самымі паўночнымі жывёлагадоўцамі), развіццё медыя, розных жанраў літаратуры і развіццё іншых культурных інстытутаў важнае, але самае галоўнае — наяўнасць нацыянальнага школьніцтва. Толькі сярэдняя школа можа забяспечыць людзей не толькі ведамі вуснага штодзённага маўлення, але і навучыць іх пісьмовай мове, прышчапіць навыкі чытання, разумення высокіх стыляў літаратурнай мовы, каб такія людзі ў будучыні маглі спажываць прадукцыю пісьменнікаў і журналістаў.

**НН: Як якуцкая мова адчувае сябе ў інтэрнэце?**

**МП:** Калі мы не забяспечым прадстаўніцтва мовы ў інтэрнэце — яна стане аўтсайдарам. Мовамі вялікіх народаў займаюцца карпарацыі. А мовамі малых народаў вымушаныя займацца самастойна самі малыя народы.

Прыярытэтным кірункам мы выбралі «Вікіпедыю». Яна запатрабавана людзьмі і шмат кім выкарыстоўваецца. Артыкулы пішуцца добраахвотнікамі.

Немалаважным з'яўляецца і пытанне прэстыжу мовы. Калі мова становіцца непрэстыжнай, бацькі перастаюць вучыць ёй сваіх дзяцей. А наяўнасць «Вікіпедыі» спрыяе падвышэнню прэстыжу ў вачах простых людзей.

**НН: Якуцкае нацыянальнае адраджэнне часоў перабудовы і 1990-х з'явілася выключна моўна-культурным ці яно ўздымала і палітычныя пытанні? Ці існавалі ідэі стварэння ўласнай незалежнай якуцкай дзяржавы?**

**МП:** Вядома, любы народ не маналітны. Розныя меркаванні заўсёды былі і будуць. Такія палітычныя заявы тады таксама гучалі. Але гэта не знайшло падтрымкі сярод большасці якутаў.

З аднаго боку, сярод нас заўсёды былі імкненні да большай самастойнасці, каб самастойна вызначаць сваю будучыню. Гэта натуральна, гэта можна зразумець. Але заявы пра поўную незалежнасць ад Расіі ніколі не карысталіся вялікай папулярнасцю. Якуцкі народ не бачыць магчымасцяў, каб нейкі сур'ёзны рух за незалежнасць мог узнікнуць.

**НН: На ваш погляд, русіфікацыя, якая адбывалася і адбываецца ў расійскіх рэспубліках, — аб'ектыўны працэс, выкліканы палітычнымі і сацыяльнымі прычынамі, альбо мэтанакіраваная палітыка Масквы?**

**МП:** Трэба разумець, што федэральная ўлада неаднародная. Там існуе шмат розных рухаў, розных людзей, якія мысляць па-рознаму. Адно крыло хоча русіфікацыі, каб пазбавіць краіну магчымых праяваў сепаратызму. Іншае крыло, наадварот, разумее, што Расія можа быць канкурэнтаздольнай толькі тады, калі яна здолее захаваць сваю разнастайнасць. Калі чалавек адчувае, што яго мова і яго культура цэняцца, паважаюцца дзяржавай і падтрымліваюцца, то сепаратызм не можа развівацца. Спадзяюся, што гэта разуменне ўрэшце атрымае перавагу на федэральным узроўні.

**НН: Якія адносіны ў якуцкага нацыянальнага руху, папулярызатараў якуцкай мовы з мясцовымі ўладамі?**

**МП:** Захаванне культуры запатрабавана народам. Таму і чыноўнікі вымушаны культуру падтрымліваць, асабліва з улікам таго, што сярод чыноўнікаў шмат этнічных саха. Іншая справа, што не заўсёды ёсць разуменне таго, як правільна гэта рабіць. Часам не хапае сродкаў, каб нешта ажыццяўляць. Часам замінаюць некаторыя законы, якія прымаюцца на карысць палітычных фактараў.

**НН: Якуцкая мова з'яўляецца цюркскай. Як ставяцца ў Якуціі да панцюркізму?**

**МП:** Ставяцца абсалютна нармальна. Мы, як цюркскі народ, маем роднасныя пачуцці да іншых цюркаў. Але і нельга сказаць, каб Якуція вельмі актыўна ў гэтым удзельнічала. Па-першае, наша мова, як і чувашская, даволі даўно адгалінавалася ад агульнацюркскай, таму мы не разумеем іншых цюркаў. А яны, адпаведна, не разумеюць нас. Па-другое, мы жывём даволі далёка ад іншых цюркаў. Ну і трэцяе, большая частка цюркаў — мусульмане, а мы, якуты, спалучаем праваслаўе з нашай традыцыйнай рэлігіяй.

Даўно, калі я яшчэ быў школьнікам, я бываў у Беларусі. Я адчуў высокую цану, якую заплацconfiguredіў ваш народ у Другой сусветнай вайне. Я радаваўся, што людзі пазнавалі нас, якутаў, і адразу пыталіся пра вольную барацьбу, таму што нашыя алімпійскія чэмпіёны з Якуціі трэніраваліся тады ў беларускіх трэнераў. У мяне ёсць беларускія сябры, з якімі я служыў у арміі, навучаўся ва ўніверсітэце і працаваў у адной кампаніі. У Якуціі працуе шмат беларускай тэхнікі. Дазвольце перадаць вашым чытачам якуцкі алгыс (пажаданне):

Кэскилгит кэнээтин, ойбонгут уолбатын! (Хай не вычэрпваюцца вашы крыніцы, а будучыня будзе шырокай!)

**Максім Маханькоў**

# Нямецкі зяць рускага князя

Насуперак стэрэатыпам, частка «рускіх» князёў была не супраць саюзу з крыжакамі.

У постсавецкім грамадскім дыскурсе ноўгарадскі князь Аляксандр Неўскі вядомы ў першую чаргу з фільма Эйзенштэйна і сталінскай прапаганды як змагар з заходняй «навалай» — Нямецкім (Тэўтонскім) ордэнам і шведамі. Зазначым, што ў расійскіх медыя мала гавораць пра іншы вектар палітыкі Аляксандра, які трымаўся на падтрымцы мангольскага хана. Паводле адной з версій, менавіта з часоў супрацоўніцтва Неўскага з манголамі пачынаецца традыцыя расійскага дэспатычнага самадзяржаўя. Аднак крыніцы — Пскоўскі і Ноўгарадскі летапіс, нямецкія хронікі — дазваляюць казаць пра існаванне на Русі ў першай палове XIII ст. і «заходняй альтэрнатывы», якая ўвасобілася ў палітыцы пскоўскіх князёў. Яны былі хаўруснікамі рыжскага біскупа Альберта і полацкага князя Уладзіміра і ворагамі Аляксандра Неўскага і яго бацькі, суздальскага князя Яраслава Усеваладавіча.

### Паўстанне супраць князя

Князь Уладзімір Мсціславіч быў сынам ноўгарадскага князя Мсціслава Расціславіча Хбрага. З 1208 года Уладзімір княжыў у Пскове, на чале пскоўскіх і ноўгарадскіх палкоў хадзіў на Літву, якая частымі набегамі непакоіла насельніцтва Полацкай, Пскоўскай і Ноўгарадскай зямлі.

Але на чацвёрты год кіравання адбыўся крызіс улады. У маі 1212 храніст Генрых Латвійскі зазначае, што «рутэны з Пскова паўсталі супраць свайго князя Уладзіміра, які аддаў дачку ў жонкі біскупу рыжскаму, выгналі яго са свайго горада з сям'ёй. Ён пабег да караля Полацка, які прыняў яго неахвотна. Тады ён пайшоў са сваімі мужамі і родам сваім да Рыгі і быў там ветліва прыняты біскупам».

Ускосныя звесткі пра выгнанне ёсць і ў ноўгарадскім летапісе, які пад 1213 паведамляе: «У Пятроўскі пост наехала літва безбожная, Пскоў папаліла; пскавічы ж у той час выгналі князя Уладзіміра». Такія ж сведчанні знаходзім у пскоўскім летапісе, у якім Уладзімір чамусьці названы «літоўскім князем».

Цікава, што ні ноўгарадскі, ні тым больш пскоўскі летапісец не паведамляюць прычыну выгнання князя, якую яны, імаверна, ведалі, аднак распаўядаць не хацелі, сканцэнтраваўшы ўвагу на літоўскім набегу. Працытаваны вышэй тэкст з хронікі Генрыха ўтрымлівае інфармацыю,



Уладзімір Мсціславіч з жонкай Агрыпінай. Выява надмагілля ў Ржэве.

якую сам выгнаны князь мог паведаміць у Рызе. Пераканаўчай падаецца заўвага да гэтага ўрыўка расійскай даследчыцы Веры Матузавай: «Сваяцтва князя не проста з кіраўніком каталіцкай дзяржавы, а з каталіцкім біскупам было асабліва непажаданым для царкоўных уладаў Ноўгарада і Пскова». Цалкам магчыма, што выгнанне Уладзіміра мог арганізаваць пскоўскі праваслаўны епіскап, які меў у горадзе большы ўплыў, чым князь. У Пскове, як і ў Ноўгарадзе, якія былі баярскімі рэспублікамі, непажаданыя князі доўга не заседжваліся.

### Полацкі прыём

Пасля выгнання з Пскова Уладзімір вырашае адправіцца да полацкага князя (таксама Уладзіміра). Чаму ён едзе не да сваякоў у Рыгу, хоць адлегласць да Рыгі і да Полацка прыкладна аднолькавая? Відаць, выгнанец кіраваўся феадальнымі традыцыямі. Паводле ўмоваў «вечнага міру» 1210 паміж рыжскім біскупам Альбертам і полацкім князем Уладзімірам першы абавязваўся збіраць даніну з паганцаў-ліваў для Полацка. Такім чынам, па звычаі таго часу, рыжскі біскуп станавіўся фармальным васалам Полацка. Бо раней лівы (паганцы, насельнікі земляў сучаснай Латвіі) плацілі даніну васалам полацкага князя — князям Кукейноса і Герцыке.

Але ў Полацку пскавічоў прынялі няветла, і князю давялося паехаць у Рыгу. Можна выказваць розныя версіі, чаму полацкі князь так абышоўся з выгнанцам. Магчыма, Уладзімір Полацкі хацеў захаваць добрыя адносіны з Псковам і Ноўгарадам, якія маглі б дапамагчы ў непазбежным канфлікце з немцамі.

### Замужам — не за біскупам

Вядома ж, дачка Уладзіміра пскоўскага была замужам не за рыжскім біскупам Альбертам. Каталіцкім святарам тады, як і сёння, жаніцца было забаронена. Яе мужам быў Тэадорых (Дзітрых) фон Буксгевдэн, брат біскупа Альберта, а фразу Генрыха Латвійскага «аддаў сваю дачку ў жонкі біскупу рыжскаму» варта ўспрымаць апасродкавана. Уладанні Тэадорыха фон Буксгевдэна, а таксама яго родзічаў і васалаў былі на мяжы з Пскоўскай зямлёй і на тэрыторыі біскупства Дэрпта (сёння горад Тарту ў Эстоніі). Тэадорых, яго родзічы і васалы адыграюць важную ролю ў жыцці Яраслава, сына князя Уладзіміра Пскоўскага.

### Бітва на Ліпіцы

У канцы 1220-х Яраслаў Уладзіміравіч пачне барацьбу за бацькоўскую спадчыну — Пскоў, — абапіраючыся на падтрымку ноўгарадскіх і пскоўскіх баяр, незадаволеных кіраваннем суздальскага князя Яраслава Усеваладавіча (бацькі Аляксандра Неўскага).

З суздальскімі князямі ў першым дзесяцігоддзі XIII ст. змагаліся ноўгарадскі князь Мсціслаў Удатны і пскоўскі Уладзімір. Іх барацьба завяршылася ў 1216 перамогай у бітве на рацэ Ліпіца.

Імкненне суздальскіх князёў здабыць першынство на ўсёй Русі нельга разглядаць як звычайную дынастычную барацьбу. Уладзіміра-Суздальская Русь мела асобную традыцыю кіравання: нездарма некаторыя з суздальскіх князёў называлі сябе «царамі», а пазней многія з іх атрымлівалі велікакняжацкі стол непасрэдна з рук мангольскага хана. Барацьба суздальскіх князёў са сваімі канкурэнтамі, іх арыентацыя на татараў, насуперак заходняй «альтэрнатыве», якую выбіралі для сябе князі Галіцка-Валынскай Русі, часткова Пскоў, Ноўгарад і Полацк, мела вырашальнае значэнне для далейшага гістарычнага развіцця народаў-спадчыннікаў Русі, этнагенез якіх адбудзецца ў межах Вялікіх Княстваў Літоўскага і Маскоўскага.

### Яраслаў, выкуплены немцамі

Калі чытаеш летапісы, складваецца ўражанне, што Яраслаў змагаўся не столькі за пскоўскі стол, колькі супраць прыхільнікаў суздальскіх князёў, якія кіравалі Ноўгарадам і былі кроўнымі ворагамі яго бацькі. Пскоўскія баяры былі зацікаўленыя ў поўнай незалежнасці ад Ноўгарада. Каб дасягнуць гэтай мэты, Яраслаў Уладзіміравіч вырашыў абаперціся на падтрымку сваіх нямецкіх родзічаў у Лівоніі і прысягнуў біскупу Дэрпта.

Пад 1233 годам Ноўгарадскі летапіс паведамляе: «Выгналі з Ізборска Барысаву чадзь з князем Яраславам Уладзіміравічам і з немцамі. Пскавічы ж, абклаўшы Ізборск, схапілі князя і немца Данілу забілі, а іншыя ўцяклі. І аддалі (палонных) вялікаму князю Яраславу, а той, закаваўшы, адправіў іх у Пераяслаўль». Пад «Барысавай чаддзю» трэба разумець прыхільнікаў баярына Барыса Негацэвіча, якія падтрымлівалі Яраслава Уладзіміравіча і былі працаўнікамі арыентацыі Ноўгарада і Пскова на суздальскіх князёў. Важную дапамогу Яраславу аказвалі немцы, пад якімі трэба разумець васалаў біскупа Дэрпта. Напэўна, забіты немец Даніла быў адным з людзей Тэадорыха, швагра Яраслава Уладзіміравіча. Ва ўсякім выпадку першы блін для Яраслава выйшаў «комам», і пскавічы выдалі яго ноўгарадскаму князю Яраславу Усеваладавічу, які адаслаў яго ў Пераяслаўль, надалей ад сферы яго інтарэсаў. Такім чынам суздальцы збіраліся палітычна «пахаваць» прэтэндэнта на пскоўскі стол.

Аднак пад 1235 г. ноўгарадскі летапісец зазначае, што нямецкія родзічы выкупілі Яраслава Уладзіміравіча, вярнуўшы яго такім чынам у «вялікую палітыку».

Наступны ўспамін пра яго звязаны з паходам пад горад Ізборск і Пскоў у 1240. Знамянальна, што паход адбыўся якраз пасля вядомай бітвы Аляксандра Неўскага са шведамі на Няве. У паходзе ўдзельнічалі васалы Тэадорыха. На гэты раз паход быў удалы, і Пскоў немцы захапілі. Цікавым, аднак, падаецца той факт, што князь Яраслаў не застаўся ў горадзе, які некалі належаў яго бацьку. У Пскове застаўся нямецкі гарнізон на чале з баярынам Цвярдзілам Іванавічам.

### Сямейная драма

Адмова князя сесці на пскоўскім стале, за які ён так доўга змагаўся, магла быць звязаная з абставінамі, якія ўзгадваюцца ў сувязі з цудам у манастыры Св. Іаана ў Пскове, у 1243: «Таго ж месяца... ад іконы святога Спаса над грабом княгіні Яраслава Уладзіміравіча, якую забіў яе пасынак у Мядзвежай галаве, ішло міра ад іконы...».

Мы не ведаем дакладна пра абставіны гібелі згаданай тут жонкі Яраслава Уладзіміравіча. Ноўгарадскія летапісы не падаюць імя княгіні — яно з'яўляецца толькі ў пазнейшых крыніцах, перадусім у «Жыціі» святой княгіні Еўпраксіі. Нібыта менавіта яна, дачка князя з полацкага роду, была першай жонкай Яраслава Уладзіміравіча. Але пасля, калі Яраслаў сышоў у Лівонію, развялася з ім. А ён ажаніўся з немкай. І ў Адэнпэ, дзе адбылася трагедыя, Еўпраксія прыехала на перамовы аб пасагу. І там была забітая. Аднак часта «жыціі» складаліся паводле пэўнага канону, на хроніку падзей і гістарычную праўду ў іх мала зважалі. Больш лагічнай мне падаецца іншая версія.

З летапіснай узгадкі вынікае, што ў Яраслава была першая жонка, імаверна, немка з Лівоніі. Другая жонка, забітая ў «Мядзвежай галаве» (інакш — Адэнпэ, ці Ацепя, горад у сучаснай Эстоніі), хутчэй за ўсё, была рускай і насіла ў сабе патэнцыйнага спадчынніка пскоўскага стала — нездарма яна была пахавана ў манастыры Св. Іаана, у якім звычайна хавалі прадстаўніц пскоўскіх баярскіх радоў. Напэўна, сын ад першага шлюбу і забіў цяжарную мачаху бацькі, каб забяспечыць сабе спадчыннае права, якое магло быць аспрэчана пскоўскімі баярамі і духавенствам. Вядома ж, пскавічы і іх «старэйшыя браты» з Ноўгарада не хацелі бачыць на пскоўскім стале лівонскага княжыча. Пэўна, ён мог атрымліваць «інструкцыі» ад магутных родзічаў — рыжскага арцыбіскупа і яго сваякоў-Буксгевдэнаў. Апошнія не раз спрабавалі сілай пасадзіць у Пскове і Ізборску «свайго» князя.

Цалкам магчыма, што асабістая трагедыя — гібель жонкі ад рук сына — і паўплывала на рашэнне князя Яраслава адмовіцца ад Пскова і спыніць актыўную палітычную дзейнасць. Ва ўсякім разе, Ноўгарадскі летапіс больш нічога не гаворыць пра паходы князя супраць адзінаверцаў.

### Страчаныя перспектывы

Сваяцтва і супрацоўніцтва адной з дынастычных галін рускіх князёў Рурыкавічаў з прадстаўнікамі каталіцкіх палітычных утварэнняў у XIII ст. само па сабе можа лічыцца вартым увагі гістарычным кейсам. Гісторыі Русі таго часу стэрэатыпна ўспрымаецца як няспынная барацьба з манголамі, нямецкай і шведскай «навалай», літоўскімі «феадаламі». Між іншым, крыніцы падаюць нам выпадкі, якія не ўпісваюцца ў традыцыйны трэнд «антызаходняй» арыентацыі Русі, якая ўвасобілася ў князю Аляксандру Неўскім і яго нашчадках, будучых вялікіх князях маскоўскіх. Пскоўскія князі — Уладзімір і яго сын Яраслаў — выбралі хаўрус з каталіцкімі палітычнымі коламі, былі ўключаныя ў феадальныя адносіны сюзерэнітэту-васалітэту па еўрапейскім прыкладзе. Развіццё традыцыі гэтых дынастычных адносін, магчыма, спынілася з-за асабістай драмы Яраслава Уладзіміравіча.

З таго часу князі Пскова і Ноўгарада, якіх запрашала туды мясцовае баярства, не завязвалі цесных адносінаў з Нямецкім ордэнам і Рыгай. Тым не менш спадкаемцам Рурыкавічаў і іх галіны — полацкім Рагвалодавічам — прыйшлося так ці інакш сутыкнуцца з выбарам палітычнай арыентацыі. Як вынік, полацкія, віцебскія, кіеўскія і галіцка-валынскія князі з часам падпалі пад уладу літоўскіх князёў, якія даказалі сваю перавагу над Ордэнам мечаносцаў, ушчэнт разбіўшы нямецкае войска ў бітве пад Шаўлямі (1236). Пазней у арбіце літоўскага ўплыву будуць знаходзіцца Цвярское і Смаленскае княствы.

На нашу думку, менавіта вузкая палітычная эліта, прадстаўленая часткай князёў Рурыкавічаў у XIII—XV ст., шмат у чым перадвызначыла пазнейшую геапалітычную арыентацыю народаў Усходняй Еўропы — беларусаў, рускіх і ўкраінцаў. Гэты артыкул — згадка пра адзін з неапраўдана забытых эпізодаў таго выбару, які адбываўся ў складаным кантэксце палітычных інтрыг і асабістых трагедый.

**Піліп Падбярозкін**



**Піліп Падбярозкін**

нар. у 1991 у Мінску. Выпускнік гістфака БДУ. Стажыраваўся ў Лейпцыгскім універсітэце. Займаецца кантактамі германцаў і ўсходніх славянаў у познім Сярэднявеччы (XIV—XVI ст).

# Невядомы Янка Брыль

## Чаму ён дзякаваў Богу, што яго злавілі, чаму хацеў судзіць Набокава і як выбіў сабе вока

4 жніўня споўнілася сто гадоў ад нараджэння народнага пісьменніка Янкі Брыля. Гісторык і сябар Брыля Анатоль Сідарэвіч прыгадвае некаторыя эпізоды з жыцця пісьменніка. Пра тое, што прынёс на першае спатканне будучай жонцы Ніне Міхайлаўне, як падсмейваўся з Максіма Танка, якія меў звычкі і што лічыў галоўным у людзях.

Быў 1963 год. Я тады жыў у Тамашоўцы Берасцейскага раёна, куды прыехалі тры пісьменнікі: Сяргей Грахоўскі, Павел Кавалёў і Аляксей Пысін. Самы цесны кантакт у мяне завязаўся з Сяргеем Іванавічам, — распавядае Анатоль Сідарэвіч. — У тым жа годзе дзесьці ў апошніх нумарах часопіса «Полымя» друкавалі раман Брыля «Птушкі і гнёзды». Перад гэтым яго праанансавалі, сам Янка Брыль чытаў фрагменты на беларускім радыё, і яны мяне зацікавілі. Таму раман я прачытаў і выказаў Сяргею Іванавічу Грахоўскаму сваю думку пра яго. А Сяргей Іванавіч напісаў мне ліст, дзе гаварылася, што будзе лепш, калі я ўсё гэта напішу самому Янку Брылю. І даў мне яго адрас. Я напісаў, і з таго часу ў нас з Іванам Антонавічам завязаўся завочны кантакт. Ужо ў лістападзе 1964 года мы пазнаёміліся асабіста. Тут, у Мінску, на вуліцы Карла Маркса, 36, дзе жылі Брылі.

Памятаю, як я, 16-гадовы пацан, іду ў кампаніі з двума Іванамі. Ды якімі! Іванам Антонавічам Брылём, старэйшым за мяне на 31 год, і Іванам Аляксеевічам Скрыганам, старэйшым аж на 42 гады. І аднаго, і другога я любіў як аўтараў. І вось пачынаецца асабістае знаёмства. Мы з вуліцы Карла Маркса крочым уніз, да парку Горкага, робім кола... Дарэчы, у Брыля, як у чалавека разумовай працы, шпацыр быў абавязковы.

Адразу пасля асабістага знаёмства я адзначыў дзве рэчы. Папершае, голас на радыё і голас у жыцці ў Янкі Брыля амаль такі самы. А па-другое, не мог не ўразіць яго грэнадзёрскі рост.


Янка Брыль. Класічнае фота Анатоля Клешчука.


Масей Сяднёў і Янка Брыль (справа). Фота АК.

### Што найперш цікавіла ў людзях

Для Брыля было важным, наколькі чалавек надзейны. У Савецкім Саюзе ў 30-х гадах і па вайне стаяла пытанне выжывання. Што і каму можна сказаць? Што нельга? Грамадства ж было стукацкае.


Гісторык культуры Анатоль Сідарэвіч усё жыццё сябраваў з Брылём.

### Не прымаў савецкую сістэму, але званне «Народны пісьменнік» усё адно надалі

Наталля Пятроўна Машэрава, дачка Пятра Машэрава, аднойчы згадала, што калісьці яе бацька дома ў размове сказаў пра Брыля: «Я ведаю, што ён не прымае нашу сістэму». І, ведаючы гэта, Пятро Міронавіч, як першы сакратар Цэнтральнага камітэта камуністычнай партыі, усё адно даў згоду на наданне Брылю звання народнага пісьменніка. Машэраў цаніў талент Брыля. І эстэтычныя меркаванні сталі ў яго вышэй за палітычныя.

Праўда, атрымаў званне Брыль у 1981-м, ужо пасля смерці Машэрава. Апошнім сярод пісьменнікаў сваёй творчай вагі. Нават Быкаў, якога савецкая ўлада таксама недалюблівала, меў званне народнага з 1980-га.

### Заставаўся беспартыйным

За кнігу, выдадзеную ў Лондане, Алега Бембеля выключылі з камуністычнай партыі і выкінулі з работы. Ён прыйшоў да Брыля і папрасіў падпісаць хадайніцтва перад ЦК КПБ аб аднаўленні яго ў камуністычнай партыі. Якое ж было здзіўленне Алега Бембеля, калі ён даведаўся, што народны пісьменнік Беларусі — беспартыйны.

А адзін народны мастак у свой час напісаў на Брыля данос у ЦК за тое, што ў цэлым двухтомніку ніводнага разу не згадвалася камуністычная партыя.

Дарэчы, не былі ў КПСС і два іншыя вялікія беларускія пісьменнікі — Васіль Быкаў і Рыгор Барадулін.

### Служыў у спецназе

Яшчэ адна прычына падазрэнняў з боку ідэолагаў — біяграфія Брыля: заходнік, быў у нямецкім палоне, працаваў у акупаваным Мінску...

Пасля прызыву ў польскае войска, расказваў Янка Брыль, ён служыў простым жаўнерам у Халме на Валыні. Але ў 1939-м Польшча пачала ствараць новы род войскаў — марскую пяхоту. У яе адбіралі фактурных і адукаваных хлопцаў (каб за плячыма была як мінімум «школа повшэхна»). Брыль па ўсіх катэгорыях падышоў.

Яго перавялі служыць на балтыйскае ўзбярэжжа, у раён Гдыні. Ён успамінаў, што марскія пехацінцы жылі не ў казармах, а ў летніх катэджах багатых палякаў. Адчуваючы блізкую вайну, яны летам 1939-га не прыехалі адпачываць, і на іх дачах расквартаравалі войска.

Брыль успамінаў, як 1 верасня 1939 года яны дзівіліся, пабачыўшы ў біноклі Гданьск у чырвоных сцягах. Яны і не ведалі, што ў нацыстаў, якія рушылі ў наступ, таксама быў чырвоны сцяг, толькі са свастыкай.

Пасля некалькіх дзён баёў Брыль трапіў у нямецкі палон, з якога ўцякаў двойчы. Першы раз, у 1940-м, яго злавілі і вярнулі. Ён пасля дзякаваў лёсу за гэта: Барыс Рагуля, які шчасліва дабраўся да родных мясцінаў, трапіў з польскага палону ў савецкую турму.

Другі раз, у 1941-м, Брыль дабраўся дадому і ўжо ў хуткім часе знайшоў сабе працу ў Мінску, у Гістарычным музеі, дырэктарам якога быў Антон Шукелойць. У часе мінскага побыту Брыль кантактаваў з Антонам Адамовічам, Натальляй Арсенневай.

Але пасля Курскай дугі і Сталінграда Брыль, як і большасць беларусаў, зразумеў, што Германія будзе перамажаная. Ён уцёк з Мінска дахаты і пайшоў у партызаны. Хадзіў у разведку, рабіў партызанскую газету, меў добрыя характарыстыкі партызанскіх камандзіраў, але пасля вайны, аж да 1952-га, да атрымання Сталінскай прэміі, чакаў арышту.

### У канцы жыцця выбіў сабе вока

Гэта адбылося ўжо ў XXI стагоддзі, у апошнія гады жыцця Брыля. 80-гадовы пісьменнік сек абрэзаныя ў садзе галінкі, сук адскочыў і трапіў у вока.

Апошнія гады жыцця Брыля, які памёр у 2006-м, перажыўшы жонку на тры гады, былі досыць самотныя. «Стаіць побач тэлефон — хоць бы адзін сабака пазваніў», — гэта яго словы. Дзеці не маглі наведваць штодня. Медыкі забаранілі пісьменніку глядзець тэлевізар, хадзіў ён з кійком, што таксама ўскладняла яго кантакты са светам.

### Яго некралог не падпісала кіраўніцтва краіны

Брыль адмоўна ставіўся да аўтарытарнай улады і стаўлення гэтага не хаваў.

«Брыль быў настаўнікам для нас, маладых: вучыў не хістацца на палітычных вятрах», — згадваў Рыгор Барадулін.

### Падсмейваўся з Максіма Танка

Беспартыйны, ён падсмейваўся з Максіма Танка, чалавека, які прайшоў партыйную муштроўку ў юнацтве. Казаў: «Для Максіма і прыбіральшчыца ў ЦК — вялікі аўтарытэт».

### Лаяў Стральцова

З Міхасём Стральцовым у яго былі вельмі цікавыя адносіны. Ён любіў яго настолькі, наколькі і не выносіў. Калі бачыў Стральцова ў хвіліну яго слабасці, Брыля гэта выводзіла з сябе: «Уяві сабе: ідзе з сеткаю, а ў ёй пляшка. Ты толькі ўяві: гэта ідзе Стральцоў!» Не мог ён з гэтым змірыцца. Але Міхась Лявонавіч ведаў, што Брыль яго любіць. І калі лаецца, то гэта так, як бацька на сына: любячы.

### Упэўніў Броўку памяняць тон

У літаратуру прыйшло новае пакаленне, гэтак званае «філалагічнае», і стала «ў рожкі» са старэйшымі



Магіла Брылёў на могілках у Калодзішчах.

пісьменнікамі. Пятрусь Броўка рыхтуе даклад і, карыстаючыся высокім становішчам, мае намер размазаць па сцэнцы некаторых франдзёраў. Брыль падыходзіць да Броўкі і, каб ніхто не чуў, кажа: «Пятро Усцінавіч, гэта нашы дзеці. Разумны бацька дзяцей па галаве не б'е». У выніку Броўка мусіў памяняць тон і выступіў памяркоўна.

### Быў паклоннікам Талстога

Ён чытаў усё ці амаль усё, што публікавалася пра Льва Талстога. Неяк пажаліўся, што не чытаў ці то кнігу «Дачка», ці то кнігу «Бацька» Аляксандры Львоўны Талстой, і сказаў мне пра гэта. Я звярнуўся ў Нацыянальную бібліятэку да загадчыцы аддзела беларускай літаратуры Людмілы Мікалаеўны Рабок. Сказаў, што яе сябар, Янка Брыль, хоча пачытаць такую кнігу. І Людміла Мікалаеўна выпісала яе на сваё імя. Я аднёс кнігу Брылю і сказаў, што Людміла Мікалаеўна папрасіла вярнуць ці то праз 10 дзён, ці то праз 14. Ён кнігу прачытаў за лічаныя дні і патэлефанаваў: «Прыйдзі забяры». Я тады сказаў яму: «Вы сябе не шкадуеце. Куды вы спяшаліся?» Яму ж тады было ўжо каля 80 гадоў, а ён кнігу літаральна праглынуў. Пэўна, таму, што пра Талстога, і таму, што таленавіта напісаная.

### Не цярпеў «заумь»

Калі выйшла кніга пра Максіміліяна Валошына, ён папрасіў мяне прынесці яе. Кнігу я прынёс. Брыль яе прачытаў і кажа: «І была б добрая кніга, калі б не гэтая «заумь». А там былі цэлыя літаратуразнаўчыя раздзелы, напісаныя адпаведным слэнгам. Вось гэтага Іван Антонавіч не любіў.

У яго была нават парачка моцных выразаў пра гэта, але іх пры даме паўтараць не буду. Калі ў нас пачыналіся такія размовы, ён казаў: «Зачыні дзверы». І Наталля Іванаўна, яго дачка, казала: «Ну што, ужо маты пачынаюцца?»

Казаў мне: «Паглядзі, якая класічная яснасць у Карскага, «заумі» гэтай няма». Класічную яснасць ён любіў. Калі прыгажосць стылю не на шкоду навуковасці, а навуковасць не адмаўляе добрага стылю. Гэта ён шанаваў у працах вучоных.

### Лічыў, што Набокава трэба судзіць

Брыль казаў, што пісьменніка Уладзіміра Набокава за «Лаліту» трэба судзіць па артыкуле аб згвалтаванні непаўналетніх.

### Што чытаў

Не любіў фантастыкі. Якое ж было маё здзіўленне, калі я дазнаўся, што ён чытаў Рэя Брэдберы. Пэўна, таму, што ў Брэдберы (прынамсі ў перакладах) добры стыль. І Брыль пачаў чытаць фантастыку Рэя Брэдберы.

Шмат чытаў мемуарыстыкі і дакументалістыкі.

Сярод яго любімых пісьменнікаў быў Рамэн Ралан з яго творам «Кала Бруньён» і Шолам-Алейхем. Аўтар «Ніжніх Байдуноў» любіў творы «калабруньёнаўскага» кшталту.

### Што прынёс на першае спатканне з будучай жонкай

Ніна Міхайлаўна аднаго разу мяне вельмі рассмяшыла: «Ведаеце, што ён прынёс мне на спатканне?» І, не чакаючы, што скажу я, сама адказала на пытанне: «Крытыку чыстага розуму» Імануіла Канта». Смеючыся, Іван Антонавіч пракаментаваў: «Ты ж была гімназістка, дзяўчына граматная».

З Нінай Міхайлаўнай дружба доўжылася недзе 66 год. Такая працяглая — да самай смерці жонкі — была дружба са сваёю Любоўю Андрэеўнай і ў Максіма Танка.

### Сямейны рытуал

Калі застаўся ўдаўцом, Наталля, малодшая дачка, тады працавала ў выдавецтве «Мастацкая літаратура», што месціцца на праспекце Пераможцаў. А бацька яе жыў на цяперашнім праспекце Машэрава. Дык вось, у аўторак, у абедзенны перапынак, Наталля Іванаўна прыязджала да бацькі і прывозіла яму згатаванае на аўторак і сераду, у чацвер — згатаванае на чацвер і пятніцу. У суботу прыязджалі Наталля Іванаўна, старэйшая дачка Галіна Іванаўна і Андрэй Іванавіч з нявесткаю Нінай Піліпаўнай. Дзяўчаты, як называў іх Іван Антонавіч, прыбіраліся, гатавалі, а потым усе разам сядалі за стол абедаць. Гэта быў такі добры сямейны рытуал.

### Што было галоўным у жыцці

Галоўным было не здзейсніць якога-небудзь нізкага ўчынку, быць прыстойным чалавекам. Не здрадзіць. Вельмі не любіў плеткароў.

### За што балела сэрца

Сэрца балела за Беларусь. За будучыню Беларусі, а гэта значыць, і за будучыню дзяцей, унукаў, праўнукаў. Ці застанецца Беларусь? Што гэта будзе за Беларусь? Зноў Паўночна-Заходні край ці ўсё ж такі нешта іншае?

Прыгадваецца сказ з запісаў Брыля, які чытаецца як вершаднарадковік: «У сцягах нашых многа святла». Ён вельмі хацеў, каб над нашай краінай луналі нашыя сцягі.

**Запісала Настасся Роўда, СМ**

# «Жана мая смачна ела-піла, уборы мяняла, з усімі жыла, а я рабіў, як халоп!»

Сямейная трагедыя Багдана і Аўдоцці — гродзенскіх гараджанаў XVI стагоддзя.

Фантастычная па эмацыйнасці карціна беларускага разводу XVI стагоддзя знайшлася ў «Актах віленскай археаграфічнай камісіі», якія ёсць у вольным доступе ў інтэрнэце.

1540 год. Гарадзенец Багдан Хвядкевіч пражыў з жонкай Аўдоццяй 22 гады. Пачуцці згаслі, узаемная стома назбіралася — дайшло да разводу. Матэрыялы справы захаваліся ў судовых паперах.

Па сённяшніх мерках Багдана і Аўдоццю можна было б назваць прадпрымальнікамі ці фермерамі (хоць цяжка сабе ўявіць сёння фермера-гараджаніна). Яны жылі з таго, што бралі ў арэнду зямлю, расцілі на ёй ураджай і скаціну, пасля прадавалі.

Уражвае, з якой падрабязнасцю мужчына памятае, калі, колькі і чаго вытраціў на былую жонку. «Спачатку, калі яе заручаў, тады на заручынах даў бочку мёду кіслага, таго ж часу скроіў ёй сукню сукна лёткага. А калі вяселле было, тады даў бочку мёду прэснага, два вепрукі кормныя і два вары піва, гусей 20, курэй 60, вала кормнага, бочка пшаніцы, тры бочкі мукі сітнай».

Не забыўся ён згадаць і падарункі жончыным сваякам: «Цесцю даў залаты чарлёны, а цешчы другі залаты, шваграм чатыром па 12 грошай, сваяку Івашку бочку гароху».

Каштоўныя рэчы наваспечаны зяць не толькі дарыў, але і прадаваў: «Цесцю свайму прадаў шубу лісіную». Атрыманыя ж грошы аддаў жонцы — «схаваць». Увогуле, за сямейны бюджэт адказвала жонка: «Другі раз даў ёй схаваць 70 грошай, а трэцім разам даў 1,5 капы, а чацвёртым разам капу». Капа — гэта шэсцьдзясят грошай, дарэчы.



Гравюра Альбрэхта Дзюрэра.

### «І тыя ўсе грошы яна ў сябе трымае!»

Як сведчаць судовыя дакументы, з часам Багдан горка пашкадаваў пра тое, што даверыў фінансы жонцы.

Багдан часта не бываў дома: то працаваў у пана Касцюшкі, то ў Вільню ездзіў па працы, то ў Кракаў, то на азёры. У лепшыя часы прывозіў жонцы гасцінчыкі: зялёную сукню і «шубку кролікавую» выбраў у Вільні, «каўнер пярловы» (каўнерык, упрыгожаны перлінамі) купіў на «залежы» ў нейкага масквіціна.

Але няўдзячная Аўдоцця, сцвярджаў муж, карысталася ягонай адсутнасцю дзеля асабістага ўзбагачэння. То пару валоў прадасць, то карову-«ялавіцу». Прападалі з хлявоў казлы, бараны, вепрукі кормныя... Таксама жанчына малаціла і прадавала жыта, бочкамі збывала авёс, гарох, грэчку. «І тыя ўсе грошы яна ў сябе трымае!» — абураецца муж. Ён мае (і дае суду!) дакладныя падлікі, якія цэны былі ў кожны год на жыта, гарох і іншыя сельгаскультуры. Называе, колькі бочак чаго Аўдоцця за гэты час прадала і, адпаведна, колькі грошай мелася назапасіць.

Да чаго Багдан вёў? Ён хацеў не толькі выгаварыцца, але і вярнуць свае рэчы, якія засталіся ў жонкі пасля разводу («з тых часоў, як мяне з ёю мітрапаліт распусціў»).

Сярод тых рэчаў — міскі, патэльні, катлы, ліхтары медныя са свечкамі... Цікава, што ў самым пачатку спісу цэлая праваслаўная бібліятэка — шэсць духоўных кніг. У паездках (ці паміж імі?) Багдан паспяваў чытаць. Далей у пераліку ідуць рэліквіі — кавалачкі святых мошчаў; зброя, худоба, «сарочак 4, што ў Вільні купіў», каптан, пчолы і вуллі, рабочы інвентар.

### Вырак

Суд загадаў жонцы вярнуць усё — прычым не толькі інвентар, але нават і ўраджай, які яна гэтымі сярпамі ды косамі сабрала; не толькі ўсю скаціну, у тым ліку сем свіней, але «і маладых парасят усіх».

Аўдоцця пагадзілася, праўда, казала, што не ўсё з пералічанага знайшлося дома. Страчанае ацанілі і прысудзілі вярнуць у грашовым эквіваленце. Жонка гатова была прысягнуць, што сапраўды згубіла рэчы, а не распрадала па-ціхаму. І «Багдан, будучы справядлівы і міласэрны, да прысягі Аўдоццю не вёў» і ад кампенсацыі адмовіўся. Аднак заўважый: калі раптам пабачыць у Аўдоцці ці ў каго іншага свае рэчы — адразу забярэ без лішніх словаў.

Багдан падрабязна гаворыць пра іх сямейныя парадкі. Як многа ён працаваў: адну «пашаньку» аддасць у заклад, з другой збярэ ўраджай, прадасць яго і выкупіць першы кавалак зямлі. «А яна каля пашні ўсё лета не бывала!» — скардзіцца на жонку.

«Жана мая смачна ела і піла, і ў красне хадзіла, і са ўсімі ўжывала, з кім хацела, а я каля пашні надзаваў [працаваў] і рабіў, яка бы халоп!» «Адну скіцеру [сала] мне да пашні дасць, і я тым кармлюся пяць тыдняў, а яна на кожны дзень па пяці або па дзесяці грошай марнавала, і тым пашню маю і дом, і самога мяне згубіла і ў моцны вялікі ўпад правявала!»

> **«Адну скіцеру мне да пашні дасць, і я тым кармлюся пяць тыдняў»**

Надрыўны голас далятае да нас праз вякі. Голас пакрыўджанага мужчыны. Цяжка застацца ўбаку, але паспрабуем — бо ўсё ж не пачулі другі бок спрэчкі — у зялёнай сукенцы і лісіным футры з перлавым каўнерыкам. А ёй напэўна было што адказаць.

Яны жылі разам ажно 22 гады. І што, за ўвесь гэты час — чатыры падарункі з улікам вяселльнага?! Багдан вінаваціць жонку, што не выходзіла ў поле. Але хто збіраўмалаціў-прадаваў усе гэтыя 22 гады? Хто вадзіў жывёлу на рынак прадаваць? Ёсць пытанні...

Выснова можа быць хіба такая: дарыце больш падарункаў і кідайце адзінокія падарожжы, раз ужо ажаніліся. Сямейная навука ад беларусаў XVI стагоддзя.

**Паўліна Купрысь**

Аляксандр Апон. П'еса.

# Помнікі

**Асобы:**
Сцяпан
Ліля
Уладзік — іх сын-школьнік
Зойка — яго сяброўка
Бабуля
Рыгор — іх сусед
Інспектар Жылінскі
Поп
Манашка
Ісус Хрыстос
Сталін
Гітлер
Помнікі

*Беларуская кватэра ў беларускім доме.*

*Злева кухня, праз дзвярную пройму бачная газавая пліта і мыйка.*

*Тамсама, толькі бліжэй да авансцэны, на табурэтках труна без вечка, у якой, склаўшы «панябожчыцку» рукі, ляжыць бабуля.*

*Пасярэдзіне сцэны круглы стол, накрыты абрусам, які спадае да падлогі, і крэслы. За ім у глыбіні канапа і тэлевізар.*

*Справа ўваходныя дзверы з электрычным званком.*

*Уваходзіць Ліля з вялікай гаспадарчай сумкай.*

**Ліля:** А вось і я! Мама, чуеш? *(Падыходзіць да стала, ставіць сумку на крэсла.)* Ну як ты тут? Зачакалася, напэўна. І галодная нябось. Але нічога, зараз я цябе пакармлю *(выкладвае з сумкі на стол талеркі з закускамі, загорнутыя ў цэлафан, пакункі, рондлік, слоікі, затым, скінуўшы сумку на падлогу, сядае на крэсла)*. Вось толькі пасяджу крышку, хвілінку, мама, не болей. Прыстала нешта сёння, як ніколі. Але што ты хочаш — цалюткі дзень на нагах. Затое ото ўжо былі памінкі дык памінкі! Ого, мама, ажно двесце чалавек гасцей. Сталы проста ламаліся. Адных мясных страваў пяць *(думае)*... не, шэсць падавалі: і катлеты, і адбіўныя, і мяса па-французску, і галубцы, і... А я табе ведаеш што прынесла? Не? А ты здагадайся. Ну, ну? Так, твае любімыя кілбаскі з часнаком і кменам. Я ж іх сама круціла і, мама, клянуся, ні часнаку, ні кмену не шкадавала. Зараз пасмакуеш. Дзе яны? *(Шнырыць вачыма па стале, пасля зрывае з адной талеркі цэлафан.)* Ага, тута ! О-о, як сабе хочаш, але пальчыкі абліжаш. Бо і бульбяное пюрэ, вядома, не забылася. А як жа. Вось, дарэчы, і яно *(зняўшы вечка рондліка, накладвае на талерку пюрэ)*. Табе, мама, разагрэць ці халодным з'ясі? Га? Халодным, кажаш? Добра, як хочаш. *(Падышоўшы да труны, бярэ з ног падушку, якую, пасадзіўшы маці, падкладвае той пад спіну, затым варочаецца да стала па крэсла, якое ставіць пры труне, а другі раз па талерку і, нарэшце, сеўшы на крэсла, корміць бабулю з лыжкі.)* Ну, лыжачку за мяне. А цяпер за Сцяпана. Ён жа так стараецца, цягне, гаротнік, лямку з усіх сілаў... Ага, маладзец. Не, не ён маладзец, а ты, мама. Ну і за сыночка нашага, твайго ўнучка, каб усяго яму ўсягенькага, каб рос вялікім-прывялікім, быў паслухмяным і не выракаўся бацькоў. Эх, яшчэ трошкі засталося. Не выкідаць жа ежу. Гэта, да ўсяго, вялікі грэх. А давай, мама, лыжачку за прэзідэнта. *(Маці адмоўна круціць галавой.)* Не, мама, за прэзідэнта круці не круці, а мусіш, гэта святое. Каб даў бог яму здароўечка і... і шмат-шмат розуму. Праўда, розуму ў яго і так багата, дык здароўечка і... і шчасця ў асабістым жыцці.

Ну і апошнюю лыжачку за нашага дарагога нябожчыка, які даў нам сённяшні хлеб у выглядзе пюрэ з кілбаскамі з часнаком і кменам. Хай зямля яму будзе пухам і ўсё астатняе. Ну што, пад'ела? Цяпер адпачывай сабе *(выцягнуўшы падушку з-за спіны, укладвае бабулю па-ранейшаму)*.

*Званок звоніць тры разы.*

**Ліля:** Гэта Сцяпан. *(Ідзе адчыняць. Уваходзіць Сцяпан.)*
**Сцяпан:** Даўно прыйшла?
**Ліля:** Толькі што.
**Сцяпан:** Але ж мацяру дагледзела.
**Ліля:** Ага, пакарміла.
**Сцяпан:** Бачна, уся ў пюрэ.
**Ліля:** Нічога, не шлюб браць.
**Сцяпан:** І то праўда *(сядае да стала)*.
**Ліля:** Стаміўся?
**Сцяпан:** А ты думала.
**Ліля:** Галодны?
**Сцяпан:** Як сабака.
**Ліля:** Пюрэ з кілбаскамі ёсць.
**Сцяпан:** З памінак?
**Ліля:** Адкуль жа яшчэ.
**Сцяпан:** Давай.
**Ліля** *(наклаўшы пюрэ і кілбасак на талерку)*: Разагрэць?
**Сцяпан:** Яшчэ чаго! *(Есць.)* Ты кілбаскі круціла?
**Ліля:** Я.
**Сцяпан:** Відаць, часнаку і кмену не шкадавала.
**Ліля:** Анягож, я ж яго не купляла.
**Сцяпан:** Дарэчы, я таксама ворон не лавіў, дванаццаць шэсць помнікаў заліў.
**Ліля:** Ого.
**Сцяпан:** Дырэктар таксама пахваліў, ганаровую гарамату, паміж іншым, абяцаў.
**Ліля:** А ты?
**Сцяпан:** А што я — рады, вядома. Заўтра таксама трэба будзе папрацаваць не меней заліць, хаця наўрад ці адужаю.
**Ліля:** А ў нас зноў памінкі.
**Сцяпан:** Па кім?
**Ліля:** Па Дзятліку.
**Сцяпан:** А ён што — памёр?
**Ліля:** Няўжо ж па жывым.
**Сцяпан:** Ну, мала што.
**Ліля:** Не, аддаў, небарака, Богу душу.
**Сцяпан:** Але калі паспеў?
**Ліля:** Учора.
**Сцяпан:** Гм. Учора я з ім пад вечар бачыўся, здароўкаўся нават.
**Ліля:** Ну вось пасля гэтага, Дзятліха расказвала, прыйшоў , прысеў, вочы заплюшчыў і больш ужо не расплюшчыў.
**Сцяпан:** Дык, значыцца, седзячы сканаў.
**Ліля:** Не ведаю, але так ці інакш — адбыў сваё.

*Званок звоніць пяць разоў.*

**Ліля:** Хто гэта?
**Сцяпан:** Ліха яго ведае. *(Устае.)*
**Ліля:** Чакай. *(Прыбірае ўсё са стала ў сумку і хавае яе пад стол.)*

*Сцяпан тым часам ідзе адчыняць. Уваходзіць Інспектар.*

**Інспектар** *(называецца)*: Інспектар Жылінскі.
**Сцяпан:** Праходзьце.
**Ліля:** Вельмі радыя. Сядайце.
**Інспектар:** Не, дзякую, часу ні каліва. *(Дастае з кішэні нататнік з алоўкам.)* Яшчэ дзевяноста дзве кватэры абысці.
**Ліля:** Дзевяноста дзве?
**Інспектар:** Менавіта.
**Ліля:** А-я-яй.
**Інспектар:** Нічога не зробіш, такая праца.
**Сцяпан:** Так, так, у кожнага сваё рамяство.
**Інспектар:** Ног, лічыце, не маю — не ступы, а адзін суцэльны мазоль *(сядае на крэсла і, сцягнуўшы з нагі чаравік і шкарпэтку, паказвае скалечаную нагу)*. Во.
**Ліля** *(пляснуўшы рукамі)*: Божа!
**Інспектар:** А вы кажаце! *(Нацягвае шкарпэтку, абувае чаравік.)* Ну, паказвайце лічыльнікі.
**Ліля:** Прашу на кухню. *(Выходзіць з інспектарам на кухню.)*
**Голас інспектара:** Дык вы вады, выходзіць, амаль што і не спажылі.
**Голас Лілі:** Эканомім.
**Голас інспектара:** Ну хоць гарбату п'яце?
**Голас Лілі:** Калі-нікалі.
**Сцяпан:** Яшчэ кілішкі мыем.
**Інспектар** *(выглянуўшы з кухні)*: Кілішкі? А самі ці мыецеся?
**Сцяпан** *(паціснуўшы плячыма)*: Асабіста я і так цэлы дзень каля вады — помнікі заліваю.
**Голас Лілі:** І ў нас у сталоўцы вады — хоць заліся.
**Інспектар:** Гэта іншая справа. *(Хаваецца.)*
**Голас Лілі:** І гарачай, і халоднай.
**Голас інспектара:** Само сабой. А газ?
**Голас Лілі:** Таксама стараемся лішні раз не паліць, баімося, раптам выбухне.
**Голас інспектара:** Увогуле, здараецца. *(Выходзіць, за ім Ліля.)*
**Сцяпан:** Яшчэ як! У нас на працы балон з прапанам выбухнуў.
**Інспектар:** Калі?
**Сцяпан:** З месяц таму.
**Інспектар:** Не чуў.
**Сцяпан:** Нават ў газеце пісалі.
**Інспектар:** У якой?
**Сцяпан:** Не ведаю, я газет не чытаю.
**Інспектар:** І я. Дык сам выбухнуў, ці што?
**Сцяпан:** А хто яго ведае: стаяўстаяў сабе , а потым як бабахне.
**Інспектар:** Бабахне?
**Сцяпан:** Ага. Дык будку ўшчэнт разнёс.
**Іспектар:** Якую будку?
**Сцяпан:** Сабачую. У нас там сабака ў будцы жыў, Жулік, вось ягоную будку і...
**Інспектар:** Што?
**Сцяпан:** Нічога, акрамя таго, што сабака без будкі застаўся.
**Інспектар:** Шчымлівая гісторыя.
**Сцяпан:** Так, але яшчэ не ўся. Недзе праз тыдзень проста азвярэў.
**Інспектар:** Хто, сабака?
**Сцяпан:** Ён. На людзей пачаў кідацца.
**Інспектар:** А што ж вы хочаце, без будкі хто заўгодна азвярэе *(глядзіць на Лілю)*.
**Ліля:** Пэўна.
**Сцяпан:** Яшчэ добра, што не ў будцы сядзеў, калі бабахнула, а недзе бадзяўся.
**Інспектар:** Так, пашанцала. Ну, пайду я. У вас усё ў парадку, аплачана і пломбы на месцы. Усяго добрага.
**Сцяпан:** І вам таксама ўсяго.
**Ліля:** Заходзьце яшчэ *(інспектар выходзіць)*. Каб ты на карачках хадзіў, каб ў цябе такі мазоль вылез, каб ты адно качаўся.
**Сцяпан:** Чаго ты ўсхадзілася?
**Ляля:** Бач, пломбы на лічыльніках правярае, каб яго чэрці на тым свеце праверылі.
**Сцяпан:** А як жа. І ты на яго месцы правярала б. Ды ў нас інакш нельга. Усё трэба правяраць, правяраць і правяраць. Тамы мы не самі па сабе, а кожны па правяраючым мае, каб калі дзе што не тое як трэба — ён тут як тут.
**Ліля:** А правяраючага?
**Сцяпан:** Што правяраючага?
**Ліля:** Хто правярае, ці ён ніколі не памыляецца, не хібіць?
**Сцяпан:** У яго таксама правяраючы ёсцека.
**Ліля:** А ў таго?
**Сцяпан:** І ў таго.
**Ліля:** Вось як.
**Сцяпан** *(чухаючы патыліцу)*: Выходзіць так. Як той казаў, правяраючы на правяраючым сядзіць і правяраючым паганяе.

*Званок звоніць сем разоў.*

**Ліля:** Зноў нейкая праверка *(ідзе адчыняць)*.

*Уваходзіць Поп, за ім манашка, якая вядзе на вяроўцы Ісуса Хрыста з крыжам на плячы.*

**Поп** *(спявае)*: Благоденственное і мірное житіе, здравіе же і спасеніе...
**Манашка:** Подайце Яго радзі. *(Тузае Хрыста за вяроўку.)*
**Поп** *(спявае)*: ...і во всём благое поспешеніе...
**Ліля:** Што падаць?
**Манашка:** Что можете і сколько можеце. *(Тузае Хрыста за вяроўку.)*
**Поп** *(спявае)*: Подаждь, Господі, рабу твоему і сохрані яго на многая і благая лета.
**Ліля:** Дык мо кілбасак возьмеце, кілбасакі ў мяне з часнаком і кменам засталіся *(лезе па сумку пад стол)*.
**Манашка:** Што вы, деньгі, деньгі давайце. *(Тузае Хрыста за вяроўку.)*
**Поп** *(спявае)*: Многая, многая, многая лета!
**Ліля:** Дзеньгі? Не ведаю я ніякіх дзеньгаў. Няма ў нас.
**Поп** *(спявае)*: Сохрані его, Господі! Прості ему, Господі!
**Манашка:** Так рублі же, ілі долары, тоже можно. *(Тузае Хрыста за вяроўку.)*
**Ліля:** А, вось што. Не, не маем такіх. Пару капеек, праўда, знойдзецца. *(Дастае з кішэні капейкі і кладзе ў руку манашцы.)*
**Поп** *(спявае)*: Многае, многае, многае лета!
**Манашка** *(пагардліва)*: Ну, спасибо! *(Тэатральна кланяецца.)* Большое-пребольшое спасибо! *(Злосна тузае Хрыста за вяроўку.)* Ідем.
**Поп** *(спявае)*: Многае лета!
**Манашка** *(да папа)*: Тіхо! Хватіт уже.

*Поп, манашка і Хрыстос выходзяць.*

**Ліля:** Бач, прашмандоўка, рублёў захацела, пагатоў даляраў.
**Сцяпан:** Мо трэба было даць колькі?
**Ліля:** Надаешся ўсім, яшчэ чаго.
**Сцяпан:** Зрэшты, твая рацыя. Карачышся ўвесь дзень, карачышся....
**Ліля:** Цягнеш, цягнеш...
**Сцяпан і Ліля** *(разам)*: А тут адай.

*Званок звоніць не перастаючы.*

**Ліля:** Гэта сынок! *(Ідзе адчыняць.)*

*Уваходзіць Уладзік са школьным ранцам за спінаю.*

**Сцяпан:** Ну, сынок, як справы, што ў школе?
**Уладзік:** Вершык вучылі. *(Скідае ранец.)*
**Сцяпан:** Які вершык?
**Уладзік:** Атрадны. *(Дэкламуе.)*

Піянеры, піянеры!
Свайго краю ўладары.
Берагчы краіну мусім,
Мы за праўду змагары.
Э-э…Я — піянер краіны Беларусь.
Служу дабру, служу свайму народу.
Кліч піянера….э-э…: «Заўжды будзь гатоў!»

**Ліля:** Што ты прычапіўся, не паспела дзіця ў хату ўвайсці, аксціся, хай спачатку паесць. Сырнікі, сынок, са смятанай будзеш?
**Уладзік:** Буду. *(Сядае да стала.)*
**Ліля** *(наклаўшы на талерку сырнікаў і паліўшы іх смятанай)*: А піражкі з капустай?
**Уладзік:** І піражкі.
**Сцяпан** *(перасеўшы на канапу)*: Ды нічога я не чапляўся, а хацеў толькі заўважыць, каб стараўся, бо без навукі цяперашнім часам анікуды. *(Пазяхае.)* Вось хоць мяне ўзяць. *(Лягае.)* Каб я не ўмеў лічыць, помнікі, нябось, не заліваў бы, бо ў бетонамяшалку за адзін раз маю кідаць дванаццаць шуфляў жвіру, а не адзінаццаць, альбо, скажам, трынаццаць і палову мяшка цэменту. У нас з гэтым вельмі строга, бо, калі недасыпеш, будзе недарасход, а калі перасыпеш — адпаведна, страта. Такім чынам, увесь час лічу, і лічу, і лічу, і лічу. Раз, два, тры, чатыры, пяць *(пазяхае)*... Дык галава ў канцы дня проста пухне.
**Ліля:** А я фарш на вока салю і ніколі не памыляюся. Спецыі там розныя таксама: жменю ці дзве кідаю, і заўсёды патрапляю, — самае тое атрымліваецца. Еш, сынок, еш.
**Сцяпан:** Я ўжо не кажу пра гравёра, які надпісы на помніку выразае. Ого галаву трэба мець, не галаву, а дом саветаў, бо варта толькі адну лічбу пераблытаць, ну, да прыкладу, замест нуля ў 2017 годзе адзінку напісаць, і чорт ведае што атрымаецца...
**Ліля:** Што чорт ведае што?
**Сцяпан:** Як? Маўляў, памёр

**Аляксандр Апон**
пісьменнік, жыве ў Гродне.

чалавек не ў 2017, а ў 2117годзе — вось што!

**Ліля:** І праўда. Еш, сынок, еш.

**Сцяпан:** І літары ведацьмем як свае пяць пальцаў, каб прачытаць, што там на паперцы заказчык накрамзоліў... *(Схіляе набок галаву і пачынае храпсці.)*

**Ліля:** Во рулады выводзіць. Паеў, сынок?

**Уладзік:** Паеў.

**Ліля:** А ці смачна?

**Уладзік:** Смачна.

**Ліля:** Ну, то гуляй сабе.

**Уладзік:** Не, гісторыю спачатку на заўтра павучу, а потым ужо пагуляю.

**Ліля:** Ну то вучы сабе, вучы.

*Ліля прыбірае ўсё са стала ў сумку, якую хавае пад стол, і залазіць у тэлевізар, так што яе больш на сцэне не бачна.*

*Уладзік тым часам, крыху пасядзеўшы за сталом, падыходзіць да бабулі: паказвае ёй язык, грымаснічае, але гэта хутка яму надакучвае. Тады ён варочаецца да стала і дастае з ранца кніжку.*

*Званок звоніць моцна адзін раз.*

*З тэлевізара выглядвае Ліля.*

**Уладзік:** Гэта да мяне. *(Ідзе адчыняць. Ліля хаваецца ў тэлевізары.)*

*Уваходзяць Сталін і Гітлер.*

**Сталін:** Харошы мальчык *(гладзіць Уладзіка па галаве).*

**Гітлер:** Gut, Kinder, gut! *(Таксама гладзіць.)*

*Утрох яны сядаюць за стол, і Уладзік, раскрыўшы падручнік, чытае, водзячы пальцам па радках, а Гітлер і Сталін не гучна, але душэўна спяваюць: Сталін — рускую народную песню «Катюша», Гітлер — нямецкую народную песню « Bruder, lasst uns lustig sein».*

**Уладзік** *(бубніць)*: Несправядлівасць Версальска-Вашынгтонскай сістэмы паставіла многія народы ў зняважлівае становішча, спрыяла прыходу да ўлады сіл, якія імкнуліся да рэрэваншу, новага падзелу свету...

**Сталін:**

Расцвыталы яблыны ы грушы,
Паплылы туманы за ракой.
Выхадыла на бэрэг Катуша,
На высокы бэрэг, на крутой...

**Гітлер:**

Bruder, lasst uns lustig sein,
Weil der Fruhling wahret,
Und der Jugend Sonnenshein
Unser Land verklaret...

**Уладзік** *(бубніць)*: Бітва пачалася 16 красавіка, а трэцяй гадзіне раніцы па берлінскім часе. Пры святле пражэктараў у атаку пайшлі танкі і пяхота. Бой працягваўся ўвесь дзень і не заціхаў уначы... *(Закрывае падручнік.)*

*Сталін і Гітлер устаюць. Сталін дастае з кішэні люльку, раскурвае яе, пасля чаго абодва выходзяць.*

*Уладзік засоўвае падручнік у ранец. З тэлевізара вылазіць Ліля.*

*Выцягнушы з-пад стала сумку, яна дастае піражок з капустай, хавае сумку пад стол і варочаецца ў тэлевізар.*

*Званок звоніць два разы.*

*З тэлевізара выглядвае Ліля.*

**Уладзік:** Гэта да мяне. *(Ідзе адчыняць. Ліля хаваецца.)*

*Уваходзіць Зойка.*

**Зойка:** Урокі вывучыў?

**Уладзік:** Прачытаў. А ты?

**Зойка:** І я прачытала. Пагуляем?

**Уладзік:** Давай.

**Зойка:** У што?

**Уладзік:** У жаніха і нявесту.

**Зойка:** Згода.

**Уладзік:** Ты лягай першай.

**Зойка:** Добра. *(Кладзецца на падлогу і складвае «панябожчыцку» рукі.)* Усё, памерла. Нясі кветкі.

**Уладзік:** А вянок?

**Зойка:** І вянок.

**Уладзік** *(паклаўшы ля Зойкі ўяўныя кветкі і вянок, пачынае румзаць)*: Гы-гы.. У-у-у...

**Зойка** *(ускочыўшы на ногі)*: Не, не так, мужчыны не плачуць.

**Уладзік:** А што робяць?

**Зойка:** Нічога: прыносяць кветкі, вянкі, кладуць і ідуць.

**Уладзік:** Куды ідуць?

**Зойка:** За стол сядаць.

**Уладзік:** А-а-а!!!

**Зойка:** Цяпер ты кладзіся. *(Уладзік кладзецца на падлогу. Зойка галосіць, ламаючы рукі.)* А мой ты, міленькі! А мой ты, родненькі! А на каго ты мяне пакінуў, з дзецьмі маленькімі? А хто іх будзе карміць — паіць- даглядаць? А што ж мне рабіці? А як даць радачкі? *(Плача горкімі слязамі.)*

*З тэлевізара вылазіць Ліля.*

**Ліля:** Гуляеце?

**Уладзік:** Гуляем.

**Ліля:** Ну, гуляйце, гуляйце. *(Бярэ з сумкі піражок і зноў лезе ў тэлевізар.)*

**Зойка** *(выцершы слёзы)*: Хадзем да мяне, мае кудысь выправіліся, штось пакажу.

**Уладзік** *(прыпадняўшыся)*: Што?

**Зойка:** Дай вуха *(нахіляецца і шэпча Уладзіку на вуха).*

**Уладзік** *(падскочыўшы)*: Ну? Гайда!

*Уладзік і Зойка выходзяць.*

*Некаторы час на сцэне зацішша, чутно толькі, як пахрапвае Сцяпан, потым звоніць званок.*

**Сцяпан** *(падхапіўшыся)*: Каго там яшчэ чорт прынёс? *(Ідзе адчыняць.)*

*Уваходзіць Рыгор.*

**Рыгор** *(кінуўшы туды-сюды вокам)*: Твая дзе?

**Сцяпан:** У тэлевізары сядзіць.

**Рыгор:** Мая тамсама. Як залезла, са смены прыпёршыся, дык не вылазіць. Ось я і падумаў: ці не зайсці да цябе.

**Сцяпан** *(пазяхнуўшы і пацягнуўшыся)*: Зайшоў дык зайшоў.

**Рыгор:** І не так, вядома, а праз краму *(дастае з кішэні пляшку і ставіць яе на стол).*

**Сцяпан** *(устрапянуўшыся)*: З гэтага трэба было і пачынаць. Я мігам. *(Знікае ў праёме на кухню.)*

*Рыгор падыходзіць да труны, углядаецца, потым махае перад тварам бабулі рукой. Бабуля нічога ніякага.*

*Тым часам з кухні з кілішкамі выходзіць Сцяпан.*

*Рыгор варочаецца да стала.*

**Рыгор** *(напоўніўшы кілішкі)*: Ну, будзьма!

**Сцяпан:** Будзьма!

*Выпіваюць.*

**Рыгор:** Эх, няма нічога лепшага для здароўя кішак.

**Сцяпан:** Не, няма.

**Рыгор** *(наліваючы наноў)*: І на сэрца толькі ў станоўчым кірунку ўплывае.

**Сцяпан:** Толькі ў станоўчым, толькі так.

**Рыгор:** На сасуды, клапаны там і ўсё іншае як найлепей уздзейнічае.

**Сцяпан:** Ага.

**Рыгора:** Я вось неяк кідаў выпіваць, памятаеш?

**Сцяпан:** Не.

**Рыгора:** Дзень не п'ю, два, тры.

**Сцяпан:** Ого.

**Рыгор:** Чатыры, пяць...

**Сцяпан:** Няўжо?

**Рыгор:** І што ты думаеш на шосты?

**Сцяпан:** Што?

**Рыгор:** Сэрца не вытрымала.

**Сцяпан:** Ну?

**Рыгор:** Натуральна.

*Выпіваюць. З тэлевізара вылазіць Ліля.*

*Рыгор паспешліва прыбірае са стала бутэльку, а Сцяпан кілішкі, але Ліля — стрэляная вераб'іха, яе на мякіне не правядзеш.*

**Ліля:** І калі вы ўжо наглыкчацеся?

**Сцяпан** *(убок)*: Калі ты наясіся. *(Услых.)* Ды мы так, па адным кілішку, чыста сімвалічна.

**Ліля:** Ведаю я вашыя адныя кілішкі. Глядзіце ў мяне.

*Дастае з-пад стала сумку, бярэ піражок, але затым перадумвае і з сумкай залазіць у тэлевізар.*

**Сцяпан:** Бачыў мегеру?

**Рыгор:** От, не зважай. Нават сам *(падымае са значэннем палец угару)* казаў, што ў меру, па пару кілішкаў, не толькі не шкодна, а наадварот — карысна.

**Сцяпан** *(прасачыўшы за пальцам)*: Сам? Няўжо так і казаў?

**Рыгор:** Я што, выдумляць буду? Сваімі вушамі чуў.

**Сцяпан:** Ну, калі так... Найвыдатнейшага розуму чалавек.

**Рыгор:** Не кажы, проста другога такога ва ўсім свеце не знайсці. *(Напаўняе кілішкі.)*

**Сцяпан:** Не, такога другога няма. Дык вось у мяне ў сувязі з гэтым пытанне.

**Рыгора:** Задавай.

**Сцяпан:** Як жыць без яго будзем?

**Рыгор** *(агаломшана)*: А хіба ён памёр?

**Сцяпан:** Не, але ж калісь павінен.

**Рыгор** *(пасля паўзы)*: Так, павінен.

**Сцяпан:** Дык што?

**Рыгор:** Не ведаю.

**Сцяпан:** Вось і я сумняваюся: ці будзем мы, як яго не стане?

**Рыгор:** А халера яго ведае. Зрэшты, там пабачым. А пакуль давай за яго. *(Падымае кілішак.)*

**Сцяпан:** Давай. *(Падымае свой.)*

**Рыгор:** Каб жыў , жыў і жыў...

**Сцяпан:** І каб мы жылі, жылі і жылі...

**Рыгор:** І не паміралі.

**Сцяпан:** Так, так. Ты ўяўляеш, колькі я помнікаў залью, калі не памру?

**Рыгор:** Колькі?

**Сцяпан** *(ускоквае на ногі)*: Мільёны!

**Рыгор:** Ну?

**Сцяпан:** Нават больш. *(Размахвае рукамі.)* Прыкінь: за дзень я заліваю дваццаць пяць помнікаў, сёння нават дваццаць шэсць заліў, дырэктар грамату ганаровую абяцаў, во *(паказвае пальцам)*, на сценку павешу. А за год колькі залью, га?

**Рыгор:** За год? Калі за дзень дваццаць пяць, дык за год... *(Лічыць у розуме, але, відавочна, нешта не сходзіцца, бо спачатку грызе пазногці на руцэ, потым энергічна чэша патыліцу і ў рэшце рэшт прызнаецца.)* Цяжкая, бляха, задачка. Зрэшты, калі ў пляшкі перавесці, дык выходзіць *(тужыцца, як парадзіха)*... э-э-э... м-м-м... чатырыста скрыняў.

**Сцяпан:** Во! А за дзесяць гадоў! А за сто! За тысячу! Га? Гэта ж незлічоная колькасць помнікаў. *(Хапаецца за галаву.)*

*І тут, без званка ў дзверы, страшэнна шоргаючы каменнымі асновамі, усоўваюцца помнікі, розн най канфігурацыі, велічыні і колеру. Іх столькі, што неўзабаве яны засланяюць сабой усё, так што акрамя іх больш на сцэне нікога і нічога не застаецца.*

ЗАСЛОНА.



Усевалад Сцебурака

## Жнівень

І яблыкі падаюць у цішыню,
і зоры злятаюць на ганак.
Ці я гэта бачу, ці я гэта сню
пад ранак?

Туман на світанні, і кроплі дажджу,
і жоўтыя пасмы на шатах,
і клёкат бусліны імкне ў вышыню
над хатай.

Расплюшчыўшы вочы, я ціха ляжу
Гадзіннік маўчыць. Зламаўся?
Не хочацца ўдзень пераходзіць мяжу,
каб жнівень даўжэй затрымаўся.



Наста Кудасава

## ***

там, дзе сон даланёй азёрнай
закалыхвае страказу,
дзе надкусваеш яблыкі зораў,
дольку поўні спрабуеш на зуб,
дзе паркаль блакітных крыніцаў
п'е ружовы адзінарог,
дзе няма патрэбы маліцца —
кожны кожнага там збярог;
дзе шчаслівы, без вечнага «дай мне»,
бог узрошчвае свой багун,
там, дзе не бывае расстанняў,
там, дзе я без цябе магу.



Стась Карпаў

## Толькі такімі

Перш, чым выплача дождж горкі лёд красавіцкай віны,
Будзе дзень, калі сонца лізне шкло чужых акуляраў,
І акно пралііецца вадой са сваіх капіляраў,
І пацягнецца ў неба на шыбе слупок крывяны.
І ты будзеш сачыць, да акна прытуліўшыся лбом,
За птушыным палётам над безданню восеньскай багны.
Кожны рух іх павекаў — нібы закрыццё дыяфрагмы.
Нібы нехта бясконца бясконца збірае свой фотаальбом,
Нібы нехта паверыў у доўгую памяць вады,
Астываннe ўсіх водаў сусвету у сонечнай ванне,
І палёў, і лясоў, шчасцяў, гораў — усяго астывання,
Таму трэба ісці. Ад таго, для таго і тады —
Праз рыпучую хісткую гаць і праз верас руды,
Па пажоўклай траве, па пярэстай вільготнай мякіне.
Каб здагнаць гэтых птушак. Каб ён нас запомніў — такімі.
Бо калі не такімі, то сэнсу няма сапраўды.
Бо калі не такімі, то хай астываюць лясы.
Бо калі не такімі, то хай закончыцца стужка.
Паглядзі ў вышыню, не міргай. Хутка выляціць птушка.
Усміхніся яму. І з вачэй прыбяры валасы.



Святлана Куль

## Да і ад

Я аказалася нязграбным нейкім Каем:
Штогод з адною літарай гуляю,
Такая недарэчная бяда,
Заўжды выходзіць «ад» заместа «да».
Перастаўляла гэта «д» да стомы,
Але дарога зноў вяла ад дома,
Я мацавала дзягай і цвіком,
Ды з кожным крокам аддаляўся дом.
Кругазварот маіх начэй і раніц
Адвечны, як намолены руманец,
Дзе за «ісці» знаходжу наўздагад
Адзіны накірунак — злучнік «ад».
Падумалася — верце ці не верце —
Ад нараджэння не дайду да смерці,
Наперадзе далёкі далягляд,
Дзе злучнік «да» заменены на «ад».




**Віцебскі творчы дуэт StreetSkills зрабіў падарунак гораду: мастакі Глеб Каштанаў і Ян Кузьмін намалявалі на будынку трансфарматарнай падстанцыі ў двары дома №7 па Маскоўскім праспекце партрэт Васіля Быкава. Каля фігуры — выслоўе: «Чалавек, як і кожная жывая істота ад Бога, нараджаецца свабодным».**




**20 гадоў таму, 6 верасня 1997 года, быў створаны Малады фронт — арганізацыя, якая адыграла важную ролю ў абароне незалежнасці Беларусі і барацьбе за грамадзянскія правы. З гэтай нагоды ў сацыяльных сетках прайшла хваля: былыя маладафронтаўцы публікавалі свае здымкі той пары. На фота: Павел Юхневіч, які стане таксама важаком «Зубра».**



**Дзень ведаў у беларускамоўным 7-м класе 29-й школы ў Берасці.**



**Плыўчыха Аляксандра Герасіменя выйшла замуж. Яе абраннікам стаў калега, Яўген Цуркін. Пара ўжо досыць даўно сустракалася.**
**Фота з вяселля, якое адбылося на аграсядзібе «Панскі маёнтак Сула» ў Стаўбцоўскім раёне, з'явілася ў інстаграме іх сяброў.**



## Анекдоты і жарты

Вяртанне да пяцібальнай сістэмы — гэта паўмера нейкая. Трэба вярнуцца да старых рублёў!

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё: ці магчымыя беспілотныя аўтамабілі ў краіне з ручным кіраваннем?

* * *

Сабака, гаспадар якога любіць доўга паспаць, зрабіў сабе другія ключы.

* * *

Чатыры вершнікі апакаліпсісу: фатограф, ды-джэй, вядоўца і мама нявесты.

* * *

Трэба выбіраць такую жонку, з якой можна схадзіць і ў самы шыкоўны рэстаран, і залезці па яблыкі ў сад да суседа.

* * *

Паважаныя Кім Чэн Ын і Дональд Трамп! Не пачынайце, калі ласка, пакуль ядзернай вайны, а то ў мяне водпуск у верасні. Дзякуй!

* * *

— Спадзяюся, галоўныя героі ў канцы загінуць.

— Мы ж глядзім рэп-батл.

— Я памятаю.

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Ніхто і нішто не выцягае так многа грошай з мужыцкай кішэні**, як праклятая манаполька. Наш мужык-беларус не пазнаў яшчэ смаку ў чытанні газет, кніг. Затое ён знае смак у гарэлцы і на гарэлку гатовы аддаць апошні грош. Так, у сяле Мікалаеўшчыне Мінскай губерні прапіта грошай ад новага года да 1 аўгуста 5012 рублёў. У мястэчку Новы Свержань манаполька таргуе за год на 20 000 руб. [Каб вы параўналі: бохан чорнага хлеба тады каштаваў 6 капеек, кілаграм свініны, выразкі — 50 капеек.]

**«НН», №30, 1907**

**Пракуратура Расеі: Гуцэрыеў уцёк праз Менск.** Экс-кіраўнік кампаніі «Роснефть», мільярдэр Міхаіл Гуцэрыеў, аб'яўлены Расеяй у міжнародны вышук па абвінавачанні ў незаконным прадпрымальніцтве й ухіленні ад падаткаў, знаходзіцца ў Турцыі, заявіў прадстаўнік Генпракуратуры РФ. «Было ўсталявана, што ад 30 ліпеня Гуцэрыеў знік, што ён з аэрапорта Менска вылецеў у Турцыю», — сказаў прадстаўнік пракуратуры.

**Пратэст і супраціў на вуліцы патрэбныя.** Калі не будзе Маладога фронту на вуліцах — па апазіцыянераў рэжым прыйдзе на кухні. Павел Севярынец — у анлайн-інтэрв'ю.

**«НН», 6 верасня 2007**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
в. а. галоўнага рэдактара Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
наменікі галоўнага рэдактара Андрэй Скурко, Зміцер Панкавец
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 327-42-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by
**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
Наклад 5001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 05.09.2017.
Замова №3370.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

